

ЦІБАР ДЗЕРЫ

# Мілы ба-пэр!..

Аповесць

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1983

Нарадзіўся я ў Будапешце, у канцы дзевяностых гадоў, значыць, калі не памыляюся, мне цяпер бліжэй да сямідзесяці, чым да васьмідзесяці. Усе сямейныя дакументы, у тым ліку мая метрыка і пасведчанне аб хрышчэнні, загінулі ў час асады Будапешта пад руінамі разбуранага бомбай нашага дома, а раздабыць копіі, хоць з тае пары прайшло ўжо тры дзесяцігоддзі, мне, відаць, не было калі. Я яшчэ магу, калі гэта трэба, успомніць дзявочае прозвішча маёй маці, а таксама жончына, забыцца сваё не змог бы, нават калі б і хацеў, бо даваць аўтографы яшчэ і цяпер — я не кар'ерыст — даводзіцца часта. Сярод іншых звестак, што зберагае памяць і што маюць дачыненне да кнігі запісаў актаў грамадзянскага стану, нельга не згадаць пра майго сына-першынца, які ў сярэдзіне саракавых гадоў богведама з якой прычыны памёр маленькі; жонка мая адмучылася шмат пазней, гадоў праз дзесяць пасля яго, раджаючы мне другога сына Тамаша, з якім мы і жывём удвух ужо шаснаццаць гадоў. А можа, і семнаццаць, магчыма, зрэшты, і васемнаццаць, калі не ўсе дзевятнаццаць.

Раз ужо прырода дала мне такую выдатную памяць, то трэба яе скарыстаць. Адсюль і гэтыя запіскі. Зразумела, пішуцца яны самому сабе, як курыца нясе яйкі сама сабе, і перад смерцю я думаю іх знішчыць. Зрабіць гэта самому мне, натуральна, не хопіць душэўных сіл, а таму прашу кожнага, хто першы знойдзе гэтыя запіскі, быць да мяне літасцівым і спаліць іх. Ды дзе там, і гэтая просьба не будзе выканана: хто адважыцца знішчыць хоць бы адзін радок вядомага ўсёй краіне пісьменніка? Мо сын Тамаш гэта зробіць? Але хіба ж не яму кожны мой чых, нібы запаведзь святога пісання, хіба ж асмеліцца ён так пасмяяцца з мяне нават у самым глыбокім сне? І ўвогуле, дзе ён будзе ў той час, калі я памру? У той самотны світальны час — бо здарыцца гэта на досвітку,— калі я з апошняй грымасай памахаю аднойчы ўсяму свету рукой.

Дзе ён будзе? У Каці ў пасцелі, ліха на яго! Ля маёй жа пасцелі будзе бавіць ноч які-небудзь філолаг, а то і двое-трое разам, усе такія адданыя, не кажучы ўжо пра абавязковага рэпарцёра, які, цягнучыся дахаты з «Фесека» [1], зазірне да мяне, каб, наставіўшы шарыкавую ручку, перахапіць мае апошнія хрыпы і падкінуць іх у нумар перад самай здачай у набор. А, дарэчы, якое будзе маё апошняе слова? Даверыцца натхненню ці адпрацаваць яго папярэдне? Вядома, памяць у мяне яшчэ выдатная, але каб хоць у спешцы, у апошнюю хвіліну ўсё-такі не забыцца падрыхтаванага тэксту. Хіба што накідаць колькі слоў на паперцы і засунуць пад падушку. У сваім прыватным жыцці я не падкі на сенсацыі, гэта праўда, але перад публікай трэба пільнавацца правілаў прыстойных паводзін, і апошняе слова ёсць не толькі права, а і абавязак чалавека.

---

[1] Клуб артыстычнай інтэлігенцыі ў Будапешце.

Зрэшты, пакуль што я абсалютна здаровы і, відаць, магу яшчэ гадоў з дзесяць спакойна разважаць на гэтую тэму.

Над арэхавымі дрэвамі майго саду, высока ў небе пралятае балканская галубка, за ёй другая, і абедзве, павольна ўзмахваючы крыламі, прымінаючы ў прагрэтым паветры сцежку, нібы нагамі ў траве, знікаюць за дахам суседняе вілы. Вось каб і я мог гэтак нячутна знікнуць у наканаваных мне кругах пекла!

Дык вось, жывём мы з сынам у адзіноце семнаццаць, васемнаццаць, зрэшты, можа, нават і дзевятнаццаць гадоў. Памяць на даты ў мяне кепская, таму я не ведаю, колькі мне гадоў, ды гэта і не мае ніякага значэння. Гады свае я лічу па колькасці зубоў; разцы і іклы ў мяне, за выключэннем аднаго, ніжняга, усе на месцы, праўда, чатыры-пяць карыёзных карэнных давялося вырваць, але што іх няма, можна заўважыць толькі тады, калі я зарагачу. Смяюся ж я рэдка і не інакш як толькі з чужое бяды, а паколькі чалавек я, па сутнасці, добразычлівы, то прычынай маёй весялосці бывае найчасцей які-небудзь стары з кропляй пад носам халодным зімовым днём. Заўважыўшы ў яго ў ноздрах вільгаць, я неадчэпна сачу, як яна збіраецца ў кроплю, выкочваецца з ноздры і нейкі час яшчэ вісіць на кончыку носа. Найцікавей мне тое, колькі ж яна правісіць. І калі, нарэшце, у момант поўнага наспявання, выцягнуўшыся грушай і паблісказючы, яна падае раптам на штрыфель паліто альбо на камізэльку няшчаснага старога, я не магу стрымаць смеху. А стары запыняе на мне доўгі, цьмяны і тупы позірк, не разумеючы, чаго я развесяліўся. І калі тым часам наступная кропля...

А з усяго гэтага яскрава вынікае, што, хоць мой уласны нос пакуль што яшчэ сухі, мяне бярэ страх,

каб і мне, рана ці позна, гадкоў, скажам, праз дзесяць, не трапіць у такую самую бяду.

Вось, напрыклад, мой калега, Ферэнц Галгомачаі, знакаміты паэт, намнога маладзейшы за мяне — хай бог сцеражэ яго яшчэ не менш як сто дваццаць гадоў,— аднак з носа ў яго цячэ зімой нават у нацепленым пакоі.

Сустрэўся я нядаўна з ім у марозны дзень на плошчы Свабоды. Элегантны кароткі кажушок, вузкія замшавыя штаны, шырокі блакітны шалік вакол шыі, футравая шапка набакір. Ён вечна ахінае сваё лядашчае цела самымі моднымі трантамі, толькі б не адстаць ад зухаватай моладзі.

Кідаю позірк на яго доўгі нос. І адразу ж падымаю вочы ў неба. Адкінуўшы галаву назад, і ён услед за мною ўзіраецца ўгару. Знізу мне добра відаць яго ноздры, правая адразу робіцца вільготнай.

— Што ты там бачыш? — пытаецца ён.

— Галубку,— кажу я летуценна.— Вельмі люблю галубак. Дарэчы, ты чытаў Карая?..

— Чытаў,— адказвае ён.— Слабізна.

— А-г-га,— адгукаюся я.

Кропля тым часам выспявае, уся мая ўвага скіравана на яе, я не магу засяродзіцца на слабасцях Карая. Ды і ўвогуле не чытаў я яго. Раптам я з жахам заўважаю, што рука прыяцеля майго Ферэнца Галгомачаі лезе ў кішэнь, відавочна, па насавую хусцінку. Рука дрыжыць. Хвароба Паркінсона? Ці проста старэчы трэмар? Але цяпер мне няма калі разбірацца ў гэтым. Я павінен адцягнуць яго ўвагу.

— Глянь, глянь, вунь яна,— кажу я, пільна ўглядаючыся ў неба.

— Яшчэ адна галубка?

— Ды ўжо ж не сава,— адказваю.— З савой я сустракаўся апошні раз на старонках раманаў сясцёр Бронтэ.

— А я ў Пуркерсдорфе, па званіцы храма святога Гераніма,— паведамляе мой калега,— прытым трапіўся старэнькі, нягеглы экземпляр. Але вочы ў яе зырчэлі, як карбункулы.

— Карбункулы? Смеху варта! Лексіка Іокаі [1]!

— Ай, вось іменна, быццам кар-бун-ку-лы,— паўтарае ён меладычна, анапестам.— Калі ж гэта? Ды ўжо больш як чвэрць веку, сябрук! Больш дакладна, летам сорак сёмага, у жніўні.

Асляпляе сваёй памяццю, нібы карбункулам.

— Не магло быць у жніўні сорак сёмага,— кажу наўздагад, каб адцягнуць час,— тады яшчэ не давалі пашпартоў для выезду на Захад.

— Мне далі,— кажа ён і з дакорам глядзіць на мяне, потым апускае галаву, рука яго зноў вобмацкам цягнецца да кішэні. А я, нібы зачараваны, не магу адарваць вачэй ад яго носа. На шчасце, сіла зямнога прыцягнення перамагае якраз у пару, кропля, падобная да грушы, адрываецца ад ноздры і ўжо паблісквае на штрыфлі моднага кажушка. Я ўсміхаюся... ды дзе там!.. Рагачу.

— Чаго ты смяешся?

— Так сабе.

Даўнавата жыву я з сынам удвух! Праўдзівей, адзін, хоць і з ім, на чале ўсё больш рэдкай працэсіі ўспамінаў, якія ўсё больш камянеюць, працэсіі, якую суправаджае даволі шумным акампанементам Тамаш. Ну, а калі б не было Тамаша? Ці лепш было б мне зусім аднаму, спадзеючыся толькі на тое, што, калі прыйдзе мая чарга, чыя-небудзь чужая рука літасціва падатрэ мае соплі-сліну?

Я пакуль што не маю патрэбы ў сынавай падтрымцы і не прагну яе, але сын служыць адзінкай

---

[1] Іокаі, Мор (1825—1902) — венгерскі пісьменнік-рамантык.

вымярэння пры ацэнцы майго фізічнага і духоўнага згасання. Калі да мяне ўсё яшчэ даходзяць яго прасценькія, дурнаватыя пытанні і сумненні, значыць, я яшчэ пры сваім розуме і яшчэ даволі памяркоўным тэмпам, як павук па павуціне, спускаюся да варот свайго пекла. Увогуле ж, калі я не памыляюся, з Тамаша вырасце здаровы, звычайны чалавек, які будзе наіўна важнічаць, чалавек са звычайнымі пачуццямі і адпаведнай ім абмежаванасцю, пра што сведчыць яго любоў да парадку і проста неверагодная праўдзівасць. Мала-памалу пазбавіцца ён і ад успрынятага з дзяцінства пакланення мне, дазнаўшыся з часам, колькі лгаў я за сваё жыццё, асабліва ў маладосці, калі яшчэ была ў тым патрэба, і стане пасля гэтага, безумоўна, больш здаровай натурай. Я прарочу яму доўгае жыццё, хоць яно, напэўна, будзе карацейшае за маё.

З расчуленасцю ўспамінаю пра тое, як годна паводзіў я сябе ў адносінах да сына пасля смерці яго маці, і не толькі калі ён быў зусім маленькі, але і шмат пазней, калі ён ужо хадзіў на сваіх ножках. Нібы наважыўшыся выправіць усе памылкі свайго жыцця, інакш кажучы, сімвалічна, у асобе аднаго чалавека адплаціць за ўсе крыўды, якія я, магчыма, учыніў усяму чалавецтву, я кожны боскі дзень роўна ў сем гадзін вечара — нават калі дзеля гэтага трэба было пакінуць пасцель палюбоўніцы альбо адарвацца ад карцёжнага стала — паяўляўся на вячэрняе купанне немаўляткі і чакаў да таго часу, аж пакуль яго паложаць у пасцель, каб ён змог панесці ў азмрочаныя болямі ў страўніку сны аблічча схіленага над ім бацькі. Каб не сумаваць, я выправаджваў часам няньку і купаў дзіця сам. Паклаўшы далонь пад яго патыліцу, я асцярожна пагойдваў галоўку немаўляткі над вадой, гледзячы з лёгкай гідлівасцю на ружовае цельца, якое перабірала ножкамі, выгі-

налася, курчылася, слухаў слабыя выкрыкі, што нагадвалі гукавой гамай кароткія выкрыкі яго маці, калі яна, бывала, начамі шукала радасці ў маёй пасцелі. Успамін гэты спачатку забаўляў мяне, але з часам я адышоў ад ваннага пакоя і заняў сваё месца бацькі і гаспадара сям'і ля калыскі дзіцяці, а пасля каля яго ложка.

Ён ужо выйшаў з маленства, калі я, седзячы неяк вечарам каля яго пасцелі і ў думках малюючы абрысы маці над яго сонным дзіцячым тварыкам, заўважыў раптам, як лёгкае летняе пакрывала прыўзнімаецца над яго пахвінай. Прызнаюся, я быў ашаломлены. Ашаломлены так, што толькі праз некалькі хвілін устаў і выйшаў з дзіцячага пакоя.

Выйшаўшы ў сумежны пакой, які некалі быў жончынай спальняй, і спыніўшыся перад вялікім, да самай падлогі, люстрам, я ўзяўся вывучаць свой адбітак. З суседняга пакоя чулася ціхае, мірнае сапенне дзіцяці.

Мне канцы, паўтараў я сам сабе ашаломлена. У мяне ўжо ёсць пераемнік. Мне канцы. Да гэтага часу свет належаў мне, і вось уваходзіць ён. Значыць, я старэю. Што са мной будзе?

Я паспрабаваў палічыць, колькі ж мне гадоў. І маладушна пакінуў гэты занятак. Лічбы, здавалася, пацвярджалі мой вывад. Я працягваў разглядваць свой адбітак у люстэрку. Выгляд мой супярэчыў маім вывадам. Біялагічны мой узрост, бадай, быў меншы, чым колькасць маіх гадоў. Я ўсё яшчэ быў вышэйшы за сярэдні рост на цэлую галаву, а то і на паўтары, жывот падцягнуты, пастава не горшая, чым у маю бытнасць гусарскім паручнікам, у доўгіх маіх валасах, хоць і сталі яны зусім белыя, іншы раз усё яшчэ аставаўся зуб ад грабянца, шчокі гладкія, без зморшчын; зморшчыны на лобе — сведчанне не ўзросту, а працы, ды і паходка — я ўсё прыглядаў-

ся да яе, неспакойна ходзячы ўзад-уперад па пакоі і раз-пораз вяртаючыся да люстэрка,— як і раней была спружыністая і бясшумная; помню, калі я вось так жа пад вечар заходзіў да жонкі — тады яна яшчэ жыла, нябога,— яна кожны раз уздрыгвала, бо не чула за дзвярыма маіх крокаў. І голас мой быў усё яшчэ па-маладому рэзкі, быццам свіст мяча, хоць меч, праўда, крыху ўжо вышчарбіўся.

Дык вось, стаю я перад люстэркам... Цяпер я ўжо разумеў, што азначае выраз: забіты напавал. Альбо: удар кінжалам у спіну. Я ўвесь калаціўся ад абурэння і, не ведаю, ці прызнавацца, ад страху смерці. У люстэрку я глядзеў на свае доўгія белыя валасы, якія зноў мяне не падманвалі. Як і гусіныя лапкі каля вачэй, якія яны ні тонкія. Першая сынава эрэкцыя, як чырвоны сцяжок, знак забароны, падняты перада мной: сцеражыся, далей прорва! Як чырвонае вока семафора: далей дарогі няма! Гэты семафор паўстаў перада мной, нібы крутая гара, быццам скала, паўстаў неадольнай перашкодаю маім спружыністым бясшумным крокам у будучыню, якая толькі што здавалася бясконцай. Я ўпершыню адчуў, што памру. Да гэтага часу не верыў, бог таму сведка, не лгу.

Мяне ледзь не калаціла. Пасля я мог, як і раней, валодаць сваім арганізмам пры любой душэўнай калатнечы, самае большае, чым ён выяўляў сябе — гэта сярдзіты ўздых і зрэдку зубоўны скрогат ці кароткі ўдар кулаком па стале. А цяпер у мяне дрыжалі нават ногі. Я падцягнуў да люстэрка крэсла, сеў. І ўсё разглядаў сябе. Гэтая маленькая, ужо гатовая да запуску ракета перавярнула ўсё маё нутро, цяпер я ўжо ведаў, усё зразумеў: новае паглынае старое. Мне канцы. Хвіліна тая мяне так узрушыла, што ў той вечар я нават не выйшаў з хаты, бо апынуцца сярод людзей было б невыносна.

Спадзяюся, што час маёй сапраўднай смерці я сустрэну з большай вытрымкай. Праўда, да таго часу я намнога пастарэю.

Удар лёсу пазбавіў мяне нават звычайнага пачуцця гумару. Я занадта сур'ёзна паставіўся да сябе, а значыць, і да навакольнага свету. На шчасце, увайшла мая аканомка Жофі і спыталася, ці не прыгатаваць мне вячэру, раз я ўжо так заседзеўся дома.

— А чаму ж не,— адказаў я.

— Значыць, згатаваць?

— Не трэба. Скажыце, Жофі, колькі вы зарабляеце на маім харчаванні?

— Як гэта?

— Ну, хоць прыблізна... Колькі ў сярэднім за год?

— Не разумею я вас, малады пан.

Яна ўсё яшчэ так мяне называла, хоць галава мая даўно ўжо белая-бялюткая.

— Я пытаюся, колькі вы крадзяце ў мяне ў сярэднім за год на маім харчаванні? — сказаў я, нават не запнуўшыся.— Ці вам зручней штомесячна?

Я без смеху глядзеў на Жофі, якая хапала ротам паветра і з пратэстам падняла дрыготкія рукі; зрэшты, мне ўвогуле было не да смеху, што праўда дык праўда.

— Колькі грошай вы ўжо прыхавалі ад мяне ў ашчаднай касе? — спытаўся я, гледзячы ёй проста ў вочы, цікавячыся, калі ж нарэшце ў яе на вачах выступяць слёзы. Але ў той вечар у мяне абсалютна нічога не выходзіла. Старая апусціла паднятыя рукі, нечакана засмяялася густым хрыплым смехам і ўсім сваім грузным целам рушыла да мяне, шоргаючы нагамі. Абышла мяне ззаду і раптам пацалавала мяне ў макаўку.

— Благі гэта жарт, малады пан,— сказала яна,—

не на вашыя гады. Калі б не ведала вас богведама з якога часу... Чым са мной так жартаваць, лепш бы выхаваннем гэтага нягодніка заняліся...

— Што там зноў з ім?

— А... сказаць нават сорамна.

— Ну?

— Дык хто ж, як не ён, спадніцу задраў сёння той дзяўчынцы, што вашы сарочкі прыносіла з пральні. У дом больш не пушчу той паршыўкі.

— Навошта ж не пускаць? — сказаў я.— Пускайце, няхай хлопчык вучыцца.

— Іншаму чаму-небудзь няхай вучыцца, нягоднік.

— Жофі,— сказаў я,— вы вечарамі, як паложыце хлопчыка спаць, не заўважалі, што там творыцца пад яго коўдрай?

Жофі маўчала.

— Дазвольце, паночку, я па сваіх справах пайду,— сказала яна, крыху счакаўшы, пачырванеўшы ўсім сваім старым зморшчаным тварам.— Са мной не гаварыце пра такое паскудства!

— Дык жа не я раблю такое паскудства, Жофі,— сказаў я,— але што праўда, то праўда: там, пад коўдрай, рыхтуецца вялікае свінства. Хіба ж ёсць большае свінства, Жофі, чым смерць? Там, пад коўдрай, свісцёлкай майго сыночка мне кожны вечар выносяць смяротны прысуд. Свісцёлка расце, а мне ўжо свішча магіла. Гэтая маленькая свісцёлка стане фанфарай перад маім апошнім прысудам.

— Вам вячэру згатаваць, паночку? — спыталася старая.— Ці хопіць бляшаначкі сардзін, масла, чаю? А мо яшчэ чаго?

— Вы хочаце перажыць мяне, мая старэнькая? — спытаўся я.— Там жа пад коўдрай і па вашай душы свішчуць. Колькі вы яшчэ збіраецеся працягнуць з гэтымі стаптанымі, апухлымі нагамі, з хворай пояс-

ніцай, з такімі зношанымі сардэчнымі клапанамі? Чаму вы, зрэшты, на пенсію не ідзяце?

— Вось гэта мне ўжо пэўная смерць,— сказала Жофі.— Вы ўжо пацярпіце, яшчэ крыху папоўзаю тут каля вас.

Навошта, спытацца, чалавеку да сваіх пакут дабаўляць раны сваіх блізкіх? Чаму ён, калі яму блага ў сваёй шкуры, чэрпае радасць у тым, што і некаму не лепш? Такі бязмежны эгаізм яго? Чаму нам невыносна, што сусед наш мацнейшы, здаравейшы, маладзейшы? О, галоўнае, што маладзейшы! Разуменне свайго бяссілля спараджае зайздрасць, як памыйная яма чарвей. Яшчэ некалькі лічаных гадкоў, і гэтая сімволіка распаду пачне выступаць на мне і там і сям, і зларадпасць, што заўсёды ідзе побач з зайздрасцю, усё часцей пачне прасіць слова, ды я і цяпер іншы раз скаланаюся ад таго, што не магу стрымаць рогату, калі бачу старога з кропляй пад носам. Вось і тады — хоць усю ўвагу займала Тамашава свісцёлка — помню, як я ледзь не весела глядзеў на атлусцелую згорбленую спіну Жофі, калі яна, шкрэбаючы нагамі, выходзіла з пакоя: яе-то я ўжо пераджыву, гаварыў я сам сабе. І нават нібы расчуліўся. Ну і хай сабе пакрысе крадзе, думаў я — у той момант я не сумняваўся ў гэтым,— усё роўна мне пакіне свае грошыкі, радні ж у яе няма ніякай. Чым больш украдзе, тым больш мне застанецца. Трэба сказаць, што ў той час, як мне здалося, я знайшоў на багатай каляровай палітры сваёй натуры пэўныя адзнакі скупасці.

Ну, а калі пакіне ўсё-такі свае грошы не мне? Калі, напрыклад, ахвяруе іх кішкіманшайскаму сірочаму дому альбо манашкам багоцкага ордэна святой Маланні? Таксама не бяда! Чаму б і мне не прыняць удзелу ў аздараўленні грамадскай маралі, а тым больш на чужыя сродкі? Што з таго, што я не веру

ў магчымасць духоўнага ўдасканалення, калі, хай сабе не верачы, раблю тое самае, што зрабіў бы той, хто верыць. Гэта нават нельга назваць крывадушнасцю, калі высакародны рух маёй душы я суправаджаю тонкай усмешкай.

Божа ты мой, прайшоў той час, калі я — як кажуць, з радасцю — палажыў бы галаву пад меч у імя сваіх ідэалаў. Ну, хай сабе без радасці, але палажыў бы. І не толькі грошай не пашкадаваў бы — у дадзеным выпадку грошай Жофі,— але і ўсе зямныя даброты, калі б я іх меў, аддаў бы, не вагаючыся, за высакародныя мэты, якія я сам так прадбачліва выбраў. Не толькі «vita et sanguis», але і «avena» [1]...

У штоператвараецца чалавек? — ашаломлена пытаюся я цяпер, на схіле доўгага жыцця.

Які бесклапотны быў я некалі! Які нядбалы да таго, што меў, а яшчэ больш да таго, чаго ў мяне не было. Я адчуваў у сабе такія запасы сіл, якіх хапіла б і на сто жыццяў, і шчодра дзяліўся імі і сваімі грашыма з кім папала і сваю будучыню бяздумна закідваў за спіну, нібы цёплы плашч, якому зносу няма. І вось цяпер... цяпер я стаў скупечаю, horribile dictu [2], мне нават чужой крыві шкада. Не кажу ўжо пра свой набытак. Пазайздросціў тым мізэрным грашам, якія крадзе Жофі, ведучы маю хатнюю гаспадарку.

А ці даўно такое са мною?

Калі не памыляюся, скупасць мая пачала расці ў той час... Больш дакладна: я з таго часу пачаў назіраць за сабой і весці судова-медыцынскі пратакол,

---

[1] «Жыццё і кроў», «авёс» *(лац.)* — іранічная спасылка на вядомы дэвіз феадалаў — «жыццё і кроў за сюзерэна»: не толькі «жыццё і кроў», але і «авёс» — гэта значыць, гатоўнасць і да матэрыяльных ахвяр.

[2] Страшна сказаць *(лац.)*.

калі мужчынская Тамашава сіла паўстала супраць мяне. Супраць мяне, ці ж не добра сказана?

На другі дзень, а магчыма, яшчэ праз дзень, вонкава крыху супакоіўшыся, я пайшоў да свайго сябра доктара Шандара, чый сын прыкладна аднаго ўзросту з маім. Шандар чалавек не надта разумны, але ён мне і падабаецца менавіта сваёй звычайнасцю. Дзякуючы ёй ён нават не выказаў ніякай радасці, калі я зайшоў.

— Ну...

— Ну...

— Хачу пра сёе-тое спытацца ў цябе, Шандар.

— Давай. Папрасіць жонку выйсці?

Жонка ў яго маладая, прыгожая, з гарачымі, падобнымі на міндаліны, вачыма на скуластым, як у татаркі, твары. З такім танюткім станам і клубамі, якія злёгку падрыгвалі, яна не зганьбіла б сябе і ў пасцелях, лепшых за гэтую. Не ведаю нават, дзе раздабыў яе Шандар.

— Што ты, не трэба! Я пра твайго сына хачу спытацца. Ён жа прыкладна Тамашаў аднагодак...

— У кастрычніку было восем. А твайму?

— Восем? Штосьці каля гэтага.

— Не ведаеш, колькі гадоў сыну?

— Я сваіх і то не ведаю.

— Ах, Флорыш... Флорыш! — усклікнула жонка Шандара і пагразіла мне пальчыкам.— Вы какетнічаеце сваім узростам.

— Магчыма,— сказаў я рэзка. Мне сапсаваў настрой гэты пошлы жэст, які так не пасаваў да яе шляхетнай паставы, гэты маленькі ўказальны пальчык, што пагражаў мне.— Скажы, Шандар, у твайго сына ўжо была эрэкцыя?

— Як ты сказаў?.. Ці была ў яго?.. Ну, вядома ж, была.

Жонка яго пачырванела. Цяпер я дараваў ёй той

дурацкі жэст, бо пачырванела яна натуральна, прыгожа.

— Ну а ты? — спытаўся я ў Шандара.— Якое на цябе гэта зрабіла ўражанне?

— Якое? Я ўзрадаваўся. Здаровенькі хлопчык расце.

Чаго ж яшчэ чакаць ад дурня?

— Дурны асёл,— сказаў я.— Да цябе не даходзіць, што ты памрэш?

— Бач ты яго! Гэта ж магло мне прыйсці ў галаву і тады, як ён толькі на свет паявіўся, мне ж было ўжо за сорак.

— І што імпатэнтам хутка станеш, ты не падумаў?

— І пра гэта не думаў,— зарагатаў Шандар.— Гэта ўжо жончын клопат.

Я ўстаў і развітаўся. Не стаў чакаць, пакуль гумар гэтага гуллівага самца канчаткова адаб'е ў мяне смак да жыцця. Яны не вельмі здзівіліся майму раптоўнаму адыходу, я даўно прывучыў іх глядзець на пісьменнікаў як на вар'ятаў; гэта задавальняла і іх і мяне.

Уласна кажучы, у той час, калі я пачаў за сабой назіраць, значыць, прыкладна гадоў з дзесяць назад, прычын такім назіранням яшчэ і не было. Гэта была яшчэ мая пераходная пара, гэтакая ранняя вераснёўская восень, прыродай яшчэ не надта пазначаная, хіба што толькі паветра крыху халаднейшым здавалася пасля жнівеньскай спёкі. Калі б мой сынок не выкінуў супраць мяне свайго бунтарскага сцяга, я старэў бы сабе, не заўважаючы гэтага: гэта было б не надта цяжка, бо валасы мае даўно ўжо былі белыя, як снег, а зморшчын на твары да таго часу бадай што і не прыбавілася — так, крыху,— памяць жа папсавалася не больш, чым лісце абрыкосавага дрэва ад лёгкага подыху ветрыку; я з аднолькавай

дакладнасцю, як мне помніцца, мог узнавіць і падзеі дзесяцігадовай даўнасці, і тое, што адбылося ўчора. Іменаў я амаль ніколі не блытаў. І яшчэ рэдка бывала са мною ў той час, каб я, седзячы ў садзе пад вялізным арэхавым дрэвам і пазіраючы на спакойнае пагойдванне пасаджаных уздоўж бакавой сцяны дзевяці таполяў — гэтае пагойдванне захоплівае дрэвы цалкам, ад вяршыні да зямлі, зверху данізу,— так тады яшчэ рэдка бывала, каб я раптам міжволі ўздыхнуў. Маё цела, мой мозг былі яшчэ бездакорныя ці, ва ўсякім выпадку, мне так здавалася. З улікам, вядома, таго невясёлага факта, што чалавечы арганізм пачынае разбурацца з моманту нараджэння і адначасна з ростам увесь час разбураецца. Не было ў мяне зайздрасці, калі я чуў за спіной дзіцячы тупат і тут жа бачыў, як імклівая фігурка ў імгненне вока пакідала мяне ззаду,— я быў перакананы, што пры жаданні мог бы лёгка бегчы ўпоравень з ім. Проста я не хацеў бегчы. І чаму той факт, што я не хацеў бегчы, лічыць прыкметай старасці? Дык што, калі я бачу на Пашарэці шчанюка, які гойсае ўзад-уперад, трасучы вушамі, я таксама павінен бегчы, трэсці вушамі? А калі нада мной праляцела варона, мне таксама ляцець за ёю? І калі муляр, стоячы на рыштаваннях і пляскаючы на муроўку раствор, насвіствае сабе пад нос, дык і я таксама павінен свістаць? І хадзіць у джынсах і чырвонай рубашцы, таму што так апранаецца цяперашняя моладзь? У мяне ў той час нават і не ўзнікла яшчэ адчування небяспекі з-за таго, што я ад маладых адрозніваюся, не было патрэбы быць на іх падобным, я ішоў тады натуральнымі крокамі па прадвызначаным майму ўзросту шляху. І калі пасля халоднай кастрычніцкай ночы я заўважаў у аранжарэі кранутую замаразкамі ружу ці заўчасна змерзлую хрызантэму, гэта таксама не выклікала асаблівага ўражання.

На жаль, з той пары, як Тамаш сваім мінамётам узарваў мой спакой і я ўзяўся назіраць сябе, прыкметы загнівання, праўда, досыць яшчэ слабага загнівання, пачалі раптам выяўляцца то тут, то там, дакладней кажучы, стала відаць тое, чаго да гэтага часу я не бачыў. Не бачыў праз легкадумнасць, павярхоўнасць альбо з-за таго, што сам жа, дзеля самаабароны, заганяў усё ў падсвядомасць. Так, стаю я аднойчы раніцай пад душам і намыльваю свае ўсё яшчэ ў добрай форме ногі і нечакана заўважаю, што каля шчыкалаткі і вышэй, уздоўж вялікай галёначнай косці і нават з пераходам на лытку знутры пад белай скурай выступае павуціна мудрагелiста пераплеценых танюсенькіх ліловых ліній, што нагадвала геаграфічную карту з намечанымі сям-там плямкамі азёраў. Дык што ж, учора гэтага яшчэ не было? Учора я проста гэтага яшчэ не бачыў. І не каварства капіляраў таму віною, а ўсяго толькі баязлівасць маіх вачэй, якія не хацелі заўважаць, што ногі мае старэюць. Яны пачалі старэць з дня майго нараджэння, нават раней, у мацярынскай матцы, тады яшчэ не выразанай, і гэта будзе працягвацца да той пары, пакуль мяне не праглыне магіла.

Магіла. Вось і гэтага слова не было ў маім лексіконе, пакуль Тамаш сваім прутком не стаў падганяць мяне да майго пахавання...

На пахаванні я не хадзіў. Спачатку я адхіляў надакучлівыя запрашэнні, адгаворваючыся тым, што баюся раптам забыцца і пачаць уголас пасмейвацца з крывадушных атракцыёнаў, якімі, не маючы нічога лепшага, забаўляе сябе апранутая ў жалобнае публіка, пазней — калі да маёй адсутнасці прывыклі — ужо не патрэбныя былі і адгаворкі, каб, застаўшыся дома, маўкліва, унутрана, аплакаць таго, хто быў варты слёз. Такіх, на шчасце, было няшмат. Чым

старэйшы чалавек, тым больш высевак засядае на яго сіце, апошні — на жаль, апошні — ён сам.

Я прывык да таго, што не хаджу на пахаванні, вось гэта мяне і ўстрывожыла. Значыць, у мяне з'явіліся прывычкі — беспамылковая прыкмета старасці — зморшчынкі не толькі на скуры, але і на душы. І ўсе навокал, аказваецца, з маімі прывычкамі звыкліся. Так прывыклі, што калі я аднойчы...— калі ж гэта было?.. летась?.. пазалетась?.. а можа, і яшчэ раней? — я ўсё-такі заявіўся на адно пахаванне, людзі пачалі шаптацца за маёй спіной. Слых у мяне як на мае гады надзвычай востры — ва ўсякім разе яшчэ нядаўна быў такі,— калі гаворка ідзе пра тое, што мяне цікавіць, да ўсяго астатняга я быў глухі раней і застаюся глухім і цяпер. Могільнік у Фаркашрэце завабіў мяне пахаваннем мужа адной вядомай у Пешце прыгажуні. Быў цудоўны дзень восені, асенняя флора была ў пышным убранні, і я вырашыў крышку прайсціся. На жаль, я не разлічыў, што сустрэну так шмат знаёмых.

— А гэтага якім ветрам сюды занесла? — пачулася за маёй спіной справа.

— А гэты чаго заявіўся? — зашапацела злева.

— Яму што тут трэба?! — зусім нетактоўна грымнула нібы зверху, з воблакаў, з самага неба, голасам ледзь не самога нябожчыка.

Навокал шапталі.

— А ты не ведаў? У яго ж былі блізкія адносіны з удавіцаю.

— Ды ну?

— Шмат гадоў.

— Гэта ж усе ведаюць.

Здаецца, нават дрэвы, нават крыжы на магілах з цікаўнасцю глядзелі мне ўслед, калі я пацíху плёўся, па самыя лыткі ў агністай восеньскай лістоце, за катафалкам, у самым канцы жалобнага шэсця.

Там быў tout Budapest[1]. Дык чаму ж і мне не ўшанаваць памяць нябожчыка? Не прыйсці толькі таму, што ні на грош яго не цаніў? Гэта ж яшчэ не довад. Я шкадаваў яго жонку незалежна ад таго, была ці не была ў мяне з ёю блізкая сувязь. Яна ішла за катафалкам зусім адна, не абапіраючыся ні на чыю руку, горда выпрастаўшы зграбны стан, уся ў чорным, з адкрытым тварам, доўгі жалобны вэлюм, адкінуты цераз капялюшык назад, ахінаў яе плечы. Крокаў за пяць ззаду яе сапла, усхліпвала крумкачовай чарадой радня, за ёй ішлі крумкачы афіцыйныя, таксама ўсе ў чорным, і далей гужам ішлі дзяды і бабулі, і ўсе яны рэзка хіталі галовамі, нібы гаварылі: ну вось, во як. Сярод смуроду старых цел губляліся пахі маладосці.

— Калі ж гэта мы з табой апошні раз бачыліся?

Я ведаў: з усіх крумкачоў і псеўдакрумкачоў, здольных на мяне кінуцца, ён першы — як толькі ўбачыць — тыркне ў мяне сваёй дзюбай. Ён такі стары і нямоглы, што ходзіць ужо не нагамі, а разбухлымі варыкознымі венамі, голас у яго такі надтрэснуты, што аб яго спатыкаюцца нават мухі, твар вапнава-белы, нібы яго пасмяротная маска, і, нягледзячы на ўсё гэта, ён такі нахабна настырны, як быццам у яго жылах пераліваецца жыццёвая сіла якога-небудзь дваццацігадовага гарэзы. Няма і патрэбы казаць, што ён паэт, лірык.

— Ага, значыць, і ты часам наведваеш могільнік?

— Рэдка.

— Ведаем... гэта мы пра цябе ведаем. Ну, але ж бываюць выключныя выпадкі!

І ён яшчэ дурасліва падміргвае мне слязлівымі алавянымі вочкамі. У дадатак да ўсяго — відаць, дзеля большага кур'ёзу — ён называў сябе Янашам Ку-

---

[1] Увесь Будапешт *(франц.)*.

рэйшам-малодшым, як быццам можна ўявіць сабе чалавека яшчэ старэйшага. Янаш Курэйша. Прыкрыўшы даланёй вочы ад сонца, хоць сонца няма, а калі ёсць, то свеціць ужо слаба, ён адшуквае позіркам за катафалкам удаву.

— А ўсё ж яшчэ прыгожая... м-м?.. хі-хі-хі...

Ах ты, мумія хадзячая, кажу я сам сабе, з цябе ж парахня сыплецца, а ты ўсё яшчэ ўяўляеш сябе мужчынам!

Каб сціснуў цябе цяпер, дык і выцек бы між пальцаў, нібы каровіны мазгі. А ты яшчэ прыцмокваеш тут, быццам губы твае і сапраўды з плоці і крыві. Сорак ці колькі там гадоў выдаеш ты сябе за паэта, пакрыўджанага радзімай, і хіба не заўважаеш, што радзіма мае ўсе правы цябе крыўдзіць?

Нават у павольным тэмпе жалобнай працэсіі ён ледзь паспявае за мной. Я амаль што пашкадаваў яго, гэта ж так учапіўся ў рукаво майго паліто, каб не адстаць, не прапусціць гістарычнага моманту, калі я сустрэнуся каля магілы з удавою. Бо ў паэтычных жылах гэтай знямоглай птушкі кроў рухаецца хутчэй, калі яна падагрэтая падзеямі і скандаламі самага інтымнага характару, якія час ад часу бударажаць грамадскае жыццё; ён мог заўсёды вельмі дакладна сказаць, у каго з кім сярод славутасцей нашай культуры былі інтымныя ўзаемаадносіны і калі яны парваліся.

Павольна ўзмахваючы крыламі, над працэсіяй праляцела варона, потым другая, трэцяя. Услед за імі бязгучна насунулася густая чорная чарада. Вось зараз якая-небудзь варона, злая вяшчунка, адарвецца ад астатніх і сядзе на чэрап старому, што шлэпае каля мяне, паспадзяваўся я. Але дзе там, прарочы дар страцілі нават птушкі.

А паэт сваім смярдзючым ротам зусім прыліп да майго вуха.

— Ці праўда, што быццам муж нічога не здагадваўся?

Я гляджу яму ў твар.

— Мне-то ты можаш даверыцца смела.

— Прашу прабачэння,— кажу я, вызваляю рукаво з яго кіпцюроў і адыходжу. Але мяне тут жа перахоплівае другі мілы калега.

— Рэдка ж цябе ўбачыш на пахаванні.

Вароны ўсім гуртам безупынку кружацца над намі; чорныя, яны маслена паблісківаюць, адымаюць у нас апошнія рэшткі восеньскага сонца. Мой калега Шома Дэметрыус бярэ мяне пад рукі, знізу — без усялякіх падстаў, спяшаюся зазначыць — мне падміргвае.

— А і ты ж рэдкі госць на могільніку!

— Рэдкі.

— Так-так, гэтая забава не для такіх старэнькіх, як мы.

Я гляджу на яго: як мы?

Мой калега Шома Дэметрыус таксама лірык, але ў супрацьлегласць таму майму калегу, што носіць на твары маску смерці, твар у яго так і свеціцца здароўем: яго прысутнасць на могільніку — блюзнерства. І другое карэннае адрозненне: яго ніхто не цікавіць, ён прыглядаецца, прыслухоўваецца толькі да самога сябе, гаворыць толькі пра сябе, не стамляючыся скардзіцца на здароўе.

— Во і сюды ледзь дацягнуўся,— жаліцца ён, павярнуўшы да мяне свой чырвоны твар, які ільсніцца, нібы падрумяненая свіная адбіўная катлета.

Ён сам водзіць шасціцыліндравы «мерседэс», спрытам сваім сарамацячы прафесійных шафёраў. Ён ужо пахаваў дзвюх жонак, на чарзе — трэцяя.

— Штосьці са мной кепскае творыцца,— уздыхае ён.

А над намі ўвесь час — вароны. Мітусяцца, засці-

лаюць чорным покрывам кожную шчыліну ў купах дрэў, праз якую мог бы прабіцца сонечны прамень, пачынаюць каркаць, праўда, пакуль што тактоўна, толькі зрэдку кідаючы зверху адрывістае «кар-р... кар-р...», і калі якая-небудзь на адно імгненне прысядзе на галінку, галінка моцна прагінаецца, нібы на яе павесілі мех з бруднай бялізнай. Яны кружаць чародамі, адна над адной, лятуць наперад, вяртаюцца, яны будуць праводзіць і нас да самай магілы, а можа, і за магілаю таксама.

— Ты не чуў, што я сказаў? Ці табе ўжо не абыходзяць чужыя няшчасці?

— Дзе табе баліць?

Ён прыціскае руку да свайго вялізнага, зыбкага ад каплуновага тлушчу, жывата.

— Вядома, рак,— кажу я.— Падстраўнікавай залозы.

Ён пакутліва ўсміхаецца. Ён таксама пакрыўджаны, як і ўсе прадстаўнікі нашай прафесіі. Мне расказвалі, як аднойчы...

...вароны ўсё кружацца...

...аднойчы ён папрасіў аўдыенцыі ў кіраўніка дзяржавы, каб пажаліцца яму, што заслугі яго не цэняць і ўвогуле не лічацца з ім.— Як жа так, спытаўся...

...вароны кружацца...

—... Як жа так,— спытаўся ў яго кіраўнік дзяржавы.— Хіба ў вас няма прэміі Копута?

— Ёсць.

— А прэмія Атылы Іожэфа?

— Таксама ёсць.

— І ордэн Працы ёсць, залаты, найвышэйшай ступені? Дык у чым жа справа?

— Пытанне гэтае вельмі ж далікатнае, зараз вы зразумееце,— адказваў Шома Дэметрыус,— ну сапраўды, да каго ж і пайсці чалавеку, каму ж рас-

крыць душу, як не таму, на чыіх плячах клопаты ўсёй краіны!

— Ну-ну?

— Ну вось, напрыклад, Лехел Фіёлка, калега мой,— выкладвае Шома,— цудоўны паэт і асабіста мне друг сапраўдны, але як жа так: варта нам выпадкова апынуцца з ім у адным нумары часопіса, на літаратурнай старонцы газеты альбо на якім-небудзь вечары — Фіёлку абавязкова ставяць першага, хоць усім жа вядома, што па мацярынскай лініі ён паходзіць ад швабаў...

Вароны кружацца, лётаюць над самымі дрэвамі, пахруствае жвір могільнікавых дарожак пад нягучную гаману прыбраных у жалобу людзей... Аднойчы, калі, скручаны рэўматызмам, я ляжаў дома, мяне нечакана-неспадзявана наведаў мой калега Дэметрыус. Сярод пакоя стаяў расцяжны станок — лава даўжынёю два метры, уся ў рамянях, якая аж зіхацела нікеляванымі ручкамі, жалезнымі гірамі — на гэтай пракруставай пасцелі дактары расцягвалі мяне двойчы ў дзень па паўгадзіны; у кожнага, хто заходзіў да мяне, ногі прырасталі да падлогі, як толькі ён заўважаў гэтае д'ябальскае прыстасаванне. Дэметрыус жа пераступіў парог, кінуў на дыбу кароткі позірк, потым старанна абышоў яе і сеў каля маёй пасцелі.

Ён нават не спытаўся ў мяне...

...вароны...

пра тое, што са мною, і пачаў жаліцца, што яму баліць галава, яна...

...аспірын выпі...

...яна мучыць яго з самае раніцы, відаць, прычапіўся грып, нездарма ж ён толькі што чхнуў, трэба было б змераць тэмпературу, але ў яго няма часу, каб...

...вароны кружацца...

...мімаходзь з'еў прыгатаваную Тамашу на сняданак булачку з вяндлінай, папрасіў даць пачытаць том Рабле, праз пяць хвілін устаў і, зрабіўшы вялікі паўкруг, каб абысці станок, знік. Нават адыходзячы, ён не спытаўся, што са мною...

— Бедная жанчына, кажуць, яна кахала мужа,— паведаміў ён мне цяпер, па-прыяцельску прыціснуўшы да сябе маю руку, затым спыніўся, тым самым і мяне прымусіўшы спыніцца, і ўталопіўся на вялізную шэрую варону, якая, апусціўшыся на вялікі каменны крыж, старалася ўтрымаць раўнавагу.— Вось так і мы хістаемся паміж жыццём і смерцю, мой дружа! Што можа азначаць гэты цяжар, вось тут, пад пахвінай?

— Магчыма, там засеў які-небудзь твой санет. Выпусці яго хутчэй, ніхто нічога не пачуе.

Справа і злева на мармуровых помніках ампелопсіс ужо пажаўцеў, сям-там лісце налілося крывёю, пунсова блішчэла. Я падышоў да купкі дрэў, зусім голых, але і над імі ў светла-блакітным небе не анёлы пырхалі, а кружыліся ўсё тыя ж вароны: па адной, і парамі, і бязладнымі зборышчамі, яны каркалі ўсё мацней, надрыўна, гэтыя ўзнесеныя на неба вясковыя плакальшчыцы. А ўнізе па зямлі рухаліся мы, куды менш бяскрыўдныя. Ужо амаль каля самай магілы я наткнуўся на трэцяга свайго дарагога сябра. Сваімі вартасцямі ён намнога пераўзыходзіў першых двух.

— Ты — тут? Цябе ж не часта ўбачыш на могільніку.

— Як гэта так? — кажу я, адступаючы на крок.— Я ж ніводнага пахавання не прапускаю, калі даведваюся пра яго своечасова.

— Няўжо?

— Каб я пазбаўляў сябе найвялікшай радасці ў жыцці?

— Што гэта значыць?

— Радасці, што перажыў кагосьці,— тлумачу я.— Я і на тваё пахаванне з'яўлюся, браток Пеці.

— Не... не! — перапалохана ляпеча мой сябар Петэр Кіеш.— Ды і ўвогуле я намнога маладзейшы за цябе.

— Гэта не мае ніякага значэння! — адмахваюся я скептычна.

Гэта адзіны сродак прымусіць яго змоўкнуць: усім вядома, што Кіеш паталагічна баіцца смерці; спытаўшыся са спагадай і трывогай пра яго здароўе, можна спыніць вадаспад нават самай смачнай яго маны і паклёпу. Мне ж вытрымаць у той дзень яшчэ і трэцюю калегіяльную размову, накшталт першых дзвюх, было б надта цяжка.

— Што я, па-твойму, кепска выглядаю?

— Ну-ну, якое там, якое!..— пракаркаў я, пераймаючы птушак, што кружацца над нашымі галовамі, і прадбачліва адступаючы ад яго яшчэ на крок.

Трэба ведаць, што мой сябар Петэр Кіеш — адзін з самых небяспечных прадстаўнікоў нашай сённяшняй нацыянальнай літаратуры: варта яму адкрыць рот, як з яго, нібы з палівальнай машыны, у твар таму, хто апынаецца перад ім, вылятае цэлы вадаспад распыленай сліны; калі ж Петэр Кіеш асабліва ўзбуджаны, тады сліна распырскваецца яшчэ больш магутнымі зарадамі, цаляючы ў вока альбо ў вуха ахвяры. Саапернікі паэты сцвярджаюць, што ў яго сліне незвычайна высокі працэнт соляў і ферментаў, таму яна такая едкая. Пра яго яшчэ гавораць, што сліна збіраецца ў яго, асабліва ў левым кутку рота, нават і тады, калі ён спакойны, у такія хвіліны ён натхняе сябе на чарговы паклёп.

— Адкуль ты ўзяў, што кепска выглядаеш? — кажу я, адступаючы яшчэ на крок і хаваючы твар.— Колькі я цябе помню, дружбак, ты заўсёды такі

бледны. Ну, праўда, вось гэтая разбухлая жылка на скроні... Ты, відаць, занадта многа працуеш...

Тыя, хто яго не ведае,— а хто ж яго не ведае з тых, хто круціцца ў нашым пякельным коле,— нават не падазраюць, якія хітрасць і подласць хаваюцца за яго вонкава мужным выглядам, за гэтым яго прамым вялікім носам і шырокім лобам, за яго блакітнымі вачыма, што так выклікаюць на давер. Некалькі дзесяцігоддзяў засаб ён працаваў да сёмага поту, каб стварыць так званы «image»[1], інакш кажучы, фіктыўны аўтапартрэт, якім палітыкі звычайна карыстаюцца як сцягам; грунтоўна разважыўшы і ўсё разлічыўшы, ён выбраў сабе ролю «рыцара справядлівасці». Ён стварыў новую, супрацьлеглую класічнай традыцыі, сістэму: у вочы ганіў, а за спіной расхвальваў. А як ён быў, па сутнасці, палахлівы, нібы заяц, то, не паспеўшы выказаць каму-небудзь у твар знішчальную думку пра яго, са страху адразу ж, як толькі той адвернецца, пачынаў як мага ўзвышаць яго, і такім чынам ён адным стрэлам двух зайцоў забіваў: лічыўся адкрытым, бясстрашным храбрацом і патрыётам і адначасна цудоўным прыкладам усёдаравальнай хрысціянскай любові. Калі, напрыклад, ён заяўляў N. N. проста ў вочы, што яго апошні раман ніжэй усялякай крытыкі, то назаўтра той, не могучы нічога зразумець, чуў, што ў іншай кампаніі Петэр Кіеш назваў яго самым яркім прадстаўніком найноўшай венгерскай прозы. Вядома, нават пры такой тактыцы ён не пазбегнуў за сваё жыццё некалькіх аплявух, якімі сёй-той паспяваў яго ўзнагародзіць у інтэрвалах паміж лаянкай і пахвальбой.

— Дык, па-твойму, я схуднеў? — устрывожана пытаецца ён.

Вароны нібы ашалелі...

---

[1] Вобраз *(англ.)*.

У супрацьлегласць большасці пажылых людзей — так-так, гэта дакладнае азначэнне: менавіта пажылых — я не маю звычкі расчулена заглыбляцца думкамі ў сваё мінулае, магчыма, таму, што не надта ім заняты, бо і маё сучаснае, дзякаваць богу, прыносіць мне дастаткова турбот. Нягледзячы на маю выключную, на маю надзвычайную памяць, мінулае цяпер усё часцей бачыцца мне як бы дзесьці пада мною, уяўляецца нейкім гарыстым краем, над якім клубіцца туман і дзе я, стоячы на самай высокай вяршыні і гледзячы ўніз, як быццам бачу ніжэйшы пік, а яшчэ далей — уздыбленую скалу, але і яны то ўзнікаюць, то знікаюць у тумане; выявіць іх з хаосу і вызначыць дакладна іх абрысы залежыць, вядома, толькі ад мяне. Але навошта?.. Як я ўжо казаў, напружаная сучаснасць усё яшчэ прыносіць мне дастаткова клопатаў. Успаміны находзяць на мяне толькі ў выключных выпадках, напрыклад, на могільніку, калі я апынаюся з імі з вока на вока, але ж на могілках, як вы ведаеце, я бываю рэдка. Удава сапраўды была «ўсё яшчэ» нішто сабе; гэта і не дзіва, зрэшты, пры тым, што яна на дваццаць — дваццаць пяць гадоў маладзейшая за свайго мужа. Яна ішла за катафалкам адна, вецер варушыў яе адкінуты на плечы жалобны вэлюм. Цяпер, узнаўляючы сабе, якой запомнілі яе мае вочы тады — гадоў з дзесяць... так, прыкладна, дзесяць гадоў,— я сам здзіўляюся свежасці маёй памяці: нібы «Жанчына ў чорным» з карціны Уістлера[1], яна і цяпер як жывая стаіць у маіх вачах — стройная, з цяжкім вузлом валасоў, з прыхаванай спружыністасцю факстэр'ера ў цудоўных доўгіх нагах. І зноў узнікае ў мяне яшчэ даўнейшы, ужо, дзякаваць богу, назаўжды пахаваны ўспамін:

---

[1] Уістлер, Джэймс (1834—1903) — амерыканскі мастак-імпрэсіяніст.

мілы, чароўны тварык маёй жонкі ў ложы вялікай залы Музычнай акадэміі, скажоны нянавісцю, звернуты да твару другой жанчыны, якая таксама глядзела проста на яе.

Мы падышлі да магілы. Вароны былі ўсюды — у небе, на зямлі, яны акружылі нас з усіх бакоў, і зверху, і знізу. Чалавечае вока знаходзіць сваю ўласную сіметрыю ў навакольным свеце, магчыма, таму мне найбольш і ўспамінаецца, як птушкі то пырскамі сыпаліся зверху ўніз, то зноў узляталі, як яны ахінулі магілу такім жа чорным вянком, што і жалобны натоўп унізе. Складвалася ўражанне, прынамсі, у мяне, грубага асла, што вароны звар'яцелым сваім карканнем клялі спектакль, які адбываўся ўнізе; і сапраўды, ці ж можа быць больш агідная камедыя, чым гэтая, калі яшчэ ледзь кранутае тленам чалавечае цела апускаюць на шэсць футаў у зямлю, а потым з глухім стукам закідваюць гразёй галаву, грудзі і ўсё астатняе, не кажучы ўжо пра тое, што часам нельга ведаць напэўна, ці не хаваем мы несапраўднага нябожчыка. А таму ў завяшчанні, якое павінна быць напісана, я абавязкова дам наказ — спадзяюся, не забудуся,— каб перад тым, як апусціць мяне ў магілу, мне праткнулі сэрца іголкаю, зрэшты, пры такім хворым сэрцы, як маё, даволі будзе і простай шпількі.

Карканне зверху, а знізу ўрачыстыя рыданні тых, хто перажыў нябожчыка: з іх дапамогай мне ўдалося наглуха закрытым слыхам адбіць ад сябе і апошняе надмагільнае слова. Я адступіў як толькі можна далей назад, бо не хацеў, каб удава мяне ўбачыла. Але ў хвіліну ўрачыстай цішыні пасля сканчэння развітальнага слова, пакуль далакопы яшчэ не пачалі засыпаць яму, Шома Дэметрыус, які зноў падкраўся да мяне, раптам гучна чхнуў; удава павярнулася ў наш бок. Да таго часу, калі я не памыляюся,

яна не плакала, але калі яе позірк спыніўся на мне, яе вочы раптоўна наліліся слязьмі. Яна апусціла галаву, гучна ікнула, яшчэ раз на мяне паглядзела. Дзякуючы маёй незвычайнай памяці, якая і цяпер, калі мне ўжо за семдзесят, падсапсавалася хіба толькі крышку, я магу дакладна ўзнавіць усё, што далей адбылося: з горла ўдавы вырваўся нейкі невыразны кароткі гук, прыгожы твар перакрывіла дзіўная грымаса, падобная на ўсмешку, і яна зайшлася доўгім істэрычным рогатам, душачыся слязьмі і смехам. Усе кінуліся бягом да яе.

Я ўжо адзначаў, што чалавек у маім узросце абрастае звычкамі і яны абцяжарваюць работу мозгу, як лішнія тлушчавыя тканкі ўскладняюць рухі цела. Праўда, інстынкт таксама нацэльвае нас на выпрацоўку звычак, і, калі б не стварыўся ў нас навык услед за правай нагой перастаўляць левую, мы ніколі б не зрушылі з месца. Зрэшты, не так ужо і далёка мы прасунуліся. З таго часу, як Тамаш узняў сцяг паўстання супраць таго, што канчаткова асуджана, гэта значыць, супраць мяне, я стаў больш уважліва сачыць за сабой, заняўся прарэджваннем маіх звычак. Аднак удакладнім: чалавек на працягу жыцця набывае розныя звычкі, як неабходныя, так і проста нікчэмныя. Неабходнае, скажам, дыханне. Нагадваю пра гэта не з-за педантызму: у наш час занадта многім людзям перашкаджаюць дыхаць глыбока і сабе на ўцеху, прычым дзейнічаюць іншы раз так заўзята, што нічога іншага не застаецца, як прыбраць аб'ект уздзеяння, каб ён больш не атручваў атмасферы. Неабходныя таксама навыкі, якія мы стварылі дзеля захавання раўнавагі ва ўзаемаадносінах у імя чалавечай годнасці, напрыклад, звычай гаварыць праўду на людзях толькі ў тым выпадку, калі пры гэтым мы ніяк не закранаем інтарэсаў прысутных. Гэтак жа сама і з манаю: мы лжэм толькі тады, калі

нас не могуць выкрыць. Свецкая гутарка ў такія моманты прымае такія вытанчаныя, нібы ў менуэце, формы, што ажно не верыш Дарвіну, што чалавек паходзіць ад неразумных стварэнняў. Непазбежным уяўляецца мне звычай вучыць нашчадкаў нашых чытаць і пісаць: інакш як бы яны атрымалі ў спадчыну тыя незлічоныя варыянты хлусні з гісторыі чалавецтва, якімі падтрымліваецца існаванне роду чалавечага.

Але ўсё гэта — рэчы агульнавядомыя. Я пішу пра сваё старэнне, а не пра старэнне чалавецтва. Тых старых майго веку, чые звычкі, ператвараючыся ў дзівацтвы, вымушаюць навакольных раз-пораз чухацца, я проста цярпець не магу. Дык вось, мне трэба высветліць, якія з укаранелых маіх звычак павінны быць выгнаны, іншымі словамі, працягваючы ўжо скарыстанае параўнанне, якія тыя ліпомы і тлушчавыя падушкі ў маіх духоўных тлушчавых тканках, што ні так, ні гэтак у абмене рэчываў душы не ўдзельнічаюць і, такім чынам, ад іх можна пазбавіцца без небяспекі жыццю хірургічным шляхам. Калі Тамаш упершыню выставіў сваю асадную гармату, я спадзяваўся, што маё вока, мае рукі яшчэ цвёрдыя і я здолею правесці гэтую аперацыю.

Я гаварыў, што прыкладна ў той час быццам бы адшукаў на ствале сваёй старасці пэўныя прыметы — ледзь набрынялыя пупышкі — скупасці. Старасці, сказаў я?.. э-э, і гэта дзесяць гадкоў назад?.. беспадстаўнае словаўжыванне! Цемя ў мяне хоць даўным-даўно ўжо ўкрыта сівізной, а па сутнасці ж, толькі што зарасло: мне ўжо надаралася часам напісаць некалькі такіх старонак, якія, калі ўлічыць сярэднія мае здольнасці, атрымліваліся ледзь не дасканалымі. Нямногія сярод маіх шаноўных калег гэта разумелі, але, на шчасце, знаходзіліся зрэдку і такія, што па-

латпелі, чытаючы гэтыя старонкі. Вось у гэты час я і заўважыў, што не-не дый прапускаю ў рукапісе словы, іншыя словы не дапісваю, скарачаю на адну літару, а то і на дзве; я тлумачыў гэта спешкай — неабходнасцю як найхутчэй замацаваць на паперы ўдалую фразу. Аднак у той жа час са мной іншы раз здараліся такія рэчы, што я пачаў сачыць за сабой больш уважліва. Вынік быў ашаламляльны: я выявіў, што недапісваю літары толькі і выключна... з-за скупасці. З-за скупасці? І канстыпатыўныя з'явы — ужо ў іншым, больш арганічным пласце майго жыцця — якія ўзніклі ў той перыяд, абазначалі не што іншае, як маю прыхільнасць да прыватнай уласнасці.

Скупасць! Я — скупеча?.. Вось ужо ніколі не падумаў бы, у сне не прыснілася б. Як я ўжо гаварыў, сябе я ведаў бесклапотным, нават легкадумным, пакуль не было патрэбы эканоміць лішнія сілы і мізэрныя жыццёвыя даброты, аднак павелічэннем апошніх, мабыць, не кампенсавалася змяншэнне першых. Рост гадоў маіх і дастатку прывёў да адваротнага таму, які чакаўся, выніку: чым менш заставалася ў мяне надзей на будучыню, тым з большай скнарнасцю ставіўся я да свайго сучаснага. Як бы здагадаўшыся, што падлатаць хоць бы сяк-так зношаныя клеткі можна толькі форынтамі, я стаў скупаваты і пакрысе, амаль непрыкметна, увесь неяк фізічна і духоўна змізарнеў. Садзейнічала гэтаму і душэўнае ўзрушэнне, выкліканае тым, што сын Тамаш так груба аб'явіў мне вайну.

Але аднойчы вочы мае расплюшчыліся: пад уражаннем увогуле-то нязначных падзей, якія ішлі, аднак, адна за адною, і таго здзіўлення, і нават узрушэння ад гэтых падзей, я зразумеў, што паводжу сябе ў дачыненні да самога ж сябе ганебна. Мой біялагічны ўзрост яшчэ не заслугоўвае зацвярдзелых

старэчых звычак. Мне яшчэ рана, вырашыў я, быць рабом сваіх звычак, хоць бы той жа скупасці, якая падыходзіць хіба толькі колькасці маіх гадоў. І хоць шмат ужо страчана, але ж можа яшчэ надарыцца выпадак і выйграць.

Месца, дзе вочы мае расплюшчыліся,— кватэра майго цесця. Свой партрэт я разбіраю звычайна ў тым люстэрку, якім з'яўляюцца твары маіх блізкіх; з беспамылковасцю жывёльнага інстынкту я знаходжу на іх тварах усе тыя рысы, якія я хацеў бы — бачыць мне іх у люстэрку непрыемна — вытравіць з свайго адлюстравання. Так чалавецтва, нібы велізарная люстэркавая галерэя, вучыць мяне, якім быць не трэба, а значыць, ускосна, якім быць належала б. Вядома, чаго тут таіцца, навучанне не заўжды мне ўдаецца.

Не часта сустракаў я людзей больш агідных, чым мой цесць. Мяне, пры маім пераборлівым страўніку, літаральна нудзіла іншы раз ад яго прысутнасці. Таму зразумела, што цешчу сваю, да якой адносіўся з сімпатыяй, я наведваў у такі час — звычайна пад вечар,— калі спадзяваўся не заспець старога дома, гэта значыць, тады, калі ён сыходзіў у сваё нязменнае кафэ пасядзець з кампаніяй іншых сталых наведвальнікаў, сваіх былых калег — банкаўскіх дырэктараў. Найчасцей я заходзіў да цешчы ў першыя дні месяца, з пэўнай сумай у кашальку, якой памагаў ёй у выдатках на гаспадарку; адсутнасць гаспадара была пажаданай таму, што з панскага гонару грошай ад мяне ён не прымаў; у свеце чалавечых адносін пану экс-дырэктару быў вядомы толькі адзіны прынцып: «даю-бяру». Але найпершая прычына тая, што ён не змог бы разыгрываць перада мною ролі гаспадара ў сям'і, калі б прызнаў, што з тае пары, як грамадскі лад у Венгрыі змяніўся, гэта значыць, вось ужо два дзесяцігоддзі, ён знаходзіцца на

маім утрыманні, хоць я не маю ад гэтага ніякага задавальнення.

Мая не абы-якая памяць заўсёды з большай ці меншай упэўненасцю знаходзіць у напластаваннях мінулага тыя мышыныя норкі, куды я запіхаю свае ўспаміны, якія здаюцца мне адносна важнымі. Дзякуючы гэтаму я і цяпер магу ўзнавіць размову з маёй нябожчыцай жонкай, тады яшчэ дзяўчынай, якая адбылася ў нас напярэдадні вяселля. Мы абое былі членамі партыі, абое працавалі ў падполлі, але пазнаёміліся толькі пасля вайны ў раённай партарганізацыі і хутка здружыліся. Яна была надзіва прыгожая, на люстэркавых асколках маёй памяці яна і цяпер адбіваецца ў сотнях імгненных здымкаў, як перпетуум-мобіле, як помнік вечнай маладосці.

Эх, вечная маладосць!

Неяк яна папыталася, ці ведаю я, дзе можна нядарага наняць пакой. Што такое? Пакідае бацькоў? Чаму? Таму, што і да гэтага часу яна жыла ў бацькоўскім доме толькі з-за таго, што кватэра шаноўнага дырэктара банка, яе бацькі, была зручным прыкрыццём нелегальнай работы. Значыць, яна не ладзіць з бацькамі?

Колькі жыць буду, не забудуся журботнай, горка-пакутлівай усмешкі, з якой яна ўзняла на мяне вочы, але тут жа іх і адвяла, відаць, не знайшоўшы на маім твары падтрымкі. Галава яе панікла, белая зграбная шыя крыху выгнулася. Шыя гэтая была сама пакора.

— Я не люблю свайго бацькі,— сказала яна проста.— Я люблю цябе.

Любіць мяне, таму што не любіць свайго бацькі?.. Можа, так трэба было вытлумачыць яе словы, пытаюся я ў самога сябе цяпер, зазіраючы ў самыя глыбокія сховы свайго мозгу.

Тая хвіліна ўсё яшчэ жыве, яна затаілася ў сваёй

мышынай норцы і не сатлее, відаць, пакуль я буду пры памяці.

— І на што ж, дазвольце пацікавіцца, вы збіраецеся жыць? — папытаўся яе бацька, зыркнуўшы мне ў твар вачыма, павялічанымі шкельцамі пенснэ.

Яго белы трохвугольны, з правільнымі рысамі твар, на якім крыху вытыркаўся ўперад падбародак, увесь час, пакуль мы гаварылі, быў нерухомы, і толькі каля правага вока — а мо каля левага? — перасмыквалася пад скурай малюсенькая мышца, нібы грыжа, якая вылезла вонкі ад празмернай работы мозгу.

Пенснэ паблісквала.— Так таму і быць, але на што вы, цікава, збіраецеся жыць? На вашы кнігі? А якая ў вас, цікава, прафесія, занятак? Значыць, няма? І колькі ж, цікава, вы зарабляеце вашымі кнігамі ў месяц?

Пенснэ зіхацела. Гаворка наша — не самы прыемны ўспамін майго жыцця.— Будучыня маёй дачкі з вамі не здаецца мне забяспечанай. Можа, у вас ёсць іншыя крыніцы даходаў? Значыць, іх няма. Ай-я-яй! Прадбачлівы бацька паклапаціцца пра гэта павінен. Цікава, ці не камуніст вы? Выходзіць, камуніст. Ай-я-яй! І вы мяркуеце, напэўна, што гэты рэжым можа тут утрымацца? — Пенснэ асляпляла сваім бляскам. Якое шчасце, што нават цяпер, калі мне ўжо за семдзесят, я не маю патрэбы ў акулярах, каб зазірнуць субяседніку ў самыя пячонкі.— Ах, вось яно што, вы верыце ў гэты рэжым. І вы мяркуеце, што заходнія дзяржавы... Не адказвайце, я не хачу весці з вамі палітычных спрэчак. Цікава, ёсць у вас кватэра? Ёсць, кажаце? Ну вядома ж, два пакойчыкі з мэбляю ў кватэры, пакінутай гаспадарамі, што выехалі за мяжу. Разумею. І вы не згарэлі ад сораму, калі атрымалі ад улады без згоды гаспадароў гэтую кватэру, часова імі пакінутую? А што бу-

дзеце рабіць, дазвольце спытацца, калі гаспадар вернецца?

Успамін пра тую гутарку нават цяпер мяне не вельмі цешыць, як не цешылі, зрэшты, мяне гэтыя размовы і тады, калі — дзесяць гадоў?.. восем гадоў назад? — я кожны месяц рабіў паломніцтва да старых — хай будзе ім пухам зямля! — каб аддаць цешчы, хоць у мяне ўсё яшчэ не было пэўнага занятку і іншых даходаў, апрача маіх кніг, тую суму, з якой яна будзе выплачваць даўгі за месяц і падтрымліваць фізічнае і духоўнае здароўе свайго мужа.

Я з іх не смяяўся і нават не адчуваў, як ні дзіўна, ніякага задавальнення, адлічваючы банкноты ў рукі прыгожай бабулькі, шчокі якой заўжды чырванелі і якая заўжды, нават у глыбокай старасці, кожным рухам напамінала мне сваю дачку. Задавальненне?.. насмешка?.. Ды кіньце вы!.. Нездарма ж я лічу сябе знаўцам розных жыццёвых пастак, як і няшчасных ног чалавечых, якія ў іх трапляюць. Нават калі б я мог шпурнуць пачак грошай цесцю ў твар, то і гэта, бадай, не абудзіла б маіх пачуццяў.

Як я ўжо казаў, я стараўся заходзіць да сваёй цешчы па магчымасці, калі не было мужа. Ён мог не ведаць — і ён, дырэктар банка, нібы сапраўды не ведаў! — як, якім чынам выкручваецца яго жонка пры мізэрнай іх пенсіі і з усё больш высокім пражытачным мінімумам. Але аднойчы, і якраз у той перыяд майго жыцця, калі я, спуджаны Тамашам, пачаў прыглядацца да незаконнага, як мне здавалася, надыходу старасці, я, на сваё гора, застаў цесця дома. Абвясціўшы, што ў яго баліць горла, цесць прыкінуўся хворым, абкруціў шыю белым шаўковым шалікам і сеў палуднаваць.

У той час ён ужо надзеў мундзір старасці і выглядаў менавіта тым, кім быў. Яго нос патанчэў і выцягнуўся паміж набрынялымі сумкамі шчок, мар-

шчыны на шыі сплываліся ў нізка абвіслы, увесь у чырвоных пражылках другі падбародак, які выпіраў з-пад каўняра, а пенснэ на вадзяністых вачах цяпер не бліскала нават тады, калі ў прыпадку старэчага гневу ён з радасцю асляпіў бы праціўніка.

Увогуле ж ён надзіва абмяк, і калі падчас гутаркі, што перарывалася кашлем, які ў апошні час прыкметна мацнеў, ён пырскаў слінай, то сарамліва азіраўся, нібы прасіў прабачэння ў прысутных ад імя смерці, а потым доўга, старанна выціраў хусцінай губы, падбародак і маршчыны на шыі. Ён быў ахайны, нічога не скажаш.

— Вось і ты зазірнуў нарэшце да нас, сынок!.. хе-хе...— Цешча сабрала на стол і мне: каву, малако, пячэнне. Тыя ж рашучыя рухі, як некалі ў маёй жонкі, тая ж лёгкая імклівая ўпэўненасць жанчыны, якая робіць сваю справу. Старасць яе не збрыдзіла, на яшчэ прыгожым твары — усё тая ж спрадвечная ўсмешка жанчыны, якая корміць мужчыну.

— Вось і ты часам зазіраеш да нас, сынок. Хе-хе-хе...

— Вы ўжо гэта сказалі.

— Сказаў. Хе-хе-хе... І пану Мюлеру кожны раз даводзілася паўтараць двойчы, каб ён зразумеў.

— Хто такі пан Мюлер?!

— Хто такі пан Мюлер... Ты не ведаеш, сынок? Ну не, як жа не ведаеш! Мой былы бухгалтар. Яшчэ летась выцягнуў ногі, нябога... Кхе... кхе... а быў жа маладзейшы за мяне, праўда, Эла? Летась, сапраўды? Мы аддалі яму апошнюю пашану, ці ж не так, Эла? Мы ж любім наведваць магілкі, пакуль дабіраемся да іх на сваіх нагах, хе... хе...

Табе ўжо нядоўга, думаў я, уяўляючы сабе, бачачы лёгкія старога...

— А пра што гэта вы там з жонкай маёй шапталіся ў пярэднім пакоі? Ну?

Старая пачырванела.

Ты ж добра ўсё ведаеш, няма чаго табе прытварацца, думаў я.

— Ён расказваў мне пра Тамаша,— сказала цешча, усё яшчэ чырванеючы, але лепш за мяне трымаючы сябе ў руках.

Стары зняў з носа пенснэ, падміргнуў мне падслепаватымі вочкамі і зноў пасадзіў акуляры на месца. Які б прыгнечаны ён цяпер ні быў, аднак па-ранейшаму ад шчырай душы радаваўся, калі мог каго-небудзь прымусіць салгаць. І ўжо куды большую ўцеху ён меў, калі яму ўдавалася і матэрыяльна каго-небудзь прышчаміць.

— Што скажаш пра дарагоўлю, сынок, га? Што скажаш? Якраз сёння я мусіў быў давесці да ведама паштальёна, які прыносіць мне пенсію... Эла, шалік зноў спаўзае... дык пра што гэта я?.. ах вось... што пакуль мне не павысяць пенсіі, я, на вялікі жаль, павінен часова пазбавіць яго чаявых. Цяпер жа і паштальён належыць да кіраўнічага класа, ці ж не так?.. хе-хе-хе... дык няхай і паклапоціцца! Ану, што ты на гэта скажаш, сынок?

Не, няма ніякага дзіва, што жонка мая любіла мяне больш за свайго бацьку. Але вось як цешча вытрымала з ім побач гэтыя сорак ці пяцьдзесят гадоў? У пакутах, відаць, цярпенне не ведае межаў. Я адвёў вочы ад твару старога і стаў глядзець на вялікую таполю за акном, якая шапацела пад ветрам і на якую села чарада вераб'ёў, а калі павярнуўся...

Гэта і была тая хвіліна, калі я ўпершыню зразумеў, што такое шок, хвіліна, з якой пачалася ў мяне пара самасузірання; і яшчэ некалькі падобных хвілін за ёю прыйдуць. Я не прыхільнік так званых сімвалаў, не люблю і абагульненняў, я імкнуся разглядаць розныя з'явы ў іх натуральных межах, але на гэты раз рэчы, якія падмацоўвалі гэтыя сімвалы, бы-

лі такія відавочныя, што я не мог адмахнуцца ад іх двухразовага папярэджання. Той, хто сядзеў цяпер перада мной і кім я да глыбіні душы грэбаваў, каго ненавідзеў, быў падобны да мяне. Як ні адрозніваліся мы сваім спосабам жыцця, абодва мы былі зачатыя і народжаныя паводле агульнага закону і цяпер, састарэўшы, падобныя, як пара ботаў, аднолькава паўзём да existus [1].

Дык вось, адвярнуўся я ад шапаткой таполі за акном, позірк мой зноў спыніўся на цесцю, і тут у мяне сціснула дыханне... Я не перабольшваю: у мяне замерла сэрца. Цесцева рука змятала з абруса хлебныя крошкі вакол кубка зусім гэтак, зусім, зусім гэтак, як рабіў гэта і я кожную раніцу, выпіўшы свой кубак кавы з малаком. Памылкі быць не магло, уся аўтаматыка з пачатку да канца дзейнічала зусім аднолькава. Стары прыставіў левую далонь да краю стала, правай рукой кругавымі рухамі сабраў крошкі ў грудок, потым асцярожна, каб не ўпалі на падлогу, змёў іх у падстаўленую жменькай левую далонь. Пэўны час ён задаволена глядзеў на маленькі руды грудок. Потым — якраз так, як рабіў гэта і я — крыху адхіліў галаву назад, адкрыў рот і хуценька ўкінуў туды «здабычу».

— Хто крэйцара не беражэ, да таго і форынт не пойдзе,— прамовіў ён з уздыхам, заплюшчыўшы вочы. Вакол вусоў ад задавальнення выступіў пот.

Я развітаўся са старэнькай цешчай і пайшоў. Быў такі ўзрушаны, што ледзь не перакуліў кубка з недапітай кавай. Да гэтай жа апошняй хвіліны я думаў, што змятаю крошкі ў далонь дзеля парадку, каб стол каля мяне быў чысты,— ды дзе там! Аказваецца, мне было шкада аддаць вераб'ям гэтыя крошкі. Аказваецца, я жару нават лішкі, каб толькі

---

[1] Канец *(лац.)*.

не дзяліцца нічым з птушкамі, што прылятаюць да мяне пад акно і раз-пораз зазіраюць у пакой. Аказваецца, старэчая скупасць ужо пачала сваю павольную работу, якая разбурае душу, і, калі я не дам ёй адразу ж па руках, яна разбурыць усё высакароднае збудаванне ў душы.

Значыць, старэю? Няўжо так хутка? — пытаўся я ў самога сябе і не хацеў верыць. Ужо? А можа, гэта толькі некалькі паганых звычак, што прычапіліся да мяне і непрыкметна акасцянелі на паверхні душы? Ва ўсякім разе трэба быць напагатове — нядоўга ж і ашукацца! Трэба даследаваць усе мае звычкі, выявіць, што схавана пад імі. Я адчуваў сябе сабакам, які ўзяўся лавіць свой хвост.

Ужо на другі ці на трэці дзень выявілася яшчэ адна вартая пагарды звычка, яшчэ адна непрыстойная праява прагавітасці.

Абвостраным пачуццём я яе выявіў і, схапіўшы за вуха, паставіў у кут.

— Даруйце, Настаўнік, вы яшчэ не прачыталі майго рукапісу? — спытаўся неяк малады аўтар.

— Я не настаўнік. Зрабіце ласку, называйце мяне па імю.

Але я пашкадаваў яго. Нахабны агонь маладосці, які гарэў у яго вачах, на імгненне распаліў мяне. Яго худы касцісты твар яшчэ не ўспучыўся вадзянкай самазадаволенасці, ён быў свежы і патрабавальны, ён яшчэ не мог задаволіцца тым, чаго быў варты. Кажу, мне стала шкада яго; ды і чым бы я змог абараніцца ад яго пагарды?

— Што гэта быў за рукапіс, даруйце?

Ён даслаў мне рукапіс свайго рамана па пошце, разам з доўгім пачцівым лістом. Рукапісу я, вядома, не прачытаў. Зрэшты, рабіць гэта няма патрэбы: што першыя раманы маладых аўтараў кепскія, вядома загадзя. Я ж лічыў у той час, што, чым чытаць кеп-

скі чужы раман, выгадней ужо пісаць самому: хоць ненамнога, ды лепей выйдзе.

Аднак пачакай, стрымаў я сябе. Выгадней? Каму? Ты інтарэсы чалавецтва абараняеш? Ці свайго часу шкадуеш? Зноў робішся скнарай, шкадуеш драбязы, на чорны дзень збіраеш?

Я яшчэ раз паглядзеў маладому чалавеку ў твар: баяцца ж яго мне не было чаго. Па-мойму, у пісьменніцкіх фізіяноміях я разбіраюся: гэты, відаць, дурны, як пень. Нічога не будзем драбязіць, вырашыў я, у мяне яшчэ ёсць што транжырыць. Суровасць жа таксама разнавіднасць скупасці.

— Дарагі дружа,— сказаў я,— я прачытаў ваш раман з вялікім задавальненнем. Дазвольце мне цяпер выкласці свае меркаванні больш дэталёва...

Малады чалавек вылупіў на мяне вочы.

— ...ведаю,— працягваў я,— моладзь не любіць, калі яе хваляць у твар...

— Вы мелі ласку прачытаць увесь раман? — ашаломлена спытаўся малады аўтар.

— Як вас разумець?

— Усе восемсот старонак... да канца?

— Але, я не мог ад яго адарвацца, мілы дружа,— сказаў я.— Не хацелася б цяпер больш падрабязна гаварыць пра свае ўражанні...

— Толькі адно пытанне, Настаўнік...

— Ніводнага,— сказаў я.— Сваю думку я выкажу ў рэкамендацыйным пісьме, якое збіраюся паслаць майму сябру Ф. Л., галоўнаму рэдактару ў...

Твар яго засмоктвае балотная твань, а я ўсё больш натхняюся.

— Як вядома, мой малады сябар,— сказаў я,— пажылыя пісьменнікі майго ўзросту дораць сваё прызнанне даволі эканомна... вось-вось, выраз дакладны, эканомна... З цягам часу, расчараваўшыся і ў саміх сабе, яны ў адносінах да іншых таксама

робяцца асцеражнейшыя. Хваліць не любяць, ды яно і не выходзіць у іх, эгаізм перашкаджае. З-за сваёй скнарлівасці яны любы поспех хочуць пакінуць сабе і ўжо ж, вядома, не прыкладуць ніякіх намаганняў, каб і нявопытны юны працяк накшталт вас — безумоўна, я атэстую вас так выключна дзеля прыкладу — ухапіў сабе лісцік-другі з іх залішніх лаўраў. Талент! Малады талент!.. Дык жа ў гэтым няма ніякай заслугі, дружа мой, гэта ўсё роўна як палюцыя ў падлеткаў. Не, сумейце вы ў шэсцьдзесят гадоў хоць зрэдку напісаць адну добрую старонку — вось гэта ўжо будзе сапраўднае! А да шасцідзесяці гадоў ніхто хай і не думае лічыць сябе таленавітым.

На падаконнік сеў верабей, зазірнуў да мяне ў пакой, потым звычна пастукаў у акно, як бы напамінаючы пра сябе. Я засмяяўся: ужо і ў маіх вераб'ёў завяліся звычкі.

— Я мушу зразумець гэта так, Настаўнік...— выціснуў з сябе малады чалавек, зусім збіты з панталыку.

— Можаце ніяк не разумець,— сказаў я.— Усё гэта не тычыцца ні вас, ні мяне. Я гавару абагульнена. Сваімі маладымі арлінымі вачыма вы, мабыць, ужо заўважылі, што ў людзей пажылых ёсць звычкі, з якімі расстаюцца яны дужа неахвотна. Адна з самых дарагіх ім звычак — адмаўленне, адно з самых улюбёных слоўцаў — слова «не». Калі, скажам, такая свежая з'ява, накшталт вас, трапіць такому склератыку ў кіпцюры, не дай бог тады вам надрукаваць хоць адзін радок. Я вось вырашыў цяпер, што рэкамендацыйнага пісьма пісаць майму сябру-рэдактару не буду...

Твар у маладога чалавека раптам стаў шэры, і я здагадаўся, што з усёй маёй прамовы ён зразумеў толькі апошнюю няскончаную фразу. І я раптам зноў пашкадаваў яго. Не яго ж, сапраўды, віна, што

ён нарадзіўся ахвярай. У яго дурасці было нават нейкае міжвольнае хараство — вось як цяпер, калі ён узняў галаву і, сціснуўшы зубы, з нянавісцю глянуў мне проста ў вочы.

— ...рэкамендацыйнага пісьма пасылаць не буду,— не спыняўся я,— а напішу пра ваш раман артыкул і пашлю ў рэдакцыю разам з раманам. Артыкул пра раман, які яшчэ ў рукапісе... га? Ну, што вы на гэта скажаце?

Вось так, недзе за шэсцьдзесят, я зноў паступіў у школу, але на гэты раз выкладаў у ёй сам.

Мне было нялёгка, я аказаўся строгім настаўнікам.

Паход супраць старасці — так назваў бы я гэтую навучальную праграму, якая шырынёй сваёй смела магла б паспаборнічаць з усім, што было назапашана па гэтай праблеме, пачынаючы з Цыцэрона аж да сучасных вучоных-герантолагаў. Розніца толькі ў тым, што нататкі гэтыя — іх жа ў дзень маёй смерці нехта знішчыць, праўда? — я пішу не дзеля таго, каб лішні раз падражніць чалавецтва, а выключна для ўласнага задавальнення.

У гэты перыяд я перагледзеў нават самыя дробязныя свае хатнія звычкі і з садысцкай асалодай — ва ўсякім разе, так можна сказаць — усім скруціў шыю; такое незямное пачуццё палёгкі адчувае забойца, калі сваёй крывавай сякерай ссякае галовы цэлым шарэнгам сваіх ахвяр.

Баючыся надакучыць чытачу, гэта значыць, самому сабе, пералічваць усе тыя мае замахі на свае звычкі я не буду. Звычкі асобнага чалавека не маюць ніякай цікавасці, іх значэнне ўзрастае толькі тады, калі ў іх уцягваюцца іншыя, калі слабасці аднаго чалавека распаўсюджваюцца, нібы заразная хвароба, і робяцца ўжо ўсенароднай, нацыянальнай прыхамаццю, якой стаў у нас, напрыклад, занятак літаратурай.

Вось яно наша пісанне-чытанне: пішам мы амаль усе да аднаго, а сёй-той нават чытае напісанае перад тым, як аддаць друкаваць.

Мае асабістыя схільнасці намнога больш сціплыя, і я не думаю, каб яны сталі аднойчы ўсенародным набыткам. Таму згадаю дзеля прыкладу і, бадай, дзеля таго, каб да канца быць праўдзівым, толькі пра звычку раніцаю пасля душа — а прыняцце душа таксама мела свой вельмі строгі рытуал — карыстацца пры галенні кожны раз іншым крэмам ці мылам, браць са шкляной паліцы над умывальнікам у вельмі строга ўсталяваным парадку прызначаны на гэты дзень цюбік, а потым, таксама па чарзе, мяняць усходненямецкі, заходненямецкі, французскі альбо айчынны ласьён. Не з касмапалітычных меркаванняў — прысягаю ў гэтым! — а проста ад жадання пераадолець нуду штодзённых гігіенічных працэдур я стараўся навесці нейкі парадак у мініяцюрнай гісторыі маіх будняў, інакш кажучы, імкнуўся ўтаймаваць анархічныя буры, схаваныя ў выпадковасцях. З цягам часу я так напрактыкаваўся, што ўжо ідучы ў ванную ведаў, што ў гэты дзень у мяне на чарзе аўстрыйскі крэм для брыцця «Эліда», які стаіць на паліцы другі справа, а пасля брыцця — французскі ласьён «Экіпаж», які стаіць з ім побач, і гэтае веданне самой халоднай аб'ектыўнасці фактаў, як цвёрда ўстаноўлены зыходны пункт новага дня, супакойвала маю бедную душу і давала сілы вытрымаць наступныя дваццаць чатыры гадзіны. І калі часам усё ж здаралася так, што памяць мяне падводзіла і я, наморшчыўшы лоб, абдумваў, стоячы перад люстэркам, ці сапраўды сёння ў мяне на чарзе ласьён «Тытупь», мяне ахоплівала раптам такая страшэнная трывога, нібы я нейкі там чыноўнік дыпламатычнай службы, які згубіў тайны код да тэлеграфнага шыфра сваёй дзяржавы.

Ну што ж, перастанем гуляць у такія гульні, сказаў я сам сабе праз тыдзень-другі пасля той сустрэчы з цесцем, што перавярнула ўсё ў душы, калі я крыху ачуняў ад першага ўзрушэння і вырашыў наладзіць у душы генеральную прыборку і змяніць рэжым. Яшчэ не пара абрастаць старэчымі звычкамі. Набудуся яшчэ старым. Усё правільна, няхай будуць звычкі, але толькі пры ўмове, што ты ў любы момант можаш іх змяніць. Права на звычкі, сам сэнс іх залежыць найперш ад іх карыснасці; калі яны абмяжоўваюць нашу свабоду, ад іх трэба пазбаўляцца. І я тут жа накінуўся на паліцу ў ваннай: умомант разварушыў, расштурхаў, параскідаў цюбікі, флаконы, сухія і пеністыя крэмы, памазок, брытву, быццам паставіў сабе мэту адпомсціць усяму свету за нейкую спаконвечную крыўду. І нават спяваў пры гэтым на ўсё горла, як і ў дні даўно мінулай маладосці, у гераічную эпоху абмыванняў пад ледзяным душам.

Заўважу, дарэчы, што і дасюль пасля цёплага душа абавязкова абліваюся халоднай вадой.

Палаючы страсцю неафіта, яшчэ ў той дзень, выйшаўшы з ванны, я сеў за стол снедаць і заняўся сваёй аканомкай Жофі. Пакуль яна падавала мне снеданне, я ўважліва яе вывучаў, нават цішком прынюхваўся і думаў: ці сумею я калі-небудзь адвыкнуць ад гэтай працахлай кісляцінай бабуленцыі. А можа, ёсць звычкі, якія наогул адсякаць нельга, бо разам з імі сыдзе крывёю і штосьці больш тонкае, глыбіннае? Ды і ці можна вось так, з налёту, сказаць, хто да каго з нас больш прывык, ці яна да мяне, ці я да яе?.. Гэтае пытанне, зрэшты, я пакідаю пакуль што адкрытым. Яна прыйшла да нас, калі я быў яшчэ падлеткам, і, калі мы — перажыўшы маці і бацьку — не прыкончылі адно аднаго за гэтыя не ведаю ўжо колькі гадоў, калі я не пристукнуў яе

ножкаю крэсла, а яна мяне не атруціла, падсыпаўшы мне атруты ў каву з малаком альбо ў салат са шпінату, значыць, мы паказваем з ёю такі бліскучы прыклад чалавечага доўгацярпення і міласэрнасці, што проста не варта пазбаўляць яго арэолу: хай жа паслужыць прыклад наш навучанню ўсяго чалавецтва. Вытурваць маю бабульку Жофі пакуль няма неабходнасці: на гэтым я і скончыў свае ранішнія медытацыі, слухаючы між тым крыху з гідлівасцю, аднак з сапраўднай палёгкаю яе марудны шоргат па пакоі, ад якога па спіне бегалі мурашкі, і гледзячы на тое, як асіметрычна рухаюцца яе рукі, збіраючы на стол. Аднак жа і ёй перапала жару-полымя ад таго ачышчальнага агню, які распаліў я ў той дзень... Ці перапала ўсё-такі толькі мне самому?

— Зноў вы ставіце мне гэты стары кубак?

Старая палічыла, што яна нешта недачула, і таму нават нічога не адказала.

Пузаты ёмісты кубак у блакітны гарошак застаўся мне ад маці, з таго часу, як яна памерла, я заўсёды з яго п'ю каву, больш дакладна, Жофі мяне поіць з яго, відаць, у знак удзячнай памяці.

— Вы чуеце, што я кажу?

— Чуць-то я чую,— прабурчэла старая, падсоўваючы тым часам кубак мне пад нос,— ды толькі ніяк не ўцямлю, пра што гэта вы гаворыце. Чым жа гэты кубак вам не дагадзіў?

— А тым, што надакучыў мне.

— Ды як жа надакучыў, калі гэта вашай матулі кубак! — абурана ўсклікнула аканомка.— Малады пан, малады пан, перастаньце, а то бог вас пакарае!

Я сумеўся, бо на такі аргумент я не разлічваў. Якія, аднак, супярэчнасці нясе ў сабе душа чалавечая: што ж зберагла ў сваёй памяці гэтая старая жанчына пра маю маці і што ж яна так любіла ў ёй, у той, каму вымушана была слугаваць? Ну вядома, ду-

маў я, адсоўваючы кубак як мага далей, калі ўжо выпала табе доля быць камусьці слугою, то як жа і цярпець самога сябе інакш, як не палюбіўшы путы, у якіх цябе трымаюць. Але заклікаць бога на абарону нейкага там абшарпанага кубка!

— У бога не знойдзецца лепшай работы? — спытаўся я.

— Пасаромеліся б, малады пан,— сказала старая, зноў падсоўваючы мне кубак.— Такі вы, сіротка, адзінокі, жывяце вы, нібы пустазелле каля дарогі, ні бацькі ў вас няма, ні маці, жонка і тая вас пакінула. А вы нават і памяць пра іх хочаце знішчыць?

— Гэты кубак вы забярыце, Жофі,— сказаў я,— каб я яго больш не бачыў. А ўспамінамі я займуся тады ўжо, як састарэю.

— Дык вы ж і так даволі ўжо стары,— з'едліва адгукнулася старая, скіраваўшы на мяне свой кручкаваты чырвоны нос.— Чаго ж вам яшчэ чакаць, мой панок?

Я засмяяўся.

— Колькі ж, вы думаеце, мне гадоў?

— Нічога я, паночку мой, не думаю, бо і без таго ведаю,— адказала старая.

Жофі была ў самым ваяўнічым настроі, відаць, ноччу яе добра намучыла падагра.

— Нічога вы не ведаеце,— сказаў я ёй.— Адкуль вам ведаць, калі я і сам не ведаю. Хіба вы шпіёніце за мной?.. Не пашкадавалі сіл і дапляліся да раённага аддзела, каб дазнацца год майго нараджэння?

На гэты раз старая аканомка змоўчала, не супакоіліся толькі яе вочы: спачатку яна іх апусціла, потым падняла зноў і, як быццам шкадуючы мяне, надоўга затрымала на мне іх цьмяна-блакітны позірк.

— Старасць, пане мой, не падманеш,— сказала яна, крыху пачакаўшы.— Клічам мы яе ці не, яна

тут як тут. Каб вы, мой панок, не біліся з ёю, а прынялі па-добраму тое, што богам адмерана...

— Жофі,— сказаў я,— не стамляйце ж вы так пана бога!

— Ён не стоміцца,— сказала Жофі ціха.— Я ж толькі аднаго хачу, каб жыццё ваша, малады пан, было спакайнейшае, каб не мучылі вы сябе дарэмна з-за таго, чаго не зменіш, як ні старайся. А вось каб зміры́ліся вы з тым, што сама прырода вымагае...

І зноў гэты доўгі, са шкадаваннем позірк на маім твары.— ...і што ўзросту вашаму адпавядае...

— Ды што вам мой узрост спакою не дае, ведзьма вы старая?

— Ну добра, не бушуйце! — гыркнула старая.— Піце сваю каву, пакуль гарачая. Не бойцеся, я ўжо нядоўга буду дакучаць вам сваёй гаворкай.

— Не пужайце! — грымнуў я.— А пакуль не прыйшло тое вартае жалю імгненне, прыміце з вачэй маіх гэты кубак! І надалей кожны дзень прыносьце мне каву ў іншым кубку, кожны дзень. Разумееце?

Жофі зноў апусціла вочы і, як мне здалося, змянілася ў твары. Але перш чым яе дрыготкія пальцы паспелі дацягнуцца да кубка, я схапіў яго сам, падняў і шпурнуў у куток, гэта быў добры, моцны кубак, разляцеўся ён усяго на нейкія тры ці чатыры чарапкі.

— Гэта, каб вас не грызла сумленне,— сказаў я.— Ваша праўда, выдумаў сабе чалавек брудную работу — хай сам яе і завяршае.

У пачатку гэтых нататак я ўжо згадваў, што мы з сынам жылі зусім адны вось ужо семнаццаць, васемнаццаць, а можа, і дзевятнаццаць гадоў; гэта, зрэшты, трэба яшчэ ўдакладніць. У ранні́м маленстве Тамаш прабыў некалькі гадоў у Швейцарыі,

спачатку, каб засвоіць нямецкую мову, у доктара Шміта ў пансіёне св. Галены для хлопчыкаў, а потым яшчэ некалькі гадоў у сваёй цёткі ў Жэневе, каб вывучыць французскую мову. Што тут казаць, мне хацелася проста пазбавіцца ад яго на нейкі час. Мая кватэра была занадта перапоўнена яго дзіцячай жвавасцю і, галоўнае, яго голасам, я ж з гадамі стаў лічыць сябе абавязаным больш клапаціцца пра неабходныя рабочыя ўмовы майму пяру. А калі па шчырасці — я проста распесціўся. Нельга так рабіць? Не трэба закалыхваць самога сябе, думаў я ўжо тады: калі чалавеку за семдзесят, ён мае права, хоць да людзей ён паварочваецца ўсё яшчэ сваім калючым бокам, самому сабе жадаць нейкай палёгкі.

Вядома, трэба мець нейкую меру: хадзіць у пантофлях няварта нават і дома, а распускаць гарсэт самадысцыпліны можна хіба толькі ў сне. Мае разумовыя здольнасці, лічыў я, захаваліся цалкам, ды і свет эмоцый не замёр яшчэ пад покрывам старасці, вось толькі менш стала спачування і, наадварот, дабавілася зларадпасці, усё больш злуе мяне цяпер людская самаўпэўненасць. Куды сягаем? Угору на Месяц? Яшчэ вышэй? Не, ніякай ракеце не вынесці нас так далёка ў бязмежныя далячыні, каб не рушыла за ёю, ухапіўшыся хоць за апошнюю яе ступень, чалавечая пыха, не абагнала яе наша зайздрасць. На якім жа нябесным целе, пытаюся я ў сябе, скурчыцца апошні чалавечы шкілет з вымерзлымі слёзнымі мяшочкамі пад пустымі вачніцамі?

Што ж да мяне, то, хоць мой гонар, маю амбіцыю вы ведаеце, я цалкам задаволіўся б тымі маленькімі сюрпрызамі, якія дорыць нам наша Зямля. Сны мае празмерна фантастычныя, і таму іх нельга ажыццявіць, але я цалкам задаволіўся б — і які б шчаслівы быў! — калі б спраўдзіўся хоць самы немудрагелісты

з іх, каб я здолеў, скажам, пamірыць пана Іожэфа Кеттаўэра, майго суседа злева, з Іштванам Барцам, маім суседам справа, якія з-за перастаўленага кімсьці бака для смецця цяпер спяць і бачаць, як бы прыкончыць аднойчы свайго ворага ступкай альбо шуфлем — і быў бы ўражаны да глыбіні душы, калі б бог даў мне досыць розуму і цярпення ажыццявіць гэта. Выбрацца куды-небудзь далей я не асмеліўся б нават у сне. Ну, скажам, прайсці каля некалькіх дамоў уверх ці ўніз па вуліцы, залезці ў аўтобус у гадзіну «пік», наблізіцца да канторскага стала якога-небудзь чыноўніка. Сесці, нарэшце, у электрычку Прыгараднай чыгункі, пабыць на імшы сярод набожных бабулек у Нірэдзьхазе. А ўжо за мяжу я нават позірк кінуць не асмеліўся б. Усяго доўгага жыцця мне не хапіла б, каб пералічыць, пад якімі вугламі скрыжоўваюцца варожыя чалавечыя страсці і колькі бальзаму і перавязачнага матэрыялу патрэбна, каб вылечыць нябачныя траўмы людскія.

Паўтараю, я злуюся, хоць і пасмейваюся іншы раз, назіраючы кругаварот недарэчнасцяў. Ці ж лепш замест таго, каб наракаць, кінуцца ў адчай, гэта значыць, самому сабе нашкодзіць?

Важна не забыцца пра адно: раз ужо я не шкадую іншых, то і сябе шкадаваць няма чаго. І калі пачую, убачу альбо прачытаю ў газеце штосьці, на мой погляд, абуральнае, я павінен помніць, што гэта адбылося не дзеля таго, каб уздзейнічаць на маю печань і слёзныя мяшочкі, і не абавязкова менавіта мяне клічуць з маім справядлівым словам. Не я вяршыня свету. І вельмі нават верагодна, што гэты свет круціцца нада мной, а не пада мной. Што дзвюм каменным скрыжалям Майсеевым у лепшым выпадку знайшлося б месца ў гумарыстычным аддзеле «Мадзьяр нэмзэт», ды і то поспех яны мелі б даволі сціплы. «Не жадай блізкаму свайму...» Ну, і не жадай! «Не за-

бі!» Ха-ха,— усміхнецца чытач, калі яшчэ не перагарнуў гэтай старонкі.

Аднойчы, калі сын мой Тамаш быў яшчэ ў Швейцарыі, да мяне на кватэру заявілася нейкая маладая пісьменніца.

Нягледзячы на мае просьбы трымаць у рэдакцыі пад замком нумар майго тэлефона і адрас, не праходзіць і тыдня, каб да мяне не пастукаўся які-небудзь няпрошаны госць. Паненка Сільвія Вуковіч сцвярджала, што атрымала мой адрас ад самога мяне. Я гэта адмаўляў, спасылаючыся на сваю бездакорную памяць.

— Ну што вы, паненка,— сказаў я,— мая памяць служыць мне ўсё яшчэ бездакорна, я помню, уявіце сабе, дзявочае прозвішча маёй маці, ды што там прозвішча, помню нават год нараджэння, дык як жа вы...

Відаць, яна палічыла мае словы за самаіронію, бо раптам усміхнулася.

— ...як жа вы маглі ўявіць, што я магу забыць сустрэчу з такой чароўнай асобай?

Што і казаць, яна была надзіва прыгожая жанчына.

— Мы сустракаліся ў рэдакцыі «Уй Іраш», Настаўнік...

— Ніякі я не настаўнік!

Яна зноў усміхнулася.

— ...мы выйшлі адтуль разам, і вы былі такі далікатны, што нават крышачку правялі мяне. Помніце?

Яна зноў усміхнулася мне. Каб не гэтая ўсмешка, я выгнаў бы яе пры ўсёй яе прыгажосці. Яна маніла: я не маю звычкі праводзіць пісьменніц, я баюся іх як агню. Да таго ж паненка Сільвія — крыху пазней і вельмі нядоўгі час, у хвіліны маёй слабасці я буду зваць яе Сільвай — уся выкручвалася, нібы змяя, ад гатага і ў мяне ўсярэдзіне ўсё выкруч-

валася, пераварочвалася, яна нагадвала мне адну некалі выпадкова ўбачаную спявачку з нейкага шоу, і яна не толькі не разбудзіла маёй мужчынскай сілы, а наадварот, супакойвала яе, як, зрэшты, і яе працяжны, тоненькі, салодзенькі галасок, ад кожнай мадуляцыі якога ў твар мне так і пырскала кропелька штучнага мёду. Я ажно выцерся.

— Праўда ж, вы ўспомнілі?

— Вы нарадзіліся ў правінцыі, паненка?

— Што вы, Настаўнік. Тут...

— Я не настаўнік!

— Прабачце, тысячу пацалункаў. Я нарадзілася тут, у гэтым цудоўным Будапешце, які так люблю. Чаму вы пытаецеся?

— Калі вы нарадзіліся тут, адкуль тады гэтае вымаўленне? — сказаў я злосна, бо адчуваў хуткае сваё паражэнне.— Магчыма, так гавораць дзе-небудзь у Балмайжуйварашы, але ў Пешце...

— Я так люблю вас,— сказала жанчына. І зноў усміхнулася.

— І калі ж мы маглі сустрэцца ў рэдакцыі «Уй Іраш»? — спытаўся я.— Зрабіце ласку, пاможыце на гэты раз маёй памяці, ва ўсіх астатніх выпадках бездакорнай.

— Летам,— сказала яна.— У жніўні.

Яна хлусіла. У жніўні мяне не было ў Пешце. А мо быў? І хіба не ўсё роўна, што яна маніць? Гэтая хлусня ў канчатковым выпадку ёсць просьба прабачыць ёй за ўварванне, гэта, уласна кажучы, прызнанне майго, па сутнасці, незаконнага, нічым не апраўданага імкнення жыць адасоблена ў чалавечым грамадстве. Гэта, уласна кажучы, толькі прызнанне таго факта, што з нас дваіх я мацнейшы і што ў жорсткай барацьбе, якую вядуць адно з адным людзі, мужчыны і жанчыны, ёй трэба было б ратавацца, уцякаць ад мяне. Хлусня — адзіная магчымасць сла-

бых утрымацца на гэтай грэшнай зямлі, інакш тыя, хто мацнейшы, абавязкова вырвалі б зямлю ў іх з-пад ног.

— Ваша праўда, паненка,— сказаў я,— не было б хлусні, чалавецтва даўным-даўно загінула б.

Яна ўсміхалася.

— Не разумею.

Але яна ўсё разумела, разумела лепш, чым я сам. Бо была жанчынай і прытым такой жанчынай, якія хлусяць не толькі маленькім сваім розумам, а ўсімі клеткамі свайго цела.

— Адна з найбольшых памылак маральных кодэксаў, паненка,— сказаў я, звяртаючыся да яе, але адрасуючы сабе,— у тым, што ў іх адсутнічае хлусня, якая з'яўляецца фактычна адным з найвялікшых адкрыццяў чалавецтва. Уявіць сабе суіснаванне без хлусні немажліва. Хлусня змацоўвае любую супольнасць, якая ў адваротным выпадку распалася б на звар'яцелыя, крывавыя часцінкі.

Дама мне ўсміхалася.

— Ой, які вы слаўны!

— ...хлусня,— працягваў я, з незразумелай нервознасцю ходзячы па пакоі,— змякчае норавы, бо апранае грубы інтэрас чалавека ў прыстойнае адзенне, і такім чынам ён можа ў такім адносна прыстойным антуражы абараняць тое, на што ён, як яму здаецца, мае права. Але яна не толькі забяспечвае правілы прыстойных паводзін...

— Ой, які вы, аднак, цудоўны! — прамовіла паненка Сільвія.— Я думаю абсалютна гэтак, толькі выказаць усё вось так не змагла б.

— Безумоўна, паненка, вы думаеце гэтаксама,— сказаў я.— Дык вось, хлусня забяспечвае не толькі вонкавую прыстойнасць, яна нясе мір у нашы чуллівыя душы, ашчаджае наша сэрца, бо маніць жа мы

можам і самім сабе. Асабіста я маю намер хлусіць сабе да самай апошняй хвіліны.

Раптам мне ўсё надакучыла, на душы стала брыдка.

— Уласна кажучы, што вам, паненка, ад мяне трэба?

— Ах, які вы мілы,— прамовіла дама.— Перасталі б вы бегаць узад-уперад па пакоі, бо ў мяне ўжо ў галаве круціцца. Можа б, вы прыселі побач са мной на канапу?

Яна ўсміхалася.

Яе ўсмешка мяне абяззброіла. Выпырхнуўшы з пялёсткаў такога прыгожага, але банальнага стварэння, усмешка гэтая выявіла саму вечную прыроду: гэта была мудрая жаночая ўсмешка. Незабыўная, халодная ўсмешка самой прыроды. І мне ўсё роўна, што гэтую ўсмешку яна паклікала сабе на дапамогу не дзеля высакароднай мэты: яна ж на некалькі хвілін выцягнула мяне з панцыра маёй самаўпэўненасці і напоўніла мяне шчасліва-блазнаватым усведамленнем маёй нязначнасці. Якое мае значэнне, дзейнічаю я ці не? Не мае ніякага значэння і тое, што я старэю, што рана ці позна выйду з абароту, а гэтае Стварэнне і потым будзе часам усміхацца. На некалькі хвілін я стаў лёгкі, як пушынка, увесь цяжар адказнасці пакінуў мяне.

— Уласна кажучы, што вам, паненка, ад мяне трэба? — паўтарыў я, калі зноў прыйшоў да памяці.

Ну і што тут такога, калі маладая пісьменніца шукае ў мяне дапамогі? Ну і што, калі ў жорсткіх унутраных бітвах нашага літаратурнага асяроддзя яе «нявыяўленая» адоранасць пускае ў ход, як дапаможны сродак, яшчэ і сваю прыгажосць? Яна ж ведае, што ў мяне ёсць сякі-такі ўплыў у гэтых літаратурных зарасніках, якія так па-рознаму пахнуць, што з маім словам лічацца, што мяне паважаюць,

альбо, прынамсі, робяць выгляд, што паважаюць, і last but not least [1] баяцца мяне, нягледзячы на тое, што я ўсім адказваю на прывітанні. Адным словам, я яшчэ potens [2], і было б ненармальна, калі б маладая прыгожая жанчына не паспрабавала ўвайсці альбо, ва усякім выпадку, хоць бы пастукацца ў брамку маёй патэнцыі, хай сабе дзеля дасягнення шчасця зусім іншага гатунку. Бог ты мой, хоча быць пісьменніцай — хай сабе будзе. Узровень літаратурнай прадукцыі краіны ад гэтага істотна не знізіцца.

А маё сумленне? А кажучы больш сціпла, мой густ?

Але ці такі ўжо ён надзейны?

— Ой, божа мой, я так узрушана, што вы, Настаўнік, прынялі ўсё-такі мяне, маладую сціплую пісьменніцу. Я сяджу цяпер тут, на вашай канапе... вы ж тут звычайна спіцё, праўда ж?

— Не «праўда ж»,— панура прабурчаў я.

— Ах, зноў вы...

І ўсміхнулася.

— Я не сяду цяпер побач з вамі, паненка, я заняты,— сказаў я.— Пакіньце рукапіс і пазваніце праз тыдзень, за гэты час я, мабыць, прачытаю яго.

Але яна не пазваніла, яна, не ведаючы стомы, зноў з'явілася сама. Рукапіс яе быў вельмі нізкага ўзроўню, самага нізкага. Я брыдка лаяўся, чытаючы яго. Вось, каб яе чорт узяў, мармытаў я сабе ціха, удыхнуць бы ў гэтае цела дух, яму адпаведны — з яе б выйшла новая герцагіня Сансеварына. Але ж таленту ў яе ні крупінкі. Ну хоць бы столькі, каб яе опус можна было апублікаваць хоць у якім-небудзь венгерскім часопісе. Быў бы я Эрнестам Рануцыё IV,

---

[1] Не ў апошнюю чаргу *(англ.)*.
[2] Моцны *(лац.)*.

тыранам пармскім[1], я загадаў бы гэтую даму пакараць смерцю, каб выправіць фатальную памылку прыроды, агіднае спалучэнне цела з пустатой, але, на жаль... Альбо сам атруціўся, усё ж было б лягчэй, чым з ёй гутарыць!

За сваю доўгую жыццёвую дарогу я прывык гаварыць пісьменнікам праўду ў вочы — прашу прабачэння, але па-мойму гэта так — такая роля найбольш мне пад густ. Не раблю выключэння нават самому сабе... хіба толькі зрэдку. Часам, бывала, сэрца аблівалася крывёю, калі бачыў такую сімпатычную істоту, але я пераадольваў сябе. І ці не таму маладыя пісьменнікі ўсё радзей пераступаюць мой парог, каб пачуць маю думку пра сваю працу? Агідны стары — такі, відаць, мой партрэт складваўся ў іх. Струхлеў, не паспець яму ўжо за намі. У маладосці, праўда, выдаў некалькі някепскіх рэчаў, ды калі ўжо тое было. А калі і заляціць да мяне зрэдку які-небудзь недасведчаны верабейка — накшталт гэтае паненкі,— каб атрымаць блаславенне, то і ад гэтага я меў не шмат радасці. І верабейка таксама.

Так, відаць, усё-такі старэю, не люблю ўжо праўды. Я стаяў каля акна, спіной да канапы, на якой, трэба думаць, уладкавалася дама, і пазіраў у сад. Стаяў і дзівіўся з незвычайнай сваёй разгубленасці. Што ёй сказаць? З чаго пачаць? За маёй спіной пачуўся смех, звонкі, чысты смех.

— З чаго вы смеяцеся? — спытаўся я, не паварочваючыся.

— З таго, як нервова вы барабаніце па шыбіне. Ой, ці не баіцеся вы мяне?

— Дарагая паненка Сільвія,— вымавіў я,— прачытаў я ваш рукапіс...

---

[1] Герцагіня Сансеварына, Эрнест Рануцыё IV — героі рамана Стэндаля «Пармскі манастыр».

Але я спазніўся; калі я павярнуўся да яе, яна стаяла ўжо голая, параскідаўшы абы-дзе сваю сукенку, бялізну, дымчатыя калготкі апынуліся ажно на пісьмовым стале, прыкрыўшы толькі што пачатую мной работу. Я мог бы палічыць гэта за нейкі сімвал, калі б у мяне быў настрой і час на мудраванне. Але не было ні таго, ні другога. Я сеў у крэсла і глянуў на голую даму, якая стаяла перад канапай. Цела яе было ідэальнае.

Яна ўсміхалася.

— Ідзіце ж!..

Я сядзеў і глядзеў на яе.

— Такая цудоўная маладая жанчына — рэдкі падарунак старому,— сказаў я.— Дазвольце ж яшчэ крыху палюбавацца на вас. Тут цёпла, вы не замерзнеце.

Яна мне ўсміхалася.— Ды ідзіце ж! — паклікала яна яшчэ раз...

Праз тыдзень я паслаў Тамашу ў Швейцарыю пісьмо. Хай едзе дахаты. Няхай у доме будзе мужчына.

Да сказанага трэба дадаць: Тамаш патрэбны быў не толькі ў доме, ён патрэбны быў і мне самому. Вельмі ўжо затхлае стала ў доме паветра ад спалучэння маёй старасці і старасці Жофі, яго неабходна было хоць крыху асвяжыць рухам маладосці, каб мы не замоўклі навек у нашай панылай цішыні. Колькі ні сварыўся я з Жофі з-за living глупства, як ні агрызалася яна мне, абаім нам даўно ўжо прыеліся ўсе адценні і нюансы нашых размоў, і дзе ўжо нам было прыслухоўвацца да іх сэнсу! Што маглі мы сказаць адно аднаму, што растлумачыць з яшчэ неразжаванага да агіды за мінулыя дзесяцігоддзі? І нявыказаныя думкі адно аднаго мы ведалі на памяць.

А тут яшчэ Жофі з нейкай пары літаральна пра-

трубіла вушы: забяром ды забяром хлопчыка дамоў.

— Загадайце хлопчыку дахаты ехаць, малады пан,— гаварыла яна.— Хоць бы паглядзець на яго, пакуль жывая.

— Ну, тады можна не спяшацца,— сказаў я.— Гэта ж вы будзеце рагатаць каля маёй магілы, а не я каля вашай.

Старая аканомка засмяялася.

— Не дай божа,— сказала яна.— Ды я цэлыя дні навылёт выла б каля вашай магілы, пакуль і мяне чорт не забраў бы.

— Чорт? — прамовіў я сярдзіта.— Дык вы і ў пекле збіраецеся за мяне чапляцца?

Старая не адказала.

— Што тут доўга гаварыць, малады пан, пара ўжо хлопчыка дахаты клікаць,— сказала яна крыху пазней.

— Навошта?

— Каб быў у доме мужчына.

— Не, пайшла ты к чорту, бабулька! — закрычаў я.

Як ні сорамна, але прызнаюся: яна мяне так раззлавала, што дахаты ў той дзень я прыйшоў позна ноччу, калі добра ведаў, што яна ўжо ў пасцелі. Не хапала яшчэ, каб яна мне і спаць не давала, мелючы ўсякую лухту сваім нястомным грубым языком, каб і ў сны мае ўтыкала свой тоўсты чырвоны цікаўны нос. Мала ёй, што абдзірае мяне да ніткі, дык з мяне яшчэ і пасмейваецца. Пасмейваецца так, як смяецца з неразумнага дзіцяці дарослы, які фанабэрыцца сваім вопытам: пачакай, маўляў, жыццё і цябе правучыць! Будзеш і ты цягацца нага за нагу. Нібы не бачыць, што я і цяпер не хаджу, а ледзь поўзаю, толькі што ногі перастаўляю... Апошнім часам чуваць у яе гаворцы нібы шкадаванне: бачу, маўляў, бачу, бедачок ты мой, што праз сілу цягаешся, падобна, што і

цябе нарэшце стукнула па галаве... І не варта нават згадваць, што раўнівая ведзьма даўно ўжо прыкмеціла, з якога часу — а праўда, з якога часу?.. адзін бог ведае — я не начаваў не дома, гэтак жа як раней яна сваім вядзьмацкім нюхам беспамылкова чула, калі я быў у кампаніі з жанчынай, і кожны раз давала мне гэта зразумець ледзь прыкметным, помслівым падрыгваннем ноздраў.

Візіт паненкі Сільвіі збіў з тропу не толькі мяне, але, бадай, і Жофі таксама; яна падазрона паглядала на мяне то злева, то справа, калі ж я выпадкова паварочваўся да яе, яна паспешліва адводзіла вочы. Калі б я сумеў назваць яе сваёй маці, гэта значыць, калі б я не саромеўся яе, я спытаўся б адкрыта: ну, ты ж усё ведаеш? Ты бачыш скрозь сцены, чуеш праз іх нават шэпт? Ты ведаеш і мае самыя ганебныя сны?

І тым не менш, ты не ведаеш усяго, сказаў бы я. Ты не ведаеш, што ноччу пасля той прыгоды, якая так сумна скончылася, я ляжаў з той паненкаю — без яе — і даказваў самому сабе, што час майго мужчынскага «я» яшчэ не прайшоў... Вядома, марна траціць свае сілы ўжо няварта — гэта занятак легкадумных дваццацігадовых юнакоў, з якіх так і рвецца радасць жыцця. Я ж, наколькі мне вядома, ужо не маладзён, хоць і не магу таго пацвердзіць ні метрыкаю, ні пасведчаннем аб хрышчэнні.

Не, не, паненачка, мы не будзем марна траціць сваёй сілы, тлумачыў я Сільвіі Вуковіч, якая раздурэлася ў маім распаленым уяўленні, бо нам, дзякаваць богу, ужо не дваццаць. Мы абачлівыя і ў нейкай меры скупыя, бо ўсе лепшыя жыццёвыя сокі беражэм для работы. Цяпер-то вы былі б мной задаволены і нават больш таго, але, на жаль, мне цяпер не да таго, мяне чакае мой пісьмовы стол...

З тым і ўвайшоў я ў новую пару свайго жыцця, у лабірынт самападманаў. Праўда, блукаў у ім я зу-

сім нядоўга, аднак час той быў вельмі пакутлівы. Ад мяне самога залежыць, разважаў я, лежачы пад слабенькай зорачкай начніка і скіраваўшы вочы на абрысы майго любімага стала, што расплываліся ў змроку, толькі ад мяне залежыць, рвануцца заўтра раніцаю аж да самых зор — ну, ну, больш сціпла: кудысьці побач з імі — альбо, застаючыся на гэтай юрлівай зямлі, падняць тэлефонную трубку і патэлефанаваць паненцы Сільвіі Вуковіч, якая ў сваім бязмежным аптымізме пакінула на стале свой адрас і тэлефон.

Я так і не набраў яе нумара. Кожную ноч цвёрда рашаўся пазваніць, а раніцаю ад свайго рашэння адмаўляўся. Калі мая рука ўсё-такі цягнулася да тэлефоннай трубкі, я адхопліваў яе, быццам мяне ўкусіла пераапранутая ў павука Сільвіна «праўда ж». Я павінен працаваць, паўтараў я сам сабе, ад завітушак з-пад майго пяра залежыць шчасце ўсяго чалавецтва, у тым ліку шчасце паноў Іожэфа Кеттаўэра і Іштвана Барцы, маіх суседзяў злева і справа, якія, высунуўшыся з вокан, баючыся дыхнуць, з двух бакоў сочаць за рухамі майго пяра. А за імі ўся краіна слухае, прыставіўшы да вуха далоні. Ды што там краіна!.. слухае ўсё чалавецтва, сякія-такія ж мае кнігі перакладзены на чатырнаццаць моваў. Я ахвяра пачуцця адказнасці: я не магу пазваніць паненцы Сільвіі...

— Шкадую, паненка,— усё-такі мог бы я сказаць ёй па тэлефоне, увайшоўшы ў ролю Рабесп'ера Непадкупнага,— я мог бы ў любы час выправіць дапушчаную мінулы раз няветлівасць, але мне няма калі вас прыняць. Менавіта цяпер я заняты складаннем чатырнаццатай запаведзі.

Аднак нейкі час усё ж прайшоў, пакуль я сам сябе выкрыў. Выкрыў прыхаваную ў глыбінях душы баязлівасць, якая не адважвалася выйсці на выпрабаван-

не рэчаіснасцю. Дзесьці ў самым нутры сваім я ўсё-такі ведаў, ведаў лепш, чым залозы ўнутранай сакрэцыі, што надышла старасць і што я набліжаюся да канца майго шляху: цяпер ужо не грэх быць і маладушным. Мудра з гэтым змірыўшыся, не трэба, вядома, забывацца, што, хоць у самым канцы мы будзем абавязкова пераможаны, мы можам яшчэ, хай сабе мы толькі тлеем, рабіць сваю справу. Я з агідай стаўлюся да занадта храбрых старых. Мая рука добра ведала, што робіць, калі, пацягнуўшыся да тэлефона, раптам адхаплівалася: яна не хацела мяне выдаваць. Яна лепш за мяне адчувала жахлівую розніцу паміж фантазіяй і рэальнасцю.

Паўтараю, перыяд крывадушнасці і самападману скончыўся хутка, ён абрынуўся, нібы абвал. Аднойчы днём — помню, якраз была субота — я нечакана зусім здаўся. Прычыны — аніякай. Імгненна я ўсвядоміў, што гэта старасць ні з чога ні з якага стукнула мне па патыліцы, што я збіты з ног і больш не ўстану ніколі. Дарэмна закалыхваю сябе, дражню сябе начамі тым, што ёсць у мяне мужчынская сіла, душа — праклятая! — ведала, што не зазнаць мне больш — паводле ўлюбёнага біблейскага выразу — жанчыны з жывой крывёю і плоццю. Назаўжды астыла месца ў пасцелі побач са мной.

Паўтараю, не было ніякай асаблівай прычыны таго, каб так раптам упала заслона з вачэй, ды калі б я і мог адшукаць яе, тую прычыну, яна схавалася ў мазгавых звілінах гэтак глыбока, што ніякім псіхалагічным пінцэтам я не выцягнуў бы яе адтуль. Я сядзеў за пісьмовым сталом у сунічным святле веснавога захаду сонца, дапісваў няскончаную фразу ў новым рамане і раптам заўважыў, што плачу. Слёзы каціліся па маім твары, аддавалі салёным на маіх старэчых губах. Я здзівіўся, аблізаў губы. Рыданне вырвалася ўжо пасля, прарваўшыся з сярэдзіны праз

павуціну некалькіх разгубленых уздыхаў, але вырвалася з такіх глыбінь, так сутаргава, што я схапіўся за стол, каб не зваліцца з крэсла. Я ўсё яшчэ не разумеў, што са мною, і, як дзіця, кулаком выціраў слёзы. Выгляд у мяне, відаць, быў вельмі пацешны, гэта ж варта толькі ўявіць: сівы, але яшчэ моцны, пры нармальным розуме стары сядзіць за сталом, заглыбіўшыся ў працу, і раптам без ніякай прычыны пачынае рыдаць з такім адчаем, з такой смяротнай крыўдай, быццам родны сын ударыў яго па твары. Жыве ён у дастатку, карыстаецца прызнаннем, сякія-такія яго кнігі перакладзены на замежныя мовы, і раптам ён адкрывае, што горка пакрыўджаны на ўвесь свет. А як жа інакш? Ён жа павінен памерці!

Пайшлі, што ўжо тут таіцца, пакутлівыя дні, месяцы. У блуканнях па гэтым пекле я страціў, здаецца, усякую самапавагу, нават да часу закінуў свой раман. Вечарамі, калі я заставаўся дома, даводзілася іншы раз замыкацца, каб Жофі, чаго добрага, не ўбачыла мяне аднойчы ў слязах. Вось гэта дык ужо нечаканасць, думаў я, азіраючы ўзгоркі і нізіны пройдзенага шляху, што пад старасць я стану істэрыкам. Я баяўся, зразумела, не смерці, а струхлеласці. На другі дзень пасля таго, як у мяне расплюшчыліся вочы, іншымі словамі, пасля таго, як я працверазеў, гэта значыць, у нядзелю, раз тая падзея адбылася ў суботу, я зайшоў да свайго старога сябра, які нядаўна ажаніўся з асобай, маладзейшай за яго гадоў на дваццаць. Я ведаў яе яшчэ дзеўчанём, гэта была чароўная дзяўчына, і да ўсяго яна была падобная на маю жонку.

Дзверы адчыніў Янаш.

— Гэта ты нарэшце, стары разбойнік?

Я засмяяўся. «Стары разбойнік»! Што ж, трапіў ён не ў брыво, а ў вока. Я смяяўся так доўга, так старанна, што Янаш, здаецца, адчуў фальш.

Янаш пакачаў галавой.— Што з табой, шэльма?

«Шэльма»! Яшчэ лепш! Я засмяяўся яшчэ мацней, але цяпер з самога сябе, выгляд майго добрага сябра, нібы антыспазматычны сродак, на нейкі час аслабіў спазму ў маім сэрцы.

— Са мной нічога,— сказаў я.— А як ты, лабух?

А раптам я памаладзею, калі перайду на юнацкі жаргон! З гэтага я зноў нейкі час пасмяяўся.

— А жонка?

— У магазін пабегла,— сказаў Янаш,— хутка вернецца. Ты ж, вядома, павячэраеш з намі?

— Мяса я вечарам не ем,— сказаў я.— Кубак малака, вось старому казлу і хопіць.

Янаш паглядзеў на мяне здзіўлена.

— З тыдзень назад я бачыў цябе ў «Фесеку», ты аплятаў там вось такі ростбіф з цыбуляю...

— Даўно гэта было.

Янаш спыніў на мне доўгі, як сама Вялікая Сярэднедунайская нізіна, позірк.

— Сто чарцей табе ў глотку, літасцівы пане. ...Усяго тыдзень?.. і гэта, па-твойму, даўно?

— А ці вядома высакароднаму пану, колькі ўсяго-ўсякага можа здарыцца з чалавекам за тыдзень?

— Вядома. Ён пастарэе на цэлы тыдзень.

— Вось так, браце... Ну як, ці апраўдвае сябе наша куранятка ў шлюбе?

— Яшчэ як, ваша міласць! Якраз пад мерку. Вось і ты б менш хуліганіў ды абзавёўся такой, было б хоць каму на старасці пасцель пасланць.

— На маю долю хапае,— зухавата адказаў я.— Няма чаго турбавацца пра мяне, ваша светласць!

Янаш зноў падазрона зірнуў на мяне.

— Ты гэта сур'ёзна?

— Што?

— Цябе яшчэ цікавяць жанчыны? А колькі ж табе гадоў?

½ 3 Зак. 3268

— Не ведаю.

— Не ведаеш. Ну, пэўна! І табою, выходзіць, жанчыны яшчэ цікавяцца?

— Ці лічаць яны яшчэ мяне за мужчыну?..

Мы сядзелі адзін супраць аднаго ў Янашавым кабінеце ў двух старых, абабітых чорнай скурай крэслах, што стаялі каля самага акна. За акном, у маленькім садку ў раёне Ражадомба[1] ўзвышаўся вялізны каштан, тоўсты ствол якога дзяліў напалам краявід, што адкрываўся за акном: справа выгіналася дугой над цёмнай ракою і збягала на пешцкі бераг стужка ярка асветленага моста Маргіт, злева быў відаць слабей асветлены мост Арпад. Акно было расчынена, у пакой плыў водар нядаўна скошанай травы, за ім краўся на дыбачках пах дунайскай вады. Лёгка дыхалася. Хай сабе я стары, але я люблю гэты горад!

— Зірні на каштан,— сказаў я Янашу.— Ён, напэўна, равеснік мой, а ўсё яшчэ зелянее.

— Кабан,— сказаў Янаш.

— Я натура страсная, ты ж ведаеш,— заявіў я,— а ў жанчын на гэта нюх, яны чуюць гэта адразу. Скажам, учора...

— Племянны бык,— сказаў Янаш.— Вытворнік!

— Не люблю хваліцца,— не спыняўся я,— але вось хоць бы ўчора... пачакай, калі ж гэта?.. во, во, учора. Заходжу я недзе пад полудзень у кафэ «Вёрашмарці», заказваю кавы, каньяку. Быў змораны, бо ўстаў у гэты дзень як ніколі рана, хацеў паправіць няўдалую, недапісаную вечарам фразу. У кафэ адразу пайшоў у заднюю, пустую залу, там сядзелі ўсяго двое, ага, двое. Муж і жонка, зусім маладзенькія. Бываюць жа пары, ад якіх здалёк нясе сямейнасцю, як

---

[1] Ражадомб (літаральна: пагорак ружаў) — раён у Будзе, дзе размешчаны вілы.

чоснікам. Так і тут. Гэта былі англічане, англійскі дыпламат з жонкаю, праездам. Жанчыну звалі Сільвія.

— Адкуль ты ведаеш?

— Жанчыну звалі Сільвія,— гаварыў я далей,— місіс Сільвія Вуковіч. Нічога нетактоўнага ў тым, што я называю яе, няма, яны ўжо далей паехалі, да месца прызначэння, у Анкару. Увогуле ж яны амерыканцы, а я, калі па-англійску хоць пару слоў праквакаць яшчэ магу, то амерыканскага дыялекту не разумею зусім. Але ж і няма вялікай патрэбы размаўляць з жанчынаю, калі ў яе замест вачэй агністыя зоркі і яна табе так усміхаецца... Перад яе ўсмешкай, дружа, я і капітуляваў, усмешка гэтая, што выпырхнула з пялёсткаў таго чароўнага стварэння, увасабляла саму вечную прыроду: гэта была мудрая ўсмешка жанчыны. Незабыўная, халодная ўсмешка прыроды.

— І дзе ж яна выпрабоўвала на табе сваю ўсмешку? — спытаўся Янаш.

— Жыццё без кахання нічога не вартае, ваша вялікасць,— распаляўся я.— Адзін нямецкі філосаф, ці не Кант... але-але, менавіта Кант, сказаў... што ж ён сказаў?.. што каханне ёсць адзіная мажлівасць для двух індывідаў пераадолець усведамленне сваёй раз'яднанасці альбо — дадам я — з трыумфам пераадолець ніяк інакш не пераадольную невыносную адзіноту.

— Дзе ж і калі ты дамогся такога трыумфу? — спытаўся Янаш.— У кафэ «Вёрашмарці»?

— Я не сказаў яшчэ,— гаварыў і гаварыў я,— што ў дамы з вачамі-зоркамі цела было светла-карычневае, але гэта было не проста загарэлае еўрапейскае цела, колер яго быў нейкі больш старажытны, сталы колер, які паяўляецца яшчэ ў мацярынскім лоне. Яна, адным словам, дачка індыйскага магараджы.

— Ці не здалося мне, васпане? — спытаўся Янаш.— Толькі што вы мелі ласку гаварыць як быццам пра амерыканку.

— Яе муж амерыканец. І размаўлялі яны, само сабой, па-англійску,— сказаў я ўжо злуючы, бо адчуваў, што Янаш не столькі сочыць за маімі словамі, колькі вывучае мой твар. Ведаючы мяне як чалавека праўдзівага, ён, у горшым выпадку, мог западозрыць, што я крыху перабольшваю, і гэта мяне злавала. Што ён вышуквае на маім твары? Мой узрост, які не адпавядае таму, што ён ведае пра старасць? Ён жа помніць мяне ледзь не з дзяцінства і мог бы ўжо ведаць, што расказваючы я хлушу не менш чым напалову.

— Ну і як жа вы ўрэшце згаварыліся? — спытаўся Янаш.— Ты чаму маўчыш? — спытаўся ён зноў, крыху пачакаўшы.

— Таму, трэба думаць, што не магу з ходу прыдумаць, як мы з ёй згаварыліся.

Янаш прымірэнча паклаў сваю руку на маю.

— Не злуйся!

— Гляджу я на тваю сумленную фізіяномію, дружбак,— сказаў я,— і, ведаеш, на ёй проста напісана, чаму твая жоначка, не пройдзе і года, наставіць табе рогі.

— Дык як жа вы згаварыліся? — паўтарыў Янаш.

— Калі муж пайшоў у гардэроб па яе манто, я падышоў да іх століка і палажыў перад ёй сваю візітку з адрасам і тэлефонам. Назаўтра яна прыйшла. Прыйшла без папярэджання, па тэлефоне ж мы ўсё роўна не зразумелі б адно аднаго. Вось так, з'явілася без ніякага папярэджання, і ўсё тут. Без слоў, затое са сваёй усмешкай.

— І вось, уяві сабе спатканне,— распаляўся я,— калі каханне мужчыны і жанчыны адбываецца ў самым старадаўнім яго варыянце, пры выключаным ро-

зуме і чыста фізічным збліжэнні. Замест слоў мы толькі ўсміхаемся адно аднаму, дый усмешкі нашы мы ледзь бачым у прыцемку пакоя, дзе праз краты жалюзі палоскі святла сям-там даходзяць да ложка. І нічога не парушае прыемнага яднання двух цел, якое, акрамя ўзаемнага задавальнення, не ўскладняецца ніякім пабочным інтарэсам. Сільвія не хацела ад мяне ні грошай, ні каштоўных камянёў, не мела патрэбы і ў тым, каб я прапхнуў яе рукапіс у якім-небудзь выдавецтве, яна жадала толькі мяне самога, выпадковую кропельку мужчыны, якой яна з нязведанага капрызу прыроды хацела спатоліць сваю смагу. Неспатольную, можна сказаць, смагу самой прыроды.

— Уяві сабе далей,— працягваў я свой дыфірамб,— тую сапраўды дзівосную цішыню, якая ахутвае дыялог двух цел і якую адцяняе шолах пашарэцкіх садоў за вокнамі спальні. Змей з райскага саду, розум чалавечы не разяўляў сваёй пашчы, не чутно было ні гуку, адно пагладжванне мэтаскіраванымі рукамі, загнанае дыханне, уздыхі захаплення, цесныя абдымкі. Не, гаварыць не было патрэбы, узаемаразуменне было і без слоў. Быў голас прыроды, які пацвярджаў, што жыць яшчэ варта. Дружа мой, ты глядзіш цяпер на маю сівізну? Вось табе мая дактрына, мой апошні вялікі ўрок жыцця: жаніцца трэба з нямой жанчынай.

— Дык ты яшчэ хочаш жаніцца? — з цікаўнасцю спытаўся Янаш.

У гэты момант увайшла Юлі, якую, я ўжо казаў, ведаю з яе дзявочых гадоў. Цяпер яна была куды прыгажэйшая, чым раней. З хусцінкай у блакітны гарошак на непаслухмяных залаціста-рыжых кудзерках, прамым, крыху кірпатым носікам, поўнай снежна-бялюткай шыяй, з фігурай маладзіцы, у якой цяпер выявілася ўсё тое, што толькі намячалася ў дзя-

3 Зак. 3268

воцтве, яна ўзбуджала яшчэ болей, чым тады... калі ж гэта?.. даўно ўжо гэта было!.. калі я крыху за ёй упадаў і ледзь быў не закахаўся. Успаміны, мабыць, пастукаліся і да яе, яна пачырванела, пазнаўшы мяне.

— Ой, як добра, што вы зайшлі! Як даўно мы вас не бачылі.

— Чуеш, Юлі,— сказаў Янаш.— Гэты тып надумаў жаніцца.

Юлі засмяялася, потым, хочучы выправіць свой промах, падбегла да мяне, абняла, расцалавала. І нават прытулілася на імгненне сваім пругкім, гарачым, вясновым целам.

Не, я не зажадаў яе. Ніводнай клетачкай. Паглядзеў на яе і адрокся. Яшчэ нейкі час я ўважліва назіраў за яе рухамі, за ўсім тым маладым, што выпраменьвала гэтая жанчына і што такое прыемнае было і вачам, і вушам, і носу, і на гэтым крытычны аналіз сваіх намераў я скончыў. Не, я не зажадаў яе. Я стары.

Я высветліў тое, дзеля чаго сюды прыходзіў, таму імкліва падняўся і стаў развітвацца.

— Ой, як дзіўна! — усклікнула Юлі.— Як дрыжаць пальцы, у якіх вы трымаеце цыгарэту!

Я паглядзеў на свае пальцы.

— Дрыжаць! — вырвалася ў мяне.— Я стары, Юлі...

Тамашу, які летам вярнуўся нарэшце са Швейцарыі, я заявіў:

— Я вярнуў цябе дамоў, сын мой, таму што, як бачыш, старэю, а ў доме патрэбен мужчына.

Заўважу, што, як дадатак да гэтае фразы, я скрывіў на губах усмешку, каб хлопчык усё-такі не занадта сур'ёзна ўспрыняў паведамленне пра надыход маёй старасці. Я дапускаў, што ён разумее сама-іронію.

Трэба сказаць, што пасля гісторыі з паненкай Сільвіяй ужо прайшло некалькі месяцаў і я, хочаш не хочаш, змірыўся з тым, што мяне збілі з ног, паслалі ў накаўт. Да гарызантальнага становішча, якое давядзецца прыняць у магіле, чалавеку трэба прывыкаць загадзя. Вось я і прывык, лепш сказаць, змярцвеў і ўжо рэдка прачынаўся раніцай з лёгкім сэрцам, а часцей з пачуццём, што лепш было б зусім не прачынацца.

— Я вярнуў цябе, сын, дамоў, таму што, як бачыш, старэю і ў доме патрэбны мужчына,— паведаміў я, такім чынам, Тамашу з тонкай усмешкай.— Памяць мая слабее, інакш кажучы, яна не хоча турбаваць сябе тым, каб падымаць кожную крошку з зямлі альбо, правільней кажучы, адкідваць прэч з дарогі кожны ком зямлі.

Тамаш устаў, падышоў да пісьмовага стала, за якім я стаяў, і пяшчотна абняў мяне. Нават доўгае жыццё за мяжой не прыглушыла ў ім гарачага сыноўняга захаплення мной.

— Ты зусім не пастарэў, татка,— сказаў ён.

Ён быў прыгожы, стройны малады чалавек, хоць і ніжэйшы на цэлую галаву за мяне. Тварам ён таксама быў падобны да мяне, хоць і ў больш танным выданні; рысы яго твару, здаецца, пацвярджалі, што Тамаш захаваў у сабе з ранняй маладосці сумную педантычнасць і надзвычайную надзейнасць. Побач са мною да самай маёй старасці будзе здаровы, прыстойны, паслухмяны сын, заспакоена адзначыў я паводле сваёй звычкі думаць найперш пра сябе.

— Прыкметы старэння, сынок, неабвержныя,— сказаў я.— Так, за апошнія месяцы я заўважыў, што варта мне задумацца, і ніжняя губа абвісае і на камізэльку падаюць кропелькі сліны. Праўда, камізэльцы гэта не надта шкодзіць, бо сліна не пакідае плямаў, аднак ужо само гэта ганьбіць маю годнасць.

3*

Тамаш засмяяўся, і гэта мяне ўстрывожыла. Вядома, ён не дазволіў сабе ніводнай непачцівай рэплікі, аднак сам сабе, відаць, падумаў: што ж, мне хадзіць за табою ззаду з насоўкай у руцэ?

— Я згадаў пра гэта проста як пра адзін з сімптомаў непазбежнай старасці,— сказаў я.— Толькі дзеля канстатацыі факта, а не таму, што чакаю ад цябе дапамогі. Ты ж, скажам, не зможаш мне памагчы, калі я забыўся, як звалі майго першага сына, які памёр за дзесяць гадоў да твайго нараджэння. Ведаць яго імя мне няма патрэбы, гэта таксама ўсяго дзеля прыкладу. Мая славутая, мая некалі бездакорная памяць пачынае згасаць.

— А чаму ж ты, татка, не спытаўся ў Жофі?

— Кеміш ты не надта, сынок,— сказаў я хоць і з нецярплівасцю, але і з задавальненнем: перада мной стаяў пасрэдны тугадум, інакш кажучы, шчаслівы чалавек.— Ты ўсумніўся ў маёй старасці, я ж хацеў гэтыя сумненні развеяць. Эх, каб яны былі не проста знакам тваёй сыноўняй любові!

Тамаш зноў устаў, абняў мяне. Абняў з той сарамяжлівай пяшчотай, з якой, паляпваючы адзін аднаго па плячах, абдымаюцца толькі мужчыны. Я ані не сумняваўся, што ён і за мяжой захаваў атрыманыя ў спадчыну ад маці добрыя рысы, яе любоў да людзей і адначасную павагу да аўтарытэтаў, і што пад маім кіраўніцтвам ён шчасліва міне ўсе цяжкасці і нягоды, якія нібыта пагражаюць сучаснай моладзі. Ён не адгадаваў барады ў Швейцарыі, валасы стрыжэ коратка. Я доўга глядзеў на яго; усведамленне бацькоўскай адказнасці нават расчуліла мяне. Вядома, яму не пашкодзіла б крыху пазабаўляцца, падумаў я. Але ў сям'і дастаткова аднаго вар'ята. Хоць, сказаць па праўдзе, не сябе я лічыў вар'ятам на гэтым белым свеце.

— Чым ты думаеш заняцца ў Пешце?

З гэтага майго пытання і пачалася новая паласа маёй старэчай мітусні. Я толькі-толькі што прыйшоў да памяці ад першага грамавога ўдару — ха-ха-ха,— ад той першай пстрычкі па носе, якой скончыўся мой сталы ўзрост, і вось грымнула новая навальніца, яшчэ больш забаўная, чым першая.

Тамаш вучыўся на інжынера-тэкстыльшчыка. Ён расказаў, што ў Жэневе скончыў ужо 2 курсы, і спытаўся, ці можна яму жыць у мяне.

— А дзе ж табе яшчэ жыць? — сказаў я.— Кватэра даволі вялікая, двум халасцякам месца хопіць.

— Толькі...— прамармытаў Тамаш.

Мабыць, я не звярнуў увагі на гэтае яго «толькі».

— Я вярнуў цябе дамоў таму,— сказаў я,— што мне патрэбен тут нейкі водгалас. Спадзяюся, што ты паставішся з належнай павагай да значнасці такой ролі.

— Я буду старацца, татка.

Здаецца, яго не абурыла тая пыха, што досыць выразна прагучала ў маім пытанні. Святая душа, падумалася мне.

— Мы павінны зразумець адзін аднаго,— сказаў я.— Я маю патрэбу не толькі ў нашай аднадушнасці, хоць і яна не шкодзіць такому старому, асабліва калі яна не прытворства, а адзнака тактоўнасці і сціпласці. І не дзеля таго я вярнуў цябе дадому, каб ты хадзіў з насавой хусцінкаю ў руцэ і выціраў нос і рот свайму трухляваму татулю. І нават не дзеля Жофі, якая не змагла б памерці, не пакарміўшы цябе па старой памяці сваімі грудзямі.

— Разумею, дарагі тата.

— Дапусцім,— сказаў я.— Спадзяюся, зразумееш і ўсё астатняе. Свет вакол мяне замаўкае, сын мой. Можа, таму, што я глохну і не схопліваю яго гаворкі? А можа, таму, што я занадта ўважліва, прыклаўшы вуха да запясця, прыслухоўваюся толькі да свайго

пульсу і не чую іншых гукаў? Трывожны гэта, сынок, сімптом, сігнал маразму, які набліжаецца. Пісьменнік датуль толькі пісьменнік, пакуль ён, услухоўваючыся ў самога сябе, за акустыкай свайго арганізма ўлоўлівае гучанне навакольнага свету. Калі ж свет ён чуе невыразна, увесь яго канцэрт ні к чорту не варты. Чалавек, які старэе, літаральна нашпігаваны дэфектамі, што ўвесь час намнажаюцца, і выправіць іх яму ўдаецца ўжо рэдка; таму ён усё менш упэўнены ў сабе і ўсё больш адзінокі. Новы вопыт яго ўжо не цікавіць, яму хапае таго, што назбіраў за доўгае жыццё, ды ён і не верыць, што ёсць нешта новае пад сонцам, як, зрэшты, і над ім. Таму ён лічыць за лепшае замкнуцца ў сабе: глухне, слепне. І каб усё-такі неяк развеяцца, ён ускараскваецца на вогненную калясніцу Ільі-прарока, прынаджаны лжывай, як вядома, ідэяй бессмяротнасці. Усё далей, усё вышэй рвецца ён ад выстуджанай і знямелай Зямлі! Разумееш?

— Разумею, татка.

— Магчыма,— сказаў я.— У такім выпадку зразумееш, напэўна, і ролю, на якую закліка.ны. Твая маладосць стане пасрэднікам паміж маёй глухатой і навакольным светам.

— З вялікай радасцю, мілы тата. На колькі хопіць маіх здольнасцей. Але мне здаецца, татка, у цябе яшчэ выдатны слых.

— Стары чалавек толькі напалавіну мужчына,— загаварыў я пасля кароткай паўзы, на працягу якой успамінаў, ці выпіў я раніцай слабільны настой.— Другую палавіну належыць запоўніць табе, сын мой. Ты зразумееш, што я лічу цябе мужчынам, і ты захочаш прыслухоўвацца, ва ўсякім разе мне так здаецца, да маіх парад і заўваг. Найперш сачы за ўсім тым шлакам, які назапашваецца пад старасць у кожным чалавеку пасля таго, як перагарэлі яго страсці. Страсці, якія мы глушым усё наша жыццё, не зніка-

юць бясследна, самакантроль, які навязала нам так званая цывілізацыя, таксама цяжкім каменем ляжыць у нашым страўніку да самай апошняй нашай хвіліны. Звяртаю, напрыклад, тваю ўвагу, а ты павінен надалей кожны вечар напамінаць мне, што я зрабіў выключнае адкрыццё: я зайздроснік. Чаму менавіта зайздрошчу, я не ведаю. Нагадвай мне таксама і пра гэта...

Але раптам я абрыдзеў сам сабе.

— Пагаворым іншым разам, сынок,— сказаў я.— Цяпер ідзі, я змарыўся.

— Толькі адну хвілінку, тата,— сказаў Тамаш.— Вы не адказалі на маё пытанне, ці магу я тут жыць.

— Ды чаму табе не жыць тут?

— Я не адзін, татка.

— З якога боку ні гляну, бачу перад сабой толькі аднаго чалавека,— сказаў я бязглузда, відаць, галава мая ўвайшла ўжо ў маю работу.

— Я ажаніўся, тата!

— Ну, не! — сказаў я хуценька.

Можа, і не сказаў, а закрычаў немым голасам. Я стаяў за пісьмовым сталом і адчуваў, што са мной адбываецца дзіўная метамарфоза: усё змяшалася, як у старажытнага сфінкса — да маёй галавы прарока прыладжвалася цела крыважэрнага мешчаніна.

— Ну, не! — лямантаваў я.

Тамаш паглядзеў на мяне. Ён вырашыў, бадай, што за маёй сімвалічнай глухатой прыйшла глухата сапраўдная, бо падышоў да мяне бліжэй, нахіліўся наперад і моцна сказаў:

— Вы мяне не так зразумелі, тата. Я паведаміў вам не пра свой намер ажаніцца, а пра той факт, што я ажаніўся.

— Гэта выключана! — роў я на ўсё горла.

— Месяц назад у Жэневе.

— Гэта выключана!

— Я дарослы, тата.
— Няма бога! Праўда, што яго ўвогуле няма.
— Я ажаніўся з венгеркаю, тата.
— Я выклікаў цябе, каб у доме быў мужчына.
Тамаш ступіў яшчэ адзін крок да мяне.
— Дык вось жа я.
— Цябе тут няма! — роў я.
— Ад таго, што я ажаніўся...
— Ніхто цябе не прасіў быць мужчынам у такой сітуацыі,— бушаваў я.— Ведаць нічога не хачу.
— Чаго вы не хочаце ведаць?
— І Жофі таксама! — грымеў я.
— Што?
— Я вярнуў цябе, каб ты стаў маім апекуном, а не дзеля таго, каб ты напоўніў дом гэтымі крыўлякамі жанчынамі.
— Я да вашых паслуг, татачка, але...
— Не хачу бачыць больш вакол сябе жанчын,— не сунімаўся я.
— Як загадаеце, дарагі тата.
— Забойца бацькі! — роў я.— Ганэрылья ў абліччы мужчыны.
— Што вы, даруйце, сказалі? — спытаўся Тамаш. Ён не ведаў Шэкспіра, яго неадукаванасць не абурыла мяне, а, наадварот, супакоіла.
— Ведаць не хачу! — вар'яцеў я.
Тамаш паглядзеў на мяне, потым пакланіўся і моўчкі пайшоў да дзвярэй.
— Тканкавая несумяшчальнасць! — крычаў я яму ўслед, але ўжо збавіўшы тон. Ён павярнуўся.
— Не разумею,— сказаў ён.
Сціхаючы, магчыма, пад цяжарам успамінаў, я вымавіў:— Паміж мной і жанчынай узнікла тканкавая несумяшчальнасць... Нядаўна ўзнікла,— дадаў я дзеля дакладнасці.
Тамаш апусціў вочы.

— Я, мілы тата, з цяжкім сэрцам прымаю да ведама ваша рашэнне,— сказаў ён выразна, як і належыць інжынеру-тэкстыльшчыку,— і пакіну дом. Дарэчы, гэта будзе не першы выпадак у нашай сям'і,— дадаў ён, усміхаючыся.— З вашых жа расказаў, мілы татка, я ведаю, што мама выйшла за вас замуж, нягледзячы на пратэсты і нават адкрытую забарону бацькоў.

— Дзе гэтая жанчына? — спытаўся я.

Праз тыдзень пасля той размовы яна прыехала ў Будапешт. Яе бацька яшчэ да вайны выехаў з Дэбрэцэна ў Швейцарыю, ажаніўся там з тэкстыльнай фабрыкай — ага, з тэкстыльнай! — але кухарка ў яго была венгерка, і ў доме гаварылі па-венгерску. Чаму ўсё там так было, я забыўся. Магчыма, цесць быў сапраўдным венгерцам? За мяжой выхадцы з адной нацыі, калі яны не саромеюцца сваёй радзімы, лепяцца звычайна адзін да аднаго, як словы ўдала напісанай фразы, відаць, лічачы, што так жыць больш разумна... Катрын — далей мы будзем зваць яе проста Каці — гаварыла па-венгерску без памылак і нават прыгожа, у яе інтанацыях яшчэ ўлоўліваліся далёкія дэбрэцэнскія карані.

— Цалую рукі, папа́,— сказала яна яшчэ ад дзвярэй, калі Тамаш, сустрэўшы яе ў аэрапорце, прывёў да мяне ў кабінет, каб пазнаёміць.

Седзячы за пісьмовым сталом, я павярнуўся. Не відаць было, што яна стомленая пасля доўгай дарогі, можа, паспела ўжо выкупацца, пераапрануцца. Каля іхняга пакоя на другім паверсе была асобная ванная. Каці была ў белых штанах і вішнёвага колеру пуловеры.

— Папа́? — паўтарыў я за ёю.— Наколькі мне вядома, паненка, я вам не бацька.

Каці, якая ўжо ішла да мяне, раптам замерла, спынілася за тры-чатыры крокі ад майго стала. Па-

чырванела аж да вушэй. Тамаш абняў яе за плечы, мякка падштурхнуў да мяне. За імі ў дзвярах паказаўся тоўсты чырвоны нос Жофі.

— Дазвольце напомніць вам, дарагі татка, што Каці ўжо не дзяўчынка,— сказаў Тамаш пачціва, хоць і са смехам.— Ужо месяц, як мы пажаніліся.

— Гэта нічога не значыць,— сказаў я.

Яна была чароўная жанчына; з чуйным, наколькі я мог меркаваць, прапарцыянальна складзеным целам, і гэта мяне асабліва раззлавала. Хоць бы акуляры насіла, ці што!.. аднак вочы яе свяціліся ясна. Увесь яе гнуткі стан здаваўся мне лёгкім, нібы кінутая незнарок фраза, важкасць якое адчуваеш толькі пазней, калі яна пранікне ў глыбіні свядомасці.

— Як жа ёй звяртацца да вас, тата? — спытаўся Тамаш.

— Пакуль ніяк,— сказаў я.— Я сам звярнуся да яе, калі ў гэтым узнікне неабходнасць. Колькі вам, паненка, гадоў?

— Семнаццаць споўнілася, mon cher beau-père [1],— адказала Каці. Яна апусціла вочы, але я бачыў яе зграбную дзявочую шыю, бачыў, што яна смяецца грудным смехам.

— Дзіця ў вас, паненка, ёсць? — спытаўся я.

— Не, тата,— адказаў Тамаш.

— І ў праекце няма?

— Няма,— сказала Каці рашуча.

Жофі, якая да гэтага тапталася каля дзвярэй, цяпер зайшла ў пакой.— Толькі гэтага нам не хапала,— прабурчэла яна нягучна, але так, каб усе мы пачулі.— Я тады адразу на пенсію пайду. Рабіць на чатырох з маёй хворай паясніцай?

— Мы не такія ўжо кузуркі, мы проста ўпартыя, як увогуле ўсе старыя,— сказаў я, скасіўшы вочы на

[1] Дарагі свёкар *(франц.)*.

Жофі і ўсю ўвагу скіраваўшы на Каці.— Вам давядзецца з гэтым лічыцца, калі вы збіраецеся ўвайсці ў нашу сям'ю.

— Qu' estce gue c'est gue [1] кузуркі? — спыталася Каці ў Тамаша.

— Тое, што кусаецца і выклікае моцны сверб,— сказаў я.— Вашы шматпаважаныя продкі на такі сверб не хварэюць?

— Рэдка, mon cher beau-père,— сказала Каці і зноў зарагатала. Смутак і смех так жа хутка мяняліся ў яе дзявочай галаве, як яе венгерская мова французскім ходам думкі. Гэты лёгкі смех я і палюбіў найперш тады, калі — значна пазней — мог ужо дараваць ёй, што яна жанчына, і блізка — скажам так: бліжэй — падпусціў яе да свайго сэрца. Пакуль што ў сваіх старэчых Фермапілах я адбіваў усе яе атакі.

— Адной з нашых прыхамацей, якую падзяляе са мной і мая старая прыслуга,— сказаў я, адным вокам косячыся на Тамаша,— з'яўляецца тое, што мы не любім прыгожых жанчын і не лічым, што іх можна прыняць у наш дом у якасці жонкі або нявесткі. Вось вам прыклад: перад асобай, якая не так шчодра адорана чарамі, я не саромеўся б, калі б у мяне раптам капнула з носа — пакуль што, дапусцім, яшчэ не капае, але ж гэта будзе, і даволі хутка. Вы, паненка, тактоўна адвернецеся, мяне ж, паколькі побач будзе прыгожая жанчына, гэта нервуе ўжо цяпер пры адной толькі думцы пра такое. Далей: я мерзну і таму вясной, выходзячы ў сад, накідваю на плечы старую чорную берлінскую хустку маёй прыяцелькі Жофі, гэта будзе злаваць вас, а рыкашэтам і мяне самога. А яшчэ: я люблю сонечную пагоду, у хмарныя ж дні да мяне проста не падступіцца. Калі б вы, малое куранятка, усё гэта — а пра самае цяжкае я яшчэ ні

---

[1] Што азначае *(франц.)*.

слова не сказаў — змаглі ацаніць як след, то я падумаў бы, што вы не па гадах разумная, а гэта б адштурхнула мяне ад вас яшчэ больш.

Па твары Тамаша я бачыў, што яму, нячысціку, страшэнна весела ад гэтай сцэны, тут ужо і я здзівіўся, бо не чакаў у ім такое хітрынкі.

— Mais il est charmant [1],— усклікнула дзеўчанё і, адпіхнуўшы Тамаша, які зрабіў спробу яе затрымаць, кінулася да мяне. Я спазніўся, не паспеў устаць з крэсла. Яна абвіла маю шыю рукамі і расцалавала на французскі манер, спачатку ў правую, а потым у левую шчаку, пасля нагнулася да маёй рукі і таксама пацалавала: — Mon cher beau-père, vous êtes charmant [2].

Яе лёгкія пацалункі, якія злятала на мяне трапяткім матыльковым цяплом, нагадалі мне былую радасць кахання і яшчэ больш сапсавалі мне настрой. Я ўскочыў з крэсла такі раз'юшаны, быццам зняважылі маю мужчынскую годнасць. Цяпер, калі я пішу гэтыя радкі, я разумею, што, выдаючы сябе за суровага старога, я сапраўды паводзіў сябе, нібы смешны клоун, і, толькі дзякуючы свайму чуйнаму жаночаму розуму і прыроджанай дабраце, мая нявестка мяне разгадала. Магу сцвярджаць: нават ролі анахарэта трэба вучыцца, калі чалавек увогуле на яе здольны.

— Паненка,— сказаў я,— вы памыляецеся, я ні ў якім разе не charmant. Што ж да майго фізічнага стану, то вы ўжо чулі пра тое — а калі не чулі, то будзьце ласкавы прыняць гэта да ведама,— што ў старых арганізмах структура бялку карэнным чынам перайначваецца, гэта пацвярджае і біяхімічны аналіз. У ходзе абменнага працэсу ў бялку ўзнікаюць хімічна ўсё больш стабільныя вузлы, якія, у рэшце

---

[1] Ён жа цудоўны *(франц.)*.
[2] Дарагі свёкар, вы проста цуд *(франц.)*.

рэшт, робяць абмен немажлівым. Што гэта значыць — а значыць гэта, апроч усяго іншага, і атэрасклероз галаўнога мозгу, які, рана ці позна, прыводзіць да крэтынізму,— пра гэта вам раскажа mon fils [1] Тамаш. Што ж да так званай душы маёй, то гляджу я на свет, і выгляд усёй яго гразі захоўвае мяне ў чысціні...

Не ведаю, што яна зразумела са сказанага, але мяне яна зразумела. Вядома, такі прыём спачатку яе збянтэжыў, яна глядзела на мяне сваімі вялікімі вачыма спуджана, але не пабляднела. Праўда, нічога не сказала, але ж і не выбегла з пакоя. І хоць яе худзенькая, як у дзяўчынкі, шыя пачырванела да самых ключыц, вочы яе не наліліся слязьмі. Яна відавочна трымала сваю душу ў швейцарскім парадку, і была гэтая душа, бадай, такой жа цывілізаванай садовай раслінай — зрэшты, тут ніколі нельга ведаць напэўна! — як і Тамашава душа, хіба толькі была яна крыху больш арыгінальная, роўна на столькі, на колькі Каці была маладзейшая за Тамаша. Згадаю як прыклад яе інстынктыўнай тактоўнасці: пры мне — нават пазней — яна ні разу не пацалавалася з Тамашам, не дазволіла яму нават хоць бы ўзяць яе за руку.

Праз нейкіх пятнаццаць хвілін пасля нашай гаворкі я выйшаў на лесвічную пляцоўку і ледзь не абмёр ад здзіўлення: зверху, з іх пакоя, неслася лёгкая французская песенька на прыемных альтавых хвалях голасу Катрын. Дзякаваць богу, прамармытаў я сам сабе, што ў яе не сапрана, хоць без піску абыдзецца.

Наверсе расчыніліся дзверы, на лесвіцу выйшаў Тамаш. Як толькі дзверы адчыніліся, песенька абарвалася:

...on y danse,
on y danse —

---

[1] Мой сын *(франц.)*.

пачулася пад канец, і адразу ж, у той жа танальнасці, нібы працягваючы песню, вырваўся з самага сэрца, а мо адкуль яшчэ глыбей, смех, які звычайна называюць салодкім.

З мяне смяецца?

— Дарагі тата, знойдзецца ў вас яшчэ хвілін з пяць? — спытаўся Тамаш.

Унутраная лесвіца ўгору вяла ў Тамашавы пакоі, уніз — у паўпадвал, там жыла Жофі, побач з ёю быў туалетны пакой і яшчэ пакой для гасцей, потым пральня, каморка і — паводле загаду — асобнае памяшканне на газ. Я ішоў якраз у пральню, дзе два разы на дзень падвешваў сябе на хвілін пяць, калі, зрэшты, не забываўся пра гэта.

— Цяпер мне няма калі,— буркнуў я.— Хаця, ідзі за мной,— кінуў я цераз плячо, убачыўшы, як расчараваны сын спахмурнеў.

— Навошта вы падвешваецеся, татка? — спытаўся Тамаш.

— Здзяйсняю прысуд, які мне вынесла грамадства, сын,— сказаў я.— Дакладней, здзейсніў бы, калі б хапіла духу. Вось і прымерваюся без карысці два разы на дзень... Вунь там направа першыя дзверы — гэта і ёсць мая плаха.

Апарат для падвешвання з дрэва, сталі і скураных рамянёў быў замацаваны ў пральні на тоўстым круку сантыметраў дваццаць даўжынёю. Тамаш з цікавасцю яго разглядаў.

— Я расцягваю на ім абвапненыя шыйныя пазванкі,— растлумачыў я,— каб трымаць спіну выпрастанай, удзельнічаючы ў грамадскім жыцці.

Я пачаў зашпільваць рамяні. Два падшытыя белай замшай — вакол галавы, пярэдні — каля падбародка. Каб зашпіліць трэці, спалучальны раменьчык, даводзілася пятлю вакол шыі крыху паварочваць улева, таму іншы раз па некалькі хвілін мне не ўда-

валася намацаць патрэбную дзірку. Ад Тамашавай жа дапамогі я адмовіўся.

— Лепш сяды-тады не забывайся напомніць мне пра гэтае нікчэмнае інквізітарскае практыкаванне. Увогуле напамінаць пра гэта мне павінна была б Жофі, але і яна стала забывацца.

Прысутнасць сына, відавочна, нервавала мяне, і я ніяк не мог зашпіліць раменьчыка.

— Не лезь, не трэба! — вырвалася ў мяне.— Заадно папрашу цябе напамінаць мне, каб за паўгадзіны да вячэры я піў слабільны чай. Зрэшты, і гэта абавязак Жофі, але яна забываецца. Згатаваць-то яна згатуе, але не падасць. А я, калі не п'ю яго кожны дзень, усё затрымліваю ў сабе. Відаць, гэта ад скупасці.

— Ад скупасці?

— Не хачу аддаваць тое, што мне належыць,— растлумачыў я.

— Разумею, тата.

— Сцяміў цяпер, навошта табе было вяртацца са Швейцарыі?

Падобна, што і ў Тамаша гумару хапала. Засмяяўся. А я і гэтаму не ўзрадаваўся.

— Пакуль я падцягну вяроўку,— сказаў я,— выкладвай сваю просьбу. Самы зручны момант падаваць прашэнні, гаварыць жа я не змагу, значыць, і просьбу адхіліць не сумею... Аднак чакай, яшчэ некалькі слоў пра Жофі.

У кутку нашай кухні-пральні мокла ў поліэтыленавым тазіку брудная бялізна. На прасавальнай дошцы ляжала мая недапрасаваная сарочка.

— Жофі,— заявіў я,— не хоча прызнаваць ma belle-fille [1] гаспадыняй, то няхай Каці не ўздумае заказваць ёй абед, вячэру альбо патрабаваць справа-

[1] Маю нявестку *(франц.)*.

здачу аб выдатках на гаспадарку. Апошняга ўвогуле рабіць не трэба. Я сам таксама ніколі гэтага не раблю, бо Жофі адданая мне, як стары камандор [1], у яе руках не затрымаецца нават філер [2]... Ну, выкладвай!

Я падцягнуў вяроўку, мой падбародак задраўся ўгору. Апусціў вяроўку, і падбародак апусціўся.— Паглядзі на гадзіннік, скажаш, як пройдзе пяць хвілін.

— У мяне не просьба, а хутчэй пытанне,— сказаў Тамаш, абапёршыся на прасавальную дошку.— Вам, тата, не замінае прысутнасць у доме маёй жонкі?

— Кррр,— сказаў я.

— Бачыце, калі гэта так, то я прасіў бы ў вас дазволу пераехаць. Праўда, тады я не змагу выконваць тых задач, дзеля якіх вы паклікалі мяне са Швейцарыі, але гэта, напэўна, менш парушыла б ваш звычны распарадак, чым наша прысутнасць.

— Кррр,— нічога большага я не сказаў.

Пасля гэтае размовы я — каб неяк з'арыентавацца — наведаў аднаго свайго старога сябра, які якраз жыў з нявесткай і сынам пад адным дахам. Калісьці... калі ж гэта?.. даўно ўжо! — ён прыехаў у Пешт з раўніннай вёсачкі Хайдубагош, сын яго нарадзіўся ўжо тут, ажаніўся, і ў яго падрастаюць свае дзеці. Гэты стары быў варты такога ж жалю, як і я сам, жонка яго памерла прыкладна тады, што і мая. З таго часу —сувязь жа праз жонак распалася — мы бачымся вельмі рэдка.

Пакуль Тамаш быў у Швейцарыі, я на адзіноце не раз задумваўся аб тым, ці не лягчэй было б, у канчатковым выніку, выносіць сваю старасць у акружэнні і пад абаронай сям'і, як у Ёшкі, чым аберагаць з зубоўным скрыгатам сваё агрэсіўнае пустэльніцтва.

---

[1] Венгерская парода вартаўнічых сабак.

[2] Грашовая адзінка ў Венгрыі, роўная 1/100 форынта.

І ў такія моманты міжвольна апынаўся тварам у твар з адной камічнай — камічнай, бо невырашальнай — праблемай майго жыцця, якая, нібы падводная пачвара, не-не дый падымалася на паверхню дзён маіх і плявалася мне ў вочы.

Я асудзіў сябе на адзіноту, каб мець мажлівасць працаваць. Але ці ёсць з маёй працы якая-небудзь карысць і ў чым яна? У чым жа, апроч таго, што іншы раз — і то рэдка — складная, удала закручаная фраза парадуе маю душу?

Смешнае пытанне пасля больш як пяцідзесяцігадовай пісьменніцкай працы! Але ж горкае да слёз!

Іншы раз яна так уяўляецца мне, мая праца: задумаў я скласці егіпецкую піраміду, але вяршыняй да зямлі. А ззаду ў мяне ў мінулым і цяпер вакол мяне, сярод віру звар'яцелага натоўпу, стаяць тысячы і тысячы аднолькава недарэчных збудаванняў: незлічонае мноства вяршынямі ўніз пастаўленых пірамід, збітых у кучы недаступнымі розуму смерчамі. Нібы ў пустыні, дзе міраж перавярнуў дагары нагамі сэнс чалавечай працы...

Толькі ўявіце сабе такое! Вам пасля таго захочацца пакараць творцаў усяго гэтага, загнаць іх у пекла і слухаць, як яны там вішчаць.

Я не збіраюся разважаць пра сэнс мастацтва, насіць дровы ў лес. Не буду далучацца да шумнага пустаслоўя, з-за якога ўжо ледзь чуваць галасы самога лесу. Мы — авохці мне, нярэдка і я таксама — дайшлі да таго, што за дрэвамі не бачым лесу, інакш кажучы, за разважаннямі — сэнсу. Дзеля чаго, скажам, мы апынуліся на нашай зямлі: мо дзеля таго, каб добра сябе адчуваць? І г. д., і г. д.,— гаварыў у такіх выпадках Стэндаль, калі ўласныя развагі яму надакучалі. Але ўсе нашы развагі былі б нічога не вартыя, апроч гамерычнага рогату, калі б не мітусіліся вакол нас столькі вытанчаных душ, якія жада-

юць, што б гэта ім ні каштавала, суцяшаць дурны натоўп. Суцяшаць, па сутнасці, тым, што чалавек выконвае на гэтай зямлі работу паразітаў: знішчае ўсё, каб, у рэшце рэшт, знішчыць самога сябе.

Вернемся, аднак, да майго паразітычнага занятку: ці варта было дзеля яго асуджаць сябе на адзіноту? Ці варта было заганяць сябе ў сваю мышыную нару і выганяць з яе, папіскваючы, усіх сваіх блізкіх? Ці трэба выганяць з яе і цяпер сына толькі за тое, што ён, адчуваючы ў гэтым абавязак,— хвала яму! — хоча памножыць нашу смешную пароду?

Ну што ж, прыгледзімся бліжэй да шчаслівага «сямейнага кола» ў духу Янаша Араня [1], сказаў я сам сабе, дзе клапатлівае акружэнне аберагае ўдаўца ад жорсткіх udараў старасці. Дзе не толькі яго прасціны трымаюць у чысціні, але і душу яго аберагаюць як ад здзеклівых укусаў навакольнага свету, так і ад самаедства, якое пазней абавязкова прыходзіць. І далікатна, як каштоўнасць, праводзяць яго да самай магілы.

Няўдалыя вынікі майго візіту і праведзенага абследавання не зрабілі ніякага ўплыву на мой далейшы лёс, і мне стала яшчэ лепш відаць, што вопыт, набыты ў старасці, канверціраваць ужо немажліва. Калі старому б'юць па руках, ён адказвае толькі смехам.

І хто скажа, што ў нашым жыцці добрае? Дый гавары не гавары, ніхто не ведае, як бы яно было, каб склалася інакш.

Ёшку я сустрэў каля яго пад'езда, ён якраз вяртаўся дамоў з блакітным малочным бітончыкам у руцэ.

---

[1] Арань, Янаш (1817—1882) — славуты венгерскі паэт. «Сямейнае кола» — вядомы яго верш, які славіць атмасферу вясковай патрыярхальнасці.

— А гэта што? — спытаўся я, паказваючы на бітон.

— Як што? Малако.

— Правільна,— сказаў я,— такому старому чалавеку толькі малаком і вячэраць, не антрэкотам жа з цыбуляю.

— А ты антрэкотамі?

— Я? У сваю ахвоту! Мяне ж яшчэ можна палічыць за твайго малодшага брата.

Ёшка кісла ўхмыльнуўся.

— І праўда,— сказаў ён.— Калі не памыляюся, ты маладзейшы за мяне на паўгода.

— Сваіх гадоў я не лічу, ты ж ведаеш,— сказаў я.— Толькі чужыя. З чужога ўзросту хоць пасмяяцца можна. Хоць ты і старэйшы ўсяго на паўгода, у тваім узросце, дзядзечка, гэта велізарная розніца.

Ёшка даволі пастарэў [illegible] таго часу, як быў у мяне апошні раз. Па яго твары я бачыў, што тое самае ён думае пра мяне: гэта я тлумачыў яго прэсбіопіяй. Зрэшты, выгляд у яго быў неблагі: сухарлявы, высокі, ён выглядаў яшчэ вышэйшым у сваёй баранковай шапцы, якой ён не здымаў з галавы ні зімой, ні летам, а часам і ў хаце з ёю не разлучаўся. У гэтай сваёй шапцы ён быў і за мяне вышэйшы.

— Лысееш, Ёшка? — спытаўся я, тыцнуўшы пальцам у яго шапку.

Ён тыцнуў пальцам у маю галаву без капелюша.— А ты ўсё ў тым парыку?

— Да магілы,— сказаў я.

Мы стаялі каля ліфта, дворнік з ключамі ўсё не выходзіў.

— Падымемся пешкі?

— Ну не,— сказаў я,— гэта пашкодзіць тваім лёгкім.

— Гэта ж у цябе расшырэнне лёгкіх,— сказаў Ёшка.— Твая праўда, з імі трэба быць акуратным.

Мы зайшлі ў яго пакой, самы маленькі пакойчык у кватэры, былое памяшканне для чэлядзі, з акном на ўнутраны двор. І малако ён прынёс адразу да сябе, а не на кухню. Сюды ён перабраўся з свайго былога пакоя вокнамі на вуліцу. Падраслі ўнукі, пачалі вучыцца, а навукі ж вымагаюць шмат месца, тлумачыў ён, але вочы адводзіў убок.

— Разумею,— сказаў я.— Жывеш сваім коштам?

Ён выліў малако ў чырвоную каструльку, паставіў яе на старамодную спіртоўку, якая стаяла на стале, чыркнуў запалкай. Выняў з шафы два кубкі.

— Вып'еш са мною кубачак?

— Вечарам толькі антрэкот з цыбуляю,— сказаў я.

Ён усё кешкаўся і кешкаўся ў шафе.

— Вось табе і на, хлеба ж у мяне няма,— прамармытаў ён.— Забыўся купіць.

— Збегаць у магазін, мой старэйшы брат?

— Ужо зачынены, брат мой малодшы,— сказаў ён.— Пражыву і без хлеба.

— Чаму не пазычыш у нявесткі? — спытаўся я.

Ён махнуў рукой.

— І без хлеба пражыву.

— Вядома, пражывеш,— сказаў я.— Але чаму твая нявестка не купіць табе малака і хлеба, калі раніцай усё роўна ідзе ў магазін?

Ён павярнуў да мяне свае густыя белыя вусы. Калі ў яго і валасы пад шапкай такія густыя, падумаў я, то яны гусцейшыя за мае.

— Ёй, бедалазе, з дзецьмі клопату хапае.

— Бедная,— паспачуваў я.— Бедная нявестка. Хіба ж не кара нябесная нашы нявесткі?

Ён зноў наставіў на мяне свае вусы, якія здаваліся разумнейшымі за яго вочы.

— Усё ў мяне ў парадку,— сказаў ён.— Што праўда, то праўда, пакуль была жывая мая жонка...

Не, я не жалюся. Але ж навошта смуродзіць свет такому старому чалавеку, як я?

— У цябе валасы ўжо выпадаюць? — спытаўся я.

— Не, у мяне ўсё ў парадку,— сказаў Ёшка.— Ну, вядома, мне не падабаецца, калі мяне замыкаюць з таго боку, як да іх госці прыходзяць. А так усё ў мяне нічога сабе.

— Валасы ўжо выпадаюць? — спытаўся я яшчэ раз.

— Як мыю галаву,— прызнаўся Ёшка.— Тады ў тазіку поўна валасоў, так і плаваюць белымі пасмамі, хоць ты не мыйся.

— У мяне і без мыцця сыплюцца,— прызнаўся я,— ледзь паспяваю здымаць з пінжака. Ці ведаеш, колькі важыць такі волас?

— Пакуль не важыў,— сур'ёзна сказаў Ёшка.

— Проста паверыць цяжка,— уздыхнуў я.— Здыму, бывала, волас з каўняра, седзячы за сталом, і, не ўстаючы, кідаю яго ў кошык для папер, а кошык ад мяне аж за тры крокі стаіць. Такі волас не плыве ў паветры, а падае адразу.

Тым часам закіпела малако.

— Ёсць у мяне крышку авечага сыру хатняга,— сказаў Ёшка,— сястра прыслала з Богаша. Хочаш?..

Вяртаючыся дамоў, я думаў пра тое, ці знойдзецца дзе-небудзь добрая душа, якая дасць мне авечага сыру, калі і мяне пасля смерці Жофі перасеялыць у яе пакой.

Разбіраючы дабрачыннасці і заганы нашыя, можна пэўна сказаць, што менавіта старасць паказвае іх сапраўдную цану. Стары найлепшым чынам падыходзіць для выяўлення гэтай цаны. Вочы ў яго не мітусяцца, розум натрэніраваны, усе расчараванні ён ужо прайшоў. Нічога не чакае ён ад навакольнага свету, дый ад самога сябе чакае няшмат. Благаслаўляе ўсё вакол сябе, бо так спакайней, чым праклінаць.

Што любоў замяняецца рана ці позна прывычкаю, гэта таксама даўно ўсім вядома. Але калі ўжо і самыя маленькія прывычкі адыходзяць, які б стары ты ні быў, гэта ашаламляе.

Калі б сам апостал Павел загаварыў са мной, я не так быў бы ўзрушаны, як ад здрады Жофі; я забыўся нават засмяяцца. Скажам, само паняцце адданасці мы ўжо даўно палажылі ў адпаведнае месца, у скрыню ад цацак, але каб і нервовыя шляхі, як стрэлачнік чыгуначныя рэйкі, пераводзіць!..

Некалькі гадоў назад, калі, баючыся старасці, а дакладней, старэчай здранцвеласці, я паўстаў супраць сваіх закаранелых звычак і з рашучасцю, якая пасарамаціла б прафесійных рэвалюцыянераў, пачаў перастаўляць на паліцы ў ваннай французскі ласьён «Масье Раша» на месца аўстрыйскага ласьёну «Эліда», а памазок на месца крэму для брыцця і наадварот, калі разбіў на кавалкі матчын кубак, з якога ўсё жыццё піў сваю ранішнюю каву, у той мой познепадлеткавы перыяд я ў сім-тым быў яшчэ недасведчаны. Так, я не ведаў, што, скінуўшы свае старыя звычкі, чалавек адчувае сябе спустошаным і, хочаш не хочаш, абрастае новымі. Нервы, як і гісторыя чалавецтва, не церпяць вакууму.

На паліцы ў ваннай галоўнай маёй звычкай, ледзь не прынцыпам, стала бязладдзе. Чаму ж мяне так уразіла, калі і Жофі раптам абвясціла: le roi est mort, vive le roi [1].

— Не разумею я вас, малады пан,— сказала мне старая ведзьма.

— Не разумее... не разумее! — прабурчэў я.— Ды вы ж зусім нядаўна... калі ж гэта было?.. так, так, у канцы лета... заявілі мне, што не збіраецеся абслугоўваць чужаземных паненак, нават, парушыўшы ўсе

---

[1] Кароль памёр, няхай жыве кароль *(франц.)*.

вашы прынцыпы, пагражалі мне, што пакінеце мой дом і мае мошчы. Хоць я і не паверыў у гэта...

— Што з вамі зноў такое? — спыталася старая, прысеўшы ў крэсла, што стаяла ля майго стала, праўда, з пачцівасці села толькі на самы краёк.

— Сядайце як след,— сказаў я.— Дык вось, яшчэ летам вы мне заявілі...

— Дык тое ж было летам,— сказала Жофі.— Цяпер вунь восень на дварэ.

— Вы так хутка, мая бабулька, мяняеце свае прынцыпы? — спытаўся я.— Па сезонах?

— Калі ёсць у тым, панок мой, патрэба,— адказала Жофі.— Навошта клікалі?

— Восень, кажаце,— працягваў я, падыходзячы да акна і гледзячы на ярка расквечаныя парасоны, пад якімі пашарэцкія дрэвы думалі схавацца ад блізкай зімовай непагадзі.— Значыць, восень, але яшчэ не зіма. Тады навошта ж вы так нагрэлі кацёл, быццам на вуліцы ўжо снег рыпіць пад нагамі?

Жофі глядзела на мяне моўчкі.

— Чым жа вам дзяўчынка зноў не дагадзіла? — спыталася яна крыху счакаўшы.— Ведаеце ж, што яна мерзне.

— А што вы сказалі нядаўна, яшчэ летам? — спытаўся я.— Нявестка, маўляў, чужая кроў, яна і сына ад бацькі адаб'е.

Старая засмяялася.— Чаго толькі чалавек не нагаворыць, малады пан.

— Калі памерла мая няшчасная жонка,— не сунімаўся я, стоячы каля акна і гледзячы, як гнуцца пад кастрычніцкім ветрам дрэвы на Пашарэці,— вы заявілі, што застанецеся ў мяне толькі ў тым выпадку, калі я не прывяду другой жанчыны ў дом.

Жофі зноў засмяялася.— Гэтую ж не вы прывялі. Ну, што вы так у шыбіну барабаніце, чаго так нервуецеся?

— Калі б я лічыў такія яхідныя пытанні вартымі адказу,— сказаў я,— то прызнаўся б, што нервуюся ад таго, што вы мне здрадзілі. Я думаў, бесталковая вы жанчына, што вы не з-за нечага там такога, а проста па звычцы будзеце ва ўсім за мяне той нядоўгі ўжо час, які я збіраюся яшчэ прабыць на гэтай зямлі. Але ў вас маладыя ў галаве.

Вось якую нечуваную наіўнасць насіў я ў сабе да самай старасці: я быў абражаны, як дзіця, у якога вырвалі мацярынскія грудзі з рота. Чытаў я ў дзяцінстве пра нейкага Кемона, старажытнага дзядулю, якога карміла грудзьмі дачка; ці не гэта і мне трэба было? Ніколі я не цешыў сябе думкамі, быццам мяне любілі — калі любілі — дзеля мяне самога, таму адпаведнай платы, у тым ліку і ад выдавецтваў, я дамагаўся заўсёды, каб не занадта ўжо аднабаковымі былі мае разлікі са светам.

— Ну, то я пайду, паночку? — спыталася Жофі.— Ці, можа, яшчэ што-небудзь такое я гаварыла, чым вы хочаце мяне папракнуць?

— Вось гляджу я на вас, Жофі,— сказаў я,— і бачу, як вы падобная да Фрыдрыха Вялікага. Пра яго расказваюць, што стаў ён аднойчы на полі бітвы, перагарадзіў дарогу салдатам сваім, што беглі ад ворага, ды як крыкне: ці вы вечна, сабакі, жыць збіраецеся?

— Ніякага Фрыдрыха я не ведаю,— сказала Жофі.— А вось на Чэўскай вуліцы праўда жыў адзін бляхар па прозвішчы Вялікі, дык яго Бэлай звалі, але і ён у Вену эмігрыраваў. А з вашых слоў, панок, я зразумела: пан гэты Фрыдрых сваім паганым жыццём вунь як даражыў! Відаць, хацелася яму перажыць салдат сваіх.

Хіба ж гэта не дэмакратыя, падумалася мне, калі старой служанцы яе жыццё такое ж дарагое, як і жыццё імператара?

— Вядома ж, хацеў,— сказаў я.— Ці ж не хачу перажыць вас, мая бабулька, я сам?

Жофі засмяялася і зноў паглядзела на мяне.

— Так і быць! — заявіла яна.

— А чаго гэта ў вас такі цудоўны настрой, старая ведзьма? — спытаўся я.

— Жыў у нашай вёсцы,— сказала Жофі,— адзін гаспадар са швабаў, дык на кухні ў яго над плітой вісела прыгожа вышытая хусціна з швабскаю прымаўкай, якую мне неяк растлумачылі. А гаварылася ў ёй, панок, вось што: адкуль прыйшоў, не ведаю, куды іду, не знаю, а ўсё-такі вясёлы я... І хопіць вам ужо па той шыбіне барабаніць, разаб'яце ж.

У дзвярах яна яшчэ раз павярнулася.— Дык чым жа вам не дагадзіла дзяўчынка?

— Якая дзяўчынка? — вырвалася ў мяне.— Калі мая цудоўная памяць мне не здраджвае, яна паўгода як замужам. Ідзіце займіцеся справамі, Жофі!

— Ну, малады пан,— сказала старая, нават не зварухнуўшыся, ёй яўна хацелася пагаварыць.— Яна, панок, зусім яшчэ дзяўчынка, неяк мякчэй трэба было б з ёю абысціся. Не кажу ўжо пра тое, панок, як яна вас любіць.

— Мяне? — спытаўся я здзіўлена.

— Але, але! — выгукнула Жофі.— Гэтак паважае вас, што нават выгляду паказаць не асмельваецца. Вось надоечы раптам зноў пытаецца: «Праўда, мамá Жофі, што мой ба-пэр самы вялікі пісьменнік у Венгрыі?»

— Балбатня! — сказаў я злосна.— А вас яна, значыць, мамай Жофі называе?

Жофі ўсё яшчэ стаяла ў дзвярах.— Кажу ж я вам, яна яшчэ дзяўчынка. Такія маленькія ды слабенькія птушаняткі маюць патрэбу ў ласцы, малады пан.

— А адкуль вы ўзялі, што яна мне сімпатызуе? — спытаўся я.

— Толькі не выдаваць мяне! — сказала Жофі.— Яна прымусіла мяне знайсці ваш фотаздымак, малады пан, уставіла яго ў прыгожую пазалочаную рамку і павесіла над сваім ложкам.

— Над ложкам? Ну, хопіць вам, ідзіце да д'ябла, старая зводніца,— сказаў я.

Азіраючыся назад, я бачу, як за апошні час Жофі пастарэла; не толькі ногі, але і дух яе стаміўся. Яна стала занадта шматслоўнай, зрэшты, як і я сам, што зусім няцяжка заўважыць ■ расказанага вышэй. Пад старасць чалавек словамі кампенсуе недахоп думак, паназірайце, з якой хуткасцю ў старога словы выскокваюць замест думак. Не раз ужо было і са мною, што — і гэта ў гутарковай мове — я нібы чытаю тэкст, загадзя надрукаваны ў галаве, і асабліва тады, калі хацеў гаварыць праўду; пяро ж маё абыходзілася пакуль што без трафарэтаў, і гэта, відаць, мяне крыху супакойвала. Але да якой пары? Такое пытанне іншы раз я сабе задаю, і, сказаць па шчырасці, не без трывогі. Ці заўважу я, калі раптам акамяненне маёй чарапной каробкі перадасца на кончык майго пяра? Хто мне пра гэта скажа? І ці паверу я? Разлічваць на спагаду няма чаго, моладзь заўзята наступае на пяты. Што ж, змена пакаленняў; але ж не надта вясёлая гэтая забава таму, каго замяняюць.

Вядома, я яшчэ моцны, гаварыў я сам сабе, хай сабе нават мая памяць часамі мае патрэбу ў падтрымцы.

Назаўтра, калі Тамаша з жонкаю не было, я падняўся ў іхнюю кватэру. Пакой акуратна прыбраны, адразу было відаць, што тут жыве Тамаш, але відаць і тое, што ён жанаты: у ванным пакоі я заўважыў праз расчыненыя дзверы батыставую начную сарочку ■ аблямаваным карункамі каўнерыкам, якая сушыла-

ся на плечыках. Мой фотаздымак вісеў на сцяне супраць дзвярэй у ванную, над іх ложкам. Мяне гэта не ўзрадавала. Сяджу я на фотаздымку задумаўшыся і нібы разважаю: а чым жа, уласна, займаюцца на ложку гэтыя двое? Позірк мой затуманены, відаць, я ніяк не магу здагадацца. А можа, мой позірк ужо скіраваны ў іншы свет, з якога цвёрдыя целы ўжо знікаюць, сплываюць у іншыя, незямныя сферы? Не, сказаў я сам сабе, не на мой густ быць вечным сведкам, хай сабе толькі ў двухмерным вымярэнні, распусты дзвюх маладых істот, я ўвогуле недалюбліваў ролю voyeur[1]. Ды ёсць у гэтым і чыста фізічная несумяшчальнасць: што мне, двухмернаму, рабіць сярод тых, хто жыве ў трох вымярэннях? Навошта мне, двухмернаму, пазіраць на тое, як распранаецца стройнае і прыгожае дзявочае цела?

Вось Каці скідае туфлі і, не гледзячы, прывычна знаходзіць вузенькай ножкай тапачкі.

Вось спускае спадніцку, і я бачу гэта са сцяны; спадніцка на нейкае імгненне затрымліваецца на клубах, потым, пераадолеўшы ваганні, саслізгвае на падлогу, абхопліваючы тонкія шчыкалаткі хвалістым колцам.

Як удалая фраза ахоплівае думку, скажу я сабе там на сцяне, калі мне раптам захочацца знайсці параўнанне.

Яна носіць калготкі, а не панчохі, і ў гэтым я таксама магу пераканацца адтуль са сцяны.

На чым жа трымаецца жаночая цнатлівасць?

Гледзячы са сцяны адчужаным позіркам адначасна і ў сваё мінулае, якое падносіць мне шмат варыянтаў, я мушу прызнаць: ma belle-fille распранаецца цнатліва, саромячыся нават свайго маладога мужа. Яна хаваецца за адчыненыя дзверцы шафы, але, на

---

[1] Назіральніка *(франц.)*.

шчасце, люстэрка паказвае яе па-дзявочы рэзкія рухі якраз у мой бок. Думаю, яна не здагадваецца пра здраду люстэрка. Тонкімі пальцамі яна расшпільвае гузікі на белай блузцы, вымае адразу абедзве рукі, кідае блузку на дзверы шафы.

Тры перламутравыя гузічкі зіхацяць пад электрычным святлом. Ma belle-fille накідвае зверху станік, гузічкі патухаюць. Кацi падміргвае сцяне.

Цяпер яна стаіць голая, маленькімі грудзьмі каля самага люстэрка. Плечкі худзенькія — зусім дзяўчынка, як казала Жофі,— я заўважаю нават ямачку над ключыцай. У кароткім люстэрку мне відаць толькі плаўная лінія, якая спускаецца да жывата. Змачыўшы слінай указальны палец правай рукі, яна праводзіць ім спачатку пад правым, потым пад левым вокам: так яна рыхтуецца нанач.

Ага, кажу я сам сабе там на сцяне, вось яна і знікла з люстэрка. Ужо ў пасцелі? Не, яна сядзіць на краёчку ложка і весела пагойдвае голай нагой. Адсюль зверху мне не відзён яе твар, яна павярнулася да мяне спіной. Больш чакаць не буду — хіба толькі крышачку, да таго імгнення, калі патухне святло і забялее яе цела, а яна будзе ляжаць, павярнуўшыся да сцяны, пакінуўшы месца мужу — сыну майму Тамашу — побач з сабой, пад сабой, над сабой, у сабе самой.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Аднак спынімся! І даруйце мне: са сцяны я сыду. Не жадаю назіраць такія сцэны, хоць бы і ў цемры, сказаў я сам сабе, такое мне не да твару, ды і радасці з гэтага няма ніякай. Пойдзем жа назад, да рабочага стала: за ім мне, можа, удасца разок-другі пакрасавацца ў пышным уборы, накшталт кастрычніцкіх убораў маіх пашарэцкіх дрэваў.

Дык вось, зняў я свой партрэт са сцяны, занёс яго ўніз і замкнуў у шуфлядзе стала.

Тамаш і Каці вярнуліся дамоў у поўдзень, не прайшло і пяці хвілін, як у дзверы нясмела пастукалі. Я прытварыўся, быццам не чую. Зноў стук, такі ж самы ціхі, але ў цішыні майго пакоя ён адгукнуўся ў сэрцы, нібы ўздых дзіцяці.

У дзвярах, крыху схіліўшы галоўку, цесна стуліўшы калені, стаяла ma belle-fille ў васільковай спадніцы і ўсё ў той жа белай блузцы. Верхні гузічак ужо быў расшпілены, валасы крыху раскудлаціліся, нібы яна толькі што скінула свой чырвоны аксамітны капялюшык.

— Ба-пэр,— сказала яна хвалюючыся,— мілы ба-пэр!

— Што загадаеце? — спытаўся я.

Яна не адказала, і я зноў схіліўся над рукапісам.

— Не люблю, каб мне перашкаджалі раніцаю, у час маёй работы,— сказаў я не паварочваючыся.— Гэта тычыцца ўсіх асоб, якіх называюць членамі сям'і. Наш хатні распарадак даволі зразумелы, за столькі часу яго можна было б ужо засвоіць.

Ззаду за мной было ціха, нібы мая наведвальніца застыла ў дзвярах, і я зноў павярнуўся. Ma belle-fille была, як нацягнутая струна, трымцення якой вока не бачыць, але варта да яе дакрануцца, і яна зазвініць. Яна стаяла напяўшыся, шчыльна стуліўшы калені і з паднятай галавой глядзела мне проста ў вочы. Яна зачароўвала.

— Даруйце мне,— сказала яна. Голас яе дрыжаў, як напятая струна.

— Ну? — спытаўся я.

— Я не люблю, мілы ба-пэр, калі без мяне хадзяць у мой пакой падглядваць.

Я засмяяўся ўголас: ну проста раз'юшаная казуля. Яшчэ, чаго добрага, басціся кінецца, мільганула

ў мяне вясёлая думка. Аднак клікаць яе да сябе не стаў: хай пастаіць там у дзвярах!

— Катрын,— сказаў я,— няўжо ў вас ёсць сакрэты ад такога старога?

Яна адразу пачула перамену інтанацыі ў маім голасе, я бачыў гэта па яе вачах. Выраз яе твару змяняўся, нібы неба ранняй вясной, кожнае воблачка пакідала на ім свой след. Калі б не вялікае абурэнне, яна, бадай, і ўсміхнулася б.

— Катрын,— паўтарыў я.— Ад мяне вам не трэба таіцца. У маім узросце чалавек раз і назаўсёды складае зброю перад маладосцю. Старыя людзі безабаронныя, прызнаюцца яны ў гэтым ці не, і нават калі яны з прыхамацямі, яны зусім бяскрыўдныя. Няма ніякага сэнсу хавацца ад старога, ён ужо ад усяго адмовіўся і нашкодзіць можа хіба толькі сабе самому.

А ці не на тое, каб перахітрыць розум маёй нявесткі, я знарок, калі прызнацца, перабольшваў свой узрост? А мо не розум, а сэрца?

Яна ўсё яшчэ стаяла ў дзвярах.

— Яшчэ як можаце, мілы ба-пэр,— зноў загаварыла яна, смела гледзячы мне ў вочы.— Хіба ж не вы ўкралі ў мяне фотаздымак?

— Украў?

Яна пачырванела. Мне падабалася глядзець, як яна чырванее, і пасля я ніколі не прапускаў выпадку прымусіць яе пачырванець.

— Вы кажаце, украў? Дзе вас вучылі правілам прыстойных паводзін, паненка?

Яна пачырванела яшчэ больш, аж да самай шыі. Нічога не адказала, аднак яе маўчанне было, як удар кінжалам. Я ледзь стрымаўся, каб зноў не зарагатаць: вось ужо праўда, падумалася мне, знайшоў забаву — дражніць дзіця. Не ведаю, у колькі разоў я старэйшы за яе, так з ходу і не вылічыш. А выгляд

у яе быў такі ўпарты і ваяўнічы, як у курыцы на яйках.

— Катрын,— сказаў я і адчуў, як з дакорам уздымаю бровы,— думаю, вы ўжо пашкадавалі, што дапусцілі гэтую мімалётную нетактоўнасць, а калі нават і не пашкадавалі, то сэрца ваша ўсё-такі пачынае трывожыцца. Я ведаю, што на радзіме, у Швейцарыі, вы атрымалі выдатнае выхаванне, але са шкадаваннем пераконваюся, што вас не навучылі маніць. Гаварыць праўду не абавязкова, паненка. Асабліва ж не да твару гаварыць праўду людзям старым, чыё жыццё падыходзіць да фінішу.

Я лічыў, што трэмало маіх фраз расчуліць яе, аднак выйшла так, што расчуліўся я сам. Відаць, надалей мне трэба быць напагатове, каб не расчульвацца ад сваіх жа рулад. А Каці была ўпартая, храбрая дзяўчынка, а да ўсяго гэтага бачыла мяне, бадай, навылёт.

— Вы яшчэ дастаткова малады, ба-пэр,— сказала яна ваяўніча,— каб вам можна было смела гаварыць праўду.

— Смела? — перапытаў я.— Сумняваюся. Аднак уваходзьце ж, Катрын, падыдзіце сюды, да майго стала. У мяне ёсць вам, паненка, важнае паведамленне.

— Лепш я пастаю тут, у дзвярах,— сказала ўпарта.— Дзякую, мне не хочацца вам назаляць.

— Назаляць! — выгукнуў я весела.— Рэдкая радасць, можна сказаць, гонар такому трухляваму старому, што ў яго пакоі стаіць такая прыгожая маладая жанчына. Дарэчы, я хацеў бы даць некалькі тлумачэнняў наконт майго ўзросту.

Азіраючыся на тую раніцу, калі я яшчэ быў адносна свежы і моцны не толькі фізічна, але і духоўна, я разумею цяпер — доўгайгральная пласцінка той нашай гаворкі і сёння гучыць у маіх вушах,— што

мне тая размова была куды больш патрэбная, чым той дзяўчынцы, якая замерла ў дзвярах і якую я павінен быў называць нявесткаю. Я гаварыў словы ёй, а адрасаваў іх сабе самому. І хоць я ўвесь час ведаў, што не трэба было б узвальваць такі цяжкі груз на гэтую чароўную істоту з крышку залішне худзенькай шыяй і ўпартым роцікам, мной авалодала такая прага выказацца, якую адчувае веруючы ў спавядальні альбо, яшчэ горш, псіхічна хворы на канапе ў псіхааналітыка. Ні разу за ўсё сваё жыццё я не мог раскрыцца перад другім чалавекам, і вось цяпер быў зусім блізкі да гэтага. Ці стала мне лягчэй, не помню. І навошта я пішу гэтыя нататкі?..

— Мілы ба-пэр,— сказала Катрын, ці, лепш сказаць, Каці, усё яшчэ стоячы ў дзвярах,— аддайце мне фатаграфію, прашу вас. Яна мая.

— Каб вы на ёй пракалолі сэрца доўгай іголкай? — сказаў я.

— Вашага сэрца там няма, толькі галава,— адказала дзяўчынка.— Я вас вельмі прашу, аддайце.

— А калі вы мне вочы праколеце? — спытаўся я.— Адкуль я магу ведаць, якія небяспечныя жаданні кружаць вось такую легкадумную галоўку? — Я хацеў бы праінфармаваць вас, — далей казаў я,— у чым розніца паміж людзьмі маладымі і старымі, спыніўшыся на сваёй вартай жалю асобе. Возьмем найперш час: ён выцякае з рук у старога, як вада. Найбольш яго турбуе тое, колькі ж гэта часу засталося ў запасе; арганізм — ведае ён пра гэта ці не — удзень і ўночы заняты гэтай праблемай. Калі стары чалавек сустракаецца з другім старым, ён найперш пытаецца ў сябе: а колькі ж яму яшчэ засталося? Я перажыву яго — чорт бы яго забраў! — ці ён мяне? Як бы я яго ні любіў і паважаў, мне хочацца апынуцца ззаду за ім у тым panылым страі, які ідзе ў рай. Цяпер вам стане зразумела, паненка, што я

толькі з-за катастрафічнага недахопу часу не магу заняцца вашай чароўнай асобай так, як вы таго заслугоўваеце. Я настолькі заняты сабой, сваімі вялікімі і малымі фізічнымі і душэўнымі бедамі, заняты заўжды, днём і ноччу, што ні пра чога больш і думаць не магу, і чым бы я ні паспрабаваў сябе развесяліць, адразу зноў вяртаюся да сваіх нягод. Адным словам, я баязлівец. Я, паненка, баюся. Страх запаўняе кожны міг майго існавання. Клеткі майго мозгу запоўнены страхам. Вы можаце спытацца, чаго я баюся. Прашу дараваць мне грубасць таго, што я маю вам паведаміць, шчырае прызнанне ўвогуле жанр бессаромны. Аднак я мушу да яго звярнуцца, каб заслужыць — іншае прычыны ў мяне няма — ваша прабачэнне за тое, што ў пачатку нашай размовы...

Катрын раптам зрабіла два крокі да майго стала.— Але, мілы ба-пэр,— вымавіла яна спужана і зноў пачырванела... за тое, што ў пачатку нашай размовы я дазволіў сабе больш рэзкі тон, чым той, да якога вы прывыклі ў вашым упарадкаваным швейцарскім доме. Чалавек, які вымушаны абараняцца, нярэдка перагінае палку, так што не крыўдуйце за гэтае прызнанне, можа, нават і занадта інтымнае.

Яшчэ адзін, ужо амаль даверлівы крок да майго стала. Усё-такі я заманю цябе, сказаў я сам сабе. Яшчэ адно: «Але мілы ба-пэр...»

— Дык вось, вы пытаецеся, чаго я баюся. Больш дакладна: чым я так напалоханы? Я ўсміхаюся, паненка, але хай вас не падмане гэтая ўсмешка! Як ні смешна гэта ўсё, але мяне працінае жах, калі я ўбачу трэшчынку на пяце маёй левай нагі. На ёй шмат трэшчын, але гэтая, вогненна-чырвонага колеру, пераразае пяту на самай сярэдзіне, нібы ў целе маім адкрылася раптам само пекла. Я ведаю, што, калі буду некалькі вечароў запар змазваць пяту крэмам «Флогашан», які ўжо не раз выручаў мяне, трэшчына

праз два-тры дні зацягнецца, аднак думка пра тое, што ў маё цела раптам, без дай прычыны, адкрыўся ўваход, не пакідае мяне ні на хвіліну і ўвесь час папярэджвае... аб чым? Што я памру?.. Пра гэта мне падміргвае ўваход? Ды што вы, паненка, я ж ведаю, што я бессмяротны. Аднак з гэтым маім веданнем несумяшчальны той жах, які ахоплівае мяне, калі ўспушыцца мой жывот, а калі быць больш дакладным, калі паяўляюцца ў ім невялікія ўздуцці (яны ледзь відны і адчуваюцца толькі навобмацак), хоць праз нейкую гадзіну-другую гэта праходзіць, я прачынаюся кожную раніцу з пытаннем — яно хоць і няпэўнае, але свідруе мозг: якая ж подлая хвароба засела ў маім нутры, нібы хтосьці заліў яго свінцом? Альбо возьмем зубы: з чаго яны раптам, без дай прычыны, ныюць, то верхняя, то ніжняя сківаца? Я ўжо не кажу пра тое, што кожны вечар даводзіцца капаць у вочы «прывін» і падтрымліваць старое сэрца з дапамогай «ізаланіду», а калі лягу, нарэшце, у пасцель, то пачынаю спярша пакрысе пакашліваць, пасля кашляю надрыўна, хрыплым барытонам, накшталт сабак з апраметнай, і прытым, як ні адкашліваюся, як ні прачышчаю горла, як ні варочаюся з правага на левы бок і наадварот, супакоіцца магу толькі прыняўшы «кадэрыт». А як толькі патушу лямпу на начным століку, за ногі чамусьці хапаюць сутаргі. Яны скручваюць то адну, то другую нагу, то абедзве разам, і як я ні кручуся, як ні напружваю мышцы, даводзіцца зноў уключаць святло, якое рэжа прымружаныя вочы, і пачынаць скакаць на адной назе вакол ложка, праклінаючы той дзень, калі я нарадзіўся. А што гэта за блакітна-ліловыя плямы паявіліся на маіх лытках, ma belle-fille? Які злы дух пакінуў там адбіткі пальцаў сваіх, нават далоняў?

Дзяўчынка стаяла ўжо за два крокі ад майго стала. Яна ўжо не смяялася. Насуперак усеагульнаму

неракананню, я лічу, што не Ева выйшла з Адамавага рабра, а наадварот, з гарачай жаночай стыхіі выйшаў на свет гамункулус. Мне не сорамна, паненка, прызнацца, думаў я тады, што вы мацнейшыя, чым мы. Стоячы па шчыкалаткі ў гразі, вы ўвабралі ў сябе ўсю яе сілу, цвярозасць, цярпенне, трываласць. Вы не падымеце на смех пакут генія, калі яны нават уяўныя. Пяшчотны позірк вашых вачэй, што нагадваюць у лепшыя хвіліны рахманыя каровіны вочы, можа быць, аднойчы яшчэ ўратуе мяне... калі ўсё пойдзе добра.

— Катрын,— сказаў я,— толькі такая дзяўчынка, як вы, можа яшчэ паставіцца да чалавека з разуменнем і цярплівасцю, калі нават і сустрэлася з ім на самым апошнім адрэзку яго жыццёвага шляху. У знак удзячнасці, а таксама, каб вас супакоіць, скажу: не ўспрымайце сур'ёзна ўсяго таго, што я тут насяваў вам. Не кажу, што вы павінны не верыць ніводнаму майму слову, аднак не ўспрымайце сказанага літаральна.

— Мілы ба-пэр,— сказала Каці,— вялікі дзякуй вам за тое, што вы так мне давяраеце. Я добра ведаю, што і ўяўнае няшчасце можа мучыць не менш, чым сапраўднае.

— На старых накідваюцца, вядома, не толькі ўяўныя няшчасці,— сказаў я.— Патрэскалася мая пята, ці я толькі ўявіў сабе гэта і баюся, што так можа здарыцца, урэшце, не мае значэння. Людзям майго ўзросту куды большая небяспека пагражае з супрацьлеглага полюса, з клетак галаўнога мозгу. У нас, нібы ў спалучаных сасудах, чым больш мы старэем, тым вышэй уздымаецца ўзровень кальцыю. Ці доўга я буду яшчэ магчы працаваць, Катрын? Калі пяро выпадзе з маіх ліловых вузлаватых рук? Яны яшчэ не ліловыя, кажаце вы?

Зноў быў зроблены няўпэўнены крок да майго

стала, губы прыадкрыліся, але слова так і не вырвалася з іх. Што можа быць зграбнейшае, чым дзявочая фігура, якая раптоўна замерла?

— Мноства прыкмет сведчыць пра тое,— тлуміў я галаву дзяўчыне,— што і розум мой прыходзіць у занядад. Я мог бы прывесці безліч доказаў, якія пацвердзілі б гэтае маё назіранне, якія ў суме сваёй, незалежна ад таго, правільныя яны ці не кожны паасобку, дазваляюць зрабіць вывад, што я старэю. Калі ласка, мілая Катрын, не дзівіцеся, што гэта мяне яшчэ ўражвае. І кропля ў рацэ не ведае, ля вытоку яна знаходзіцца ці ўжо каля вусця; у глыбіні душы і я такі самы недасведчаны. Дакладней кажучы, я быў бы недасведчаны, калі б час ад часу і прытым усё часцей не атрымліваў адно за адным злавесных папярэджанняў. Устаю я раптам з-за свайго пісьмовага стала і не ведаю, дзеля чаго. Пакідаю ў рукапісе незакончаную фразу, бо мне нешта рупіць зрабіць. Але што? Што за гэтым «што» хаваецца? У маёй свядомасці, прычым блізка, ля самай паверхні, выстройваецца цэлая чарада неадкладных спраў, я чую, як яны варушацца. Але ў чым іх сутнасць? Яны ўсе нікчэмныя, але я адчуваю, што нават у іх я разабрацца не здолею. Я такі бездапаможны, нібы мая цэнтральная нервовая сістэма спаралізавана. У мяне не хопіць часу ва ўсім гэтым разабрацца. У мяне ўвогуле няма часу. Дарэмна думаць, што ён ёсць, яго проста няма. Напісаць пісьмо. Падпісаць канверт да пісьма. Занесці паперы на другі паверх. Прыняць лекі за паўгадзіны да абеду. Пазваніць па тэлефоне. Колькі спраў, столькі і пагроз мне, і кожная, як падняты кулак, скіравана проста ў мой мозг. І кожны раз я ў адчаі, што не паспею ўсяго зрабіць. Зрабіць, пакуль не памёр. Уявіце сабе, мілая Катрын, я не паспею выпіць свайго слабільнага чаю перад смерцю! Не кажу ўжо пра тое, што я проста забудуся яго выпіць. Альбо

забудуся аднесці паперы наверх. У вялікай трывозе я не адзін раз падымаю ад рукапісу сваю пракальцыніраваную галаву і азіраюся па пакоі. Што яшчэ я забыўся зрабіць? І ўвогуле: што з пражытага забылася? Ці помню яшчэ жончына дзявочае прозвішча? Другі радок гімна? Пакуль знайду нарэшце адказ у адной з клетак мозгу і, крыху супакоіўшыся, зноў вазьму ў рукі пяро, канец недапісанай фразы ўжо забыўся, нібы ён уваліўся ў вапнавую яму.

— Я не веру,— сказала Катрын з непрыхаваным хваляваннем,— дарагі ба-пэр, я не веру ў тое, што вы гаворыце.

— І добра робіце, паненка,— сказаў я,— бо зусім верагодна, што ўсё гэта праўда толькі напалавіну. З другога боку, вы робіце нядобра, бо сумненне — прывілея старых, а прывілея маладых — вера. Калі яны памяняюцца ў чалавеку месцамі, гэта ўжо сігнал таго, што склероз пачаў у ім сваю разбуральную работу.

— І ў гэта не веру, мілы ба-пэр,— сказала дзеўчанё.— Мы, сучасная моладзь, лепш ужо будзем сумнявацца, чым расчароўвацца.

— Што станецца са мною, ma chere belle-fille,— гнуў я сваё,— калі я не змагу больш працаваць? Ужо і цяпер здараецца, што я забываюся дапісаць літару-другую, нават склад у канцы слова, і няцяжка ўявіць, што прыйдзе час, калі я буду прапускаць цэлыя словы і нават цэлыя фразы. Буду сядзець над чыстым лістом паперы, утаропіўшыся ў яго, як сляпы ў люстэрка. А пісанне ж — гэта апошняе, што мяне яшчэ забаўляе.

— Забаўляе? Не здзекуйцеся з сябе, ба-пэр! — ускрыкнула дзяўчынка сярдзіта.— Не кпіце з сябе!

— Ці гэта ўсё-такі нешта большае, чым забава? — не мог я спыніцца.— Мо я, працуючы, змагаюся з прысудам, вынесеным смерцю? А можа, гэта і ёсць

маё асноўнае ў жыцці, якой пустой ні здаецца гэтая мая спроба змагацца? Мо слабым пяром сваім я ўзводжу ў закон прымат жыцця над тленам? Мо шукаю пункту апоры ў віры падзей і трыумфальна паказваю яго чалавецтву, што страціла веру? Мо ўкладваю ў рукі тых, хто зламаўся і ўпаў, тое адзінае, што спатоляе нашу духоўную смагу, надзею?

Ma belle-fille стаяла ўжо каля мяне, і я адчуў, што мне хочацца дакрануцца да яе вузкай белай рукі з доўгімі пальцамі, я раптам падняўся з крэсла і адышоў да акна, да сваіх любых дрэваў, што разбягаліся ўздоўж Пашарэці, і з якімі гуляў вецер.

— Вось так, паненка,— сказаў я, не паварочваючыся.— Відаць, у тым і ёсць сэнс маёй працы, каб ухваляць жыццё, не выключаючы і старасці. Бо ці ёсць, спытаюся я ў вас, што-небудзь цудоўнейшае за жыццё, асабліва на яго апошнім этапе? Калі няма ўжо ў чалавека нязбыўных жаданняў, бо ён своечасова ад іх адмовіўся і яму няма чаго болей чакаць, ён і не ўспамінае пра гэтыя жаданні. Калі ўсе лішнія пачуцці адпалі ад яго сэрца, а думкі выйшлі з ягонай галавы, і чалавек стаў пусты, як парожняе памыйнае вядро. Калі ён здольны толькі шлэпаць па хаце, і то пры ўмове, што ногі яго не скурчыла рэўматызмам, падаграй, звужэннем сасудаў, і калі нельга ведаць пэўна, ці дойдзе ён да дзвярэй, накіраваўшыся да іх. А калі дойдзе, то яшчэ невядома, ці знойдзе ён ручку, каб іх адчыніць. Калі невядома, ці сустрэнецца ён, увайшоўшы ў суседні пакой, з кім-небудзь яшчэ, апрача свайго ценю. І ці зможа ён, калі ў яго ўжо і мову адыме, папрасіць эўтаназіі, паказаць рукой, што ўпала на яго горла, аб якім збавенні ён моліць?

На жаль, Катрын не ўмела валодаць ні языком сваім, ні маладымі мышцамі. Раптам яна апынулася побач са мною, каля акна, і не паспеў я апамятацца,

як яна, прыўстаўшы на пальчыкі, абвіла маю шыю рукамі.

— Ну-ну, паненка! — выгукнуў я.

— Маўчыце, ба-пэр! — ускрыкнула яна, абпальваючы мяне гарачым юным дыханнем.— Нельга так гаварыць! Вам не сорамна?

— Але, мілая Катрын,— сказаў я,— гаварыў я не пра сябе, я проста накідаў перад вамі, перад уяўленнем вашым, беглы эскіз старасці. Вядома ж, гэта ўсё ад мяне яшчэ далёка, тут і гаварыць няма чаго. На што б я мог пажаліцца? Ні на чога абсалютна. Што каханне ўжо не для мяне?.. ды бог ты мой! Вы пытаецеся, што я маю ўзамен? А хіба не замяняе яго ў поўнай меры бездакорная работа страўніка? Хіба каханне прыносіла калі-небудзь такую спакойную задаволенасць, як усведамленне таго, што я магу даверыцца свайму ўпарадкаванаму арганізму, хай сабе і не без лекавых сродкаў? Паверце, паненка...

Але далей гаварыць я не змог, бо, як ні добра выхаваная была Каці, яна раптам заплакала наўзрыд і прыпала да маёй рукі, потым кінулася мне на грудзі і мокрым ад слёз, гарачым чароўным тварам сваім прытулілася да майго твару.

— Няпраўда,— рыдала яна.— Няпраўда! Не верце ў гэта! Мы будзем глядзець вас, мілы ба-пэр, не бойцеся, мы вас ніколі не пакінем.

Не ведаю, колькі часу прайшло з той чуллівай сцэны; як вядома, я не лічу таго часу, які адыходзіць, нават цэлых гадоў, што адышлі, я не лічу. Здаецца мне — зарукай таму мая бездакорная аж да гэтага часу памяць — быццам той яшчэ зімою... а можа, ужо наступнаю зімой?.. словам, неяк я захварэў і даволі доўга пракачаўся ў пасцелі, што бывала са мною ў жыцці не часта,— я нават здзівіўся. Сувязі паміж хваробай і сваім узростам я не знаходзіў, бо ганконг-

скі грып А-2 знішчыў намнога больш людзей, чым сярэдневяковая чума, прытым людзей, маладзейшых за мяне — тую зіму толькі ў Цэнтральнай Еўропе памерла некалькі соцень тысяч людзей,— я ж, стары, застаўся жывы, хоць хвароба мая, як сцвярджалі, дала небяспечныя ўскладненні.

Расказваюць, быццам я, як толькі падскоквала тэмпература, пачынаў трызніць. Але адкуль яны ведаюць, калі я гаварыў, а калі загаворваўся? Мае шматпаважаныя чытачы, пасучыся на зялёных лугах маёй дабрачыннасці, цяпер занепакоена ўскідваюць галовы: замест прывычнага гаўкання логікі ім пачынае здавацца воўчае выццё. Зрэшты, якія там чытачы, я ж пішу самому сабе. Сапраўды: хто ж ім скажа, калі я гавару разумна, а калі загаворваюся, як нават я сам гэтага толкам не ведаю. Не толькі фізіялагічны раствор гаворыць у чалавеку, калі ён выказвае словамі свае скаргі, разагрэтая да сарака градусаў клетка таксама здольная на неразумную адвагу. Загаворваўся?.. А можа, проста быў шчыры? А можа, гэта распаленая клетка балбоча пра тое, у чым пры звычайнай, цёпленькай тэмпературы прызнацца не асмельваецца?

Ва ўсякім выпадку, папраўіўшыся, я слухаў з найвялікшай падазронасцю, калі гаворка заходзіла пра тое, які я быў, як траціў прытомнасць, і паўтаралі тую бязглуздзіцу, якую я гаварыў у гарачцы. Ці не выдаў я сябе? Колькі часу спатрэбілася — амаль восемдзесят гадоў — пакуль я з дапамогай бясконца доўгай пластычнай аперацыі — спалучаючы веру і расчараванні, факты і міражы, праўду і хлусню — зляпіў у душы сваёй гэтую марыянетку, якая здаецца жывой і з якой я, урэшце, звыкся так, што цяпер ужо магу атаясамліваць сябе з ёю. Я да таго часу гуляў у адданасць, пакуль сапраўды не стаў адданым. У надзейнасць, пакуль не стаў выконваць кожнае

абяцанне. У сціпласць, пакуль не аблупіўся з мяне тоўсты слой фанабэрыі. У прыстойнасць, пакуль палова дзяржавы не даверыла майму пяру сваё душэўнае здароўе. У чалавекалюбца, пакуль... ну, хопіць, стары! А то яшчэ гуманіста з сябе зробіш.

Уяўляю сабе, як ляжу я ў блакітнай піжаме з пунсовым ад гарачкі тварам, а вакол мяне сядзіць святая кампанія — сын, нявестка, Жофі, сястра-сядзелка — і слухае, ківаючы галовамі, якую я лухту пляту. Шчасце яшчэ, што яны не запісалі на магнітафон маіх прамоў пра той, чакайце, пра мой унутраны свет. Відаць, спадзяваліся на спрыт маіх лёгкіх і сэрца, інакш кажучы, дапускалі думку, што я папраўлюся. Як яно там ні было, я не падрыхтаваўся да свайго апошняга перадсмяротнага слова, якое пасля можна было б выдаць у зборніку літаратурных анекдотаў; магчыма, я яшчэ не адчуваў асаблівага жадання супакоіцца навек. А можа, проста забыўся, што менавіта падрыхтаваў я свету як апошняе добрае яму пажаданне? Тым больш што свет цікавіцца, як вядома, бачнасцю, а не фактамі.

Самы востры перыяд хваробы прайшоў, але і канчатковае выздараўленне маё зацягнулася надоўга, і за адсутнасцю работы, з-за яшчэ паўкандыцыйнага, так сказаць, майго стану, я меў мажлівасць звярнуць больш пільную ўвагу як на маю вялікую цяпер сям'ю, так і на свет вакол мяне. Пра сям'ю сваю магу, на жаль, гаварыць толькі з пахвалой. Яе члены не далі мне нават задавальнення пабурчэць на іх, забыўшыся хоць бы раз-другі даць мне антыбіётык ці іншае лякарства, яны так моцна спавілі мяне ў турботы пра маё здароўе, што я дыхнуць не мог самастойна. Вядома, ад свайго станоўчага сына Тамаша я не чакаў нічога іншага, але ж і палкая швейцарская дзяўчынка з відавочнай радасцю ўхапілася за магчымасць — відаць, упершыню ў жыцці — паслужыць таму, што

ўсе лічаць жаночым прызваннем, гэта значыць, зганьбаванню і заняволенню мужчынскага роду.

Так, я ведаю, што ў самы разгар хваробы, калі высокая тэмпература яшчэ несла іншы раз пагрозу майму староми сэрцу, Тамаш з жонкаю перабраліся са свайго паверха ў суседні са мной пакой, і нават — калі я быў неспакойны — сын усю ноч праводзіў ля маёй пасцелі, дрэмлючы ў крэсле. Ён гэта можа. Раздражняла мяне толькі Жофі, якая кожную ноч — калі маладыя зноў перабраліся да сябе — уваходзіла да мяне, правярала, ці не памёр я. Шоргаючы нагамі, яна падыходзіла да самага ложка і, спыніўшыся, доўга на мяне глядзела, потым ціхенька, нібыта асцерагаючыся спудзіць мой сон, пачынала смяяцца ўсім сваім бяззубым ротам. Я ведаў, адкуль такая злараднасць: мне ж не ўдалося апярэдзіць яе. Хоць менавіта ў тыя дні мяне адольвала іншы раз вялікая стома, і я не пярэчыў бы, калі б вакол мяне ўсё заціхла.

Той зімою на Пашарэці, ва ўсякім выпадку ў нашым доме, была процьма божых каровак. Ці таму, што стаялі цёплыя дні, ці таму, што ім выпала задача аднавіць нейкую біялагічную раўнавагу, не ведаю. Але мне яны на нейкі час сталі ўцехаю. Я назіраў за імі, лепш сказаць, углядаўся ў іх, іншага ж занятку ў мяне не было. Вось адна ўспаўзла да мяне на падушку, да самага твару: гэта быў сам давер. Без якога-небудзь права на тое. А можа, у бездапаможнасці іх сіла, а ў няведанні — храбрасць? Нада мной па белай сцяне рухаюцца, спыняюцца, развінаюць крыльцы малюсенькія рубіны, вось адзін з лёгкім гудзеннем пікіруе на мой арліны нос, які, быццам антэна, тырчыць над змарнелымі ў той час скуламі, выступаючы многа далей, як звычайна. Калі пайшло на папраўку, я стаў асабліва нязвыкла спагадлівы да ўсяго жывога, акрамя прадстаўнікоў роду людскога, мог гадзінамі забаўляцца, дазваляючы гэтым кузуркам гуляць па

маіх пальцах, перабіраючыся з аднаго на другі, накіроўваючы іх то туды, то сюды, пералічваючы ў кожнай чорныя плямкі на бліскучых чырвоных спінках. Аднойчы Жофі заспела мяне за гэтай гульнёй.

— І што гэта вы ўсё цацкаецеся з гэтымі пачварамі, малады пан? — сказала яна сярдзіта, падышоўшы да майго ложка і ўпёршы рукі ў бокі.

— Зірніце, Жофі, якія яны слаўныя! — сказаў я, працягваючы ёй указальны палец, на кончыку якога сядзела маленькая кропелька крыві.

— Ведаю я,— сказала Жофі,— чаго яны палюбіліся вам з нейкай пары. Летам, нябось, на іх і не глянулі б.

Я не зразумеў яе.

— З нейкай пары?

— Хіба ж дарма іх завуць Каціца-жучок? — сказала старая.— Зусім з-за дзяўчынкі галаву страцілі.

Я глядзеў на яе пакамечаны старэчы твар, на яго маршчынах кіпцюры столькіх пакутаў пакінулі след, што няма дзіва, калі і сэрца пад імі акамянела. Яе муж, два яе сыны згінулі на вайне, адзіная дачка памерла ад туберкулёзу. Выходзіць, яе трэба пашкадаваць?

— Вы ж ведаеце, Жофі,— сказаў я,— дактары забаранілі мне хвалявацца. Пакіньце мой пакой!

Ці яна забылася — вядома ж, не! — што яшчэ нядаўна — калі ж гэта? — сама параіла мне ўзяць дзяўчынку пад сваю апеку? А калі помніла — не магло ж гэта выскачыць у яе з памяці,— тады якое нядобрае падазрэнне, пытаўся я ў сябе, дапамагло яе шкадліваму языку вырвацца раптам на волю? У жанчын рэўнасць абвастрае нюх, і ён, на жаль, звычайна іх не ашуквае, але хто б мог падумаць, што такі нюх — хай на гэты раз ён памыліўся — маюць асобы ў такім узросце. Хіба можна зайздросціць, калі ўжо і матка даўно высахла? Ды і чаму пазайздросціла

мне гэтая старая, што даўно ўжо пераступіла апошнюю мяжу чалавечага жыцця? Таму, што я яшчэ магу залюбавацца хараством маладое жанчыны? Што выпадак ці, скажам, добры густ майго сына даў мне такую мажлівасць? Што я магу пацешыць лёгкія і нос у хвалях водару юнай істоты і з чыстай душой адчуць у гэтым радасць? Што яшчэ магу разгледзець фею?

Дый што мне трэба ад яе?.. адна яе прысутнасць, нічога больш. Ні пакалыхванне бёдраў, ні трапятанне грудзей, ні тое, як стаіць нага,— адно толькі нематэрыялізаванае шчасце, якім саграе душу простая песенька

Sur le pont d'Avignon
On y danse, on y danse...[1]

Песенька, матэрыя якой толькі голас, галасок, матэрыя якога толькі маладосць, маладосць, матэрыя якой — радасць. Не шмат я прашу: адной толькі магчымасці выкупаць маё старое сэрца ў тым харастве, якое выпраменьвае маладая прыгожая — хай сабе занадта худзенькая — жанчына, хараstве такім бесцялесным, што я ледзь не забываюся пра яго крыніцу. Няма ў мяне жадання хоць бы ўзяць яе за руку. Хопіць мне і таго, што я магу позіркам ахапіць яе сілуэт. Нацешыцца яе дыханнем. У маім узросце хапае простага ведання, што ці тут, ці там, але дзе-небудзь ды свеціць сонца, хоць сам ты калі і адважваешся выпаўзці пад яго промні, то толькі накінуўшы на плечы чорную берлінскую хустку Жофі.

Але выпадалі на маю долю і большыя радасці, накшталт той, калі я, папраўляючыся, мог ужо па паўгадзіны ўставаць з пасцелі і мы сталі снедаць з нявесткай удваіх: Тамаш ужо хадзіў на службу. Пакуль Жофі падавала на стол, Катрын чакала ў сябе

[1] На Авіньёнскім мосце танцуюць, танцуюць... *(франц.)*

наверсе да дзевяці гадзін, калі я ўставаў. Акно сталовай выходзіла на поўдзень, і пагодлівым днём да нас зазірала сонца. Я саджаў дзяўчынку так, каб яно свяціла на яе, мая нявестка была вартая таго. Сонца асвятляла яе губы, яшчэ вільготныя пасля моцнага начнога сну, разносіўся слабы ранішні пах ментолавай зубной пасты. Яна налівала мне ў кубак каву з малаком, і яе звычайная вуглаватасць змянялася раптам плаўнымі рухамі клапатлівай і ўважлівай гаспадыні дома. Яна разразала булачку, намазвала на яе масла — ніколі за ўсё сваё доўгае жыццё не адчуваў я такога даверу да булачкі з маслам. Калі ж нарэшце яна і сама пачынала есці, я адводзіў вочы, каб майму нясціпламу позірку не адкрыліся таямніцы яе дзяснаў і бліскучых зубоў. «Пачытаць газетку, бапэр?» — пыталася яна, справіўшыся з даволі сытным сняданкам, які складаўся з чаю, двух яец усмятку і вяндліны, і закурыўшы цыгарэту. У той час я ўжо шмат гадоў не браў у рукі газеты — навошта яна мне?.. яшчэ раз агледзець старэчымі вачыма панараму свету, якая мяняецца ў дэталях, а ўвогуле застаецца нязменнай?.. забыцца ў думках пра пакуты блізкіх?.. Не, думалася мне тады, суцешыць мяне па-сапраўднаму можа толькі самая блізкая радня, ды і то іншы раз плакаць хочацца. Зусім іншая рэч, працягваў я разважаць, канчаючы наша чарговае сумеснае снеданне, калі свет прыходзіць да мяне на хвалях маладога, асабліва гэтага мілага маладога голасу, ад якога і злачынствы здаюцца не такімі жорсткімі; вось чаму я кожны дзень прасіў нявестку чытаць мне напераменку «Непсабадшаг» ці «Мадзьяр немзет» альбо любую іншую газету, якая траплялася пад рукі, а часам з прыемнасцю выслухваў яшчэ і перадавы артыкул, які яна выпявала сваім жэнеўска-дэбрэцэнскім вымаўленнем...

Маё апошняе каханне, я развітваюся з табой.

Хай тваім вобразам завершацца гэтыя нататкі пакуль, пры адносна здаровым сэрцы і больш-менш цвярозым розуме, я яшчэ здольны ўзнавіць яго. Скарыўшыся лёсу, без гневу і без хітрыкаў.

Тое, што потым прыйшло — маё згасанне, датычыць толькі мяне аднаго. І нават гэтым нататкам не можа быць даверана, мне ўвогуле не хацелася б усё тое занатоўваць, хоць бы нават толькі самому сабе. Апісанне маёй старасці належыць абарваць тут, цяпер, пакуль я неяк яшчэ валодаю пяром, пакуль я яму гаспадар. Працяг, апошні этап майго развалу нікому не цікавы. Ці буду яшчэ, пад заслону, здольны пісаць-чытаць, ці буду яшчэ і разумець напісанае, адзін бог ведае. Але калі ўсё ж, яшчэ выразна сябе асэнсоўваючы, я наткнуся раптам на гэты ўрывак маёй біяграфіі, магчыма, ён паслужыць мне пацверджаннем таго, што на старасці я быў з сабой шчыры настолькі, наколькі гэта пад сілу чалавеку, а тым самым быў па мажлівасці сумленны з іншымі. І што не чужынцам гойсаў сярод людзей...

Час папраўкі быў, бадай, самы шчаслівы ў маім жыцці. Ці толькі ў старасці? Я ўсё-такі схіляюся да першага вызначэння. У мяне не было нязбыўных жаданняў. Я быў задаволены. Мне хапала таго, што дарыў мне мой лёс. Адной толькі яе прысутнасці хапала. Нават толькі ўсведамлення яе прысутнасці. Яе водбліску. Варта мне было пачуць яе лёгкія, ні да чыіх не падобныя крокі за сцяною, у сталовай, альбо яшчэ далей, у пярэдняй, да мяне прыходзіла вялікая палёгка, падобная на тое, калі з сумлення спадае вялікі цяжар. Нібы мне адпусцілі грахі мае. Рабілася лёгка, нібы я аплаціў свой цяжкі доўг... каму?.. жыццю?.. самому сабе? Як быццам і фізічныя мае пакуты ўжо былі дзесьці там, па той бок жыцця, на другім беразе Леты. Яе прысутнасць у доме — як моцны болеспатольны сродак. І я заўсёды задавальняўся тым,

што гэтая яе прысутнасць мне давала: калі толькі крокі, то крокамі. Калі яна гаварыла за сцяною з Жофі, то яе голасам. Калі мне ўдавалася разабраць і словы, то я прымерваў іх на слых, браў на язык, смакуючы то адно, то другое, спяваў іх сам сабе, пераймаючы яе непаўторныя інтанацыі. Калі яна ўваходзіла да мяне на пальчыках і замірала на парозе прыкрытага жалюзі пакоя, прыслухваючыся, ці заснуў я, асветленая промнямі, у белай сукенцы, воблік яе ўспырхваў мне на сятчатку вачэй і там заставаўся дзівосным прывідам. Калі яна ад парога падыходзіла да мяне, я быў шчаслівы. Калі прысаджвалася на імгненне на краёчку майго ложка... Але калі і не садзілася, не падыходзіла, калі проста з парога паварочвала назад...

Мне не хацелася нават патрымаць яе за руку.

Недавер, бадай, найвялікшы дарунак старасці. Хай ён пазбаўляе надзеі, але затое ад колькіх расчараванняў нас ратуе! Калі б бяссоннай ноччу я аддаўся марам пра тое, што вось з літасці лёсу — скажам, спужаная благімі снамі — Катрын раптам прачнецца, здагадаецца пра маю пакуту альбо нават пачуе — на паверх вышэй! — мае нястрымныя ў гэты час енкі-стогны і, накінуўшы чырвона-чорны халацік, прыбяжыць сярод ночы да мяне, я ў першую хвіліну працверазення, гэта значыць, нейкую хвіліну пазней, разрагатаўся б, нягледзячы на ўсё маё чаканне. І калі аднойчы гэта ўсё-такі здарылася, калі яна, устаўшы ў тры гадзіны ночы і хістаючыся са сну, прыплялася да мяне, таму што ёй «прысніўся благі сон», я задаволіўся гэтым нечаканым візітам, які перавярнуў усё ў душы, і ў наступныя ночы больш не знемагаў ад надзеі, што вось цяпер зноў рыпне лесвіца, якая вядзе на іх паверх, і ад прачыненых асцярожна дзвярэй на мяне зноў дыхне ледзь улоўнымі яе французскімі духамі.

— Паненка,— сказаў я ёй той першы раз,— што прыйшло вам у галаву? Навошта трывожыце начны спакой старога?

— У вашым пакоі гарэла святло, мілы ба-пэр,— сказала дзяўчынка.

— І мой начны неспакой прашу не трывожыць,— сказаў я.

— Мне такі нядобры сон прысніўся, мілы ба-пэр! Я сеў на пасцелі.

— У такіх выпадках будзіце мужа! — выкрыкнуў я.— Супакойваць вас — яго справа і абавязак.

Дзяўчынка засмяялася.

— Які толк яго будзіць, ба-пэр, ён так храпе, што ўсё роўна не пачуе.

— У нашай сям'і ніхто не хроп,— сказаў я.— Ён вырадак, развядзіцеся з ім!.. А цяпер ідзіце ў свой пакой, я хачу спаць.

Па ледзь прыкметным трымценні губ я бачыў, што ёй хочацца смяяцца, але яна стрымлівае сябе. Толькі ў дзвярах яна павярнулася.

— Вы таксама храпяце, ба-пэр,— сказала яна, смеючыся ўжо ўголас.— Так храпяце, што праз два пакоі чуваць.

— Паненка,— сказаў я,— добры слых не апраўдвае непачцівасці. Старому чалавеку не варта рэзаць праўду ў вочы, асабліва калі ён толькі папраўляецца пасля хваробы.

— Я выходжу,— сказала ma belle-fille.— Але і ў пасцелі ўсё яшчэ буду смяяцца.

Ці мог я дазволіць сабе ў апошнія свае гады больш, чым закахацца ў адну яе прысутнасць? Калі б, не дай бог, я яшчэ на штосьці спадзяваўся, калі б меў больш ненасытныя вочы — колькі новых расчараванняў звалілася б на маё і так даволі зношанае сэрца! Якія жыццёвыя сілы, такія і жаданні! Ды трэба прызнацца — раз я ўжо лічу сябе чалавекам шчырым —

паколькі тое і другое не бывае сінхронным, надзеі старога ўсё-такі іншы раз забягаюць наперад, апераджаюць, хай сабе на нейкія там паўкроку, яго ўласную мудрасць. Зрэшты, раўнавагі ад гэтага ён не траціць. І не кляне бога, увесь час паглядаючы ў перадсвітальнай імгле бясконцай летняе ночы на стрэлкі гадзінніка, якія быццам застылі. І не кідаецца ў адчай, калі кожная адзінокая ноч яго здаецца яму годам, у той час як дзень, запоўнены Катрын, мільгае, нібы адна секунда. Яго настрой, што вада ў лужыне, якая моршчыцца ад самага слабога павеву ветрыку. Усім жа вядома, што лужына спакайнейшая за мора.

Вось так у канцы лета без гневу, пакорліва згадзіўся я на просьбу нявесткі снедаць аднаму; Тамашу не падабалася, што раніцаю — з-за сваёй службы ён уставаў раней — яму даводзіцца снедаць на кухні толькі ў кампаніі з Жофі. Бяспрэчны факт, узнагародай майму старэчаму недаверу было тое, што паведамленне гэтае, зусім нечаканае, нібы гром з яснага неба, я змог выслухаць, не засмуціўшыся ў душы, не адчуўшы расчаравання, нават не затаіўшы на Тамаша крыўды, хоць наша снеданне з дзяўчынкай было дагэтуль кульмінацыяй кожнага дня, якая цалкам сцірала памяць пра цяжкія ночы, зноў і зноў адкрывала сабою чараду маіх маленькіх дзённых надзей.

Праўда, да таго часу мне стала намнога лепш і я мог ужо некалькі разоў на дні на нейкую гадзіну пакінуць пасцель і, мала таго, з чорнай берлінскай хусткай Жофі на плячах мог разоў колькі абысці садам вакол дома. Ногі мае яшчэ дрыжалі, усе мае састарэлыя члены скрыпелі, нібы часткі з'езджанага аўтамабіля, і толькі мозг, жаліцца на які, дарэчы, я не меў падстаў нават у разгар хваробы, працаваў нішто сабе, працаваў, на жаль, і ноччу, змагаючыся з любым снатворным. Відаць, таму я ўгадваў кожную думку Жофі — рабіць гэта было не цяжка,— калі яна

падавала першы раз снеданне мне аднаму. «А ўсё-такі не кепска мець у доме старую служанку»,— відаць, думала яна хоць і без ухмылкі, але з хітрынкаю ў вачах.

— Ну, сядайце са мной, мая старэнькая,— сказаў я, падсоўваючы ёй апусцелае крэсла маёй нявесткі.— Чаго гэта вы зноў падслухоўвалі сягоння ноччу ў мяне пад дзвярыма? Хіба я не забараніў вам?

Але мая старая аканомка абышла стол і села насупраць мяне. З павагі ці ў насмешку — цяжка сказаць.

— Я таксама, бывае, не сплю ноччу, малады пан,— сказала яна.— Можна ж і глянуць, калі я ўсё роўна на нагах, а раптам што-небудзь вам трэба.

— Мне трэба, каб вы мяне не чапалі,— сказаў я.— Ці вядома вам, Жофі, што ўсмешка — самы высакародны выраз твару чалавечага? Вы ж толькі ўхмыляцца ўмееце.

— Зубоў жа ў мяне няма, малады пан,— сказала старая.— Вось як выпадуць некалі і ў вас...

— На гэта не разлічвайце! — ускінуўся я.— Я і перад смерцю буду кусацца. А, дарэчы, чаму вы ўхмыльнуліся ці, скажам, усміхнуліся, калі я запрасіў вас сесці? Маўляў, птушачка паляцела, цяпер і старая аканомка прыдасца?

Жофі памаўчала, нібы хацела праглынуць словы, якія рваліся з языка.

— Ну, пакаркайце яшчэ!

— Не мець бы вам горшага расчаравання, малады панок,— сказала старая аканомка і жаласліва наставіла на мяне свае маленькія вадзяністыя вочкі.— Вось як мяне ўжо не будзе, каб вас тут апекаваць, застанецеся вы адзін, як палец...

— За мяне, мая бабулька, не бойцеся,— сказаў я і, калі памяць мяне не падводзіць, нават засмяяўся,— такім старэчынам, як мы з вамі, надта многа расчара-

ванняў ужо не пагражае. Мы ведаем, што такое — маладыя... Але ж вядома і тое, што такое — старыя злыя зайздросніцы, якія чужому роту кавалка хлеба шкадуюць...

— Хопіць вам, не хвалюйцеся гэтак! — усклікнула Жофі.— Здароўю пашкодзіць.

І ўсё-такі ў той дзень, пасля майго першага ў адзіноце снедання, я ўстаў з-за стала з гаркотай у сэрцы, нават у сад не пайшоў. Не так варажба маёй аканомкі, якой я не надта верыў, мяне ўзбурыла, як нечаканае адкрыццё: здавалася, даўно ў душы ўсё перагарэла, а вось жа адна трапная іскра з пекла апаліла ўсяго мяне.

Калі не памыляюся, той год стаяла ў нас доўгая цёплая восень; мяне апранулі ў лёгкі шэры гарнітур, калі я першы раз асмеліўся выйсці з двара. Прайсціся па вуліцы Карая Лотца да канца, потым па алеі Эржэбет Сіладзі, па вуліцы Хазмана і назад — па Пашарэці. Мая нявестка хацела ўзяць мяне пад руку, відавочна, каб падтрымаць. Але мне не хацелася дакранацца да яе адзення.

— Паненка,— сказаў я,— я не люблю сенсацый. Хто-небудзь, бадай, яшчэ палічыць вас маёй незаконнай праўнучкай. Раз я ўжо хаджу па садзе, то і тут абыдуся без вашай літасцівай падтрымкі.

З таго цудоўнага асенняга дня я і адзначаю паварот у маім лёсе да наступнага, больш суровага жыццёвага этапа. Я ўспрыняў яго спакойна, мая ўсім вядомая мудрасць, відаць, прадбачыла — хоць уголас і не заяўляла пра тое,— што за ўздымам рана ці позна павінен настаць спад. Пасля абеду мне захацелася паўтарыць праходку, але аказалася, што ma belle-fille занятая. Як пра кур'ёзны факт згадваю — я нібы ў пастку трапіў. Праўда, першы страх праз некалькі хвілін прайшоў, і я смяюся цяпер, успамінаючы, які быў тады ўзрушаны, але — хвала маёй цудоў-

най памяці, што зноў ажыла — я і цяпер не забыў той сардэчнай спазмы, штосьці накшталт мікраінфаркту, якая прымусіла мяне зваліцца ў крэсла. Вядома, як хутка прывыкае чалавек да добрага і як здзіўляецца ён, у сваёй распешчанасці, калі крыніца дабрыні раптоўна высыхае. Але ж чаго, сапраўды, ён чакае сваёй упартай дурной свінячай мазгаўнёй, якую і вопыт тысячагоддзяў не прымірыў з лёсам?

Назаўтра пасля абеду Катрын зноў была занятая. І на трэці дзень, помніцца мне, таксама. Фарсану памяццю: яе першая адлучка выпала на пятніцу, яна пайшла ў Інстытут Францыі, дзе паказвалі нейкі фільм Труфо. Там яна пазнаёмілася з дзяўчынкай-француженкай Анамарыяй і яе жаніхом, таксама французам, і дамовілася спаткацца назаўтра. На трэці дзень, у нядзелю, яна паднялася з Тамашам на гару Хармашхатар, вярнулася дахаты позна вечарам, румяная, шчаслівая, стомленая, і адразу ж лягла. Тамаш забраў вячэру ў свой пакой.

Успамінаць яшчэ і пра чацвёрты дзень? Навошта? Так мне, бадай, і самому здасца, што я быў нешчаслівы, ці пакрыўджаны, ці хоць бы засмучаны, а я, між іншым, быў усяго толькі ахоплены тым пачуццём, якое бывае ў чалавека здаровага, калі ў яго на секунду-другую пачаліся перабоі ў сэрцы і ён проста не разумее, што з ім робіцца. Альбо яшчэ больш цвяроза: нібы ў тваім прывычна абсталяваным пакоі знялі са сцяны карціну і ты, глянуўшы на пусты светлы квадрат, бачыш толькі, што яе няма.

Натуральна, у першыя дні мне было нязвычна, што дзеўчанё раз-пораз выпырхвае з дому, іншы раз збягае з самай раніцы.

Аднойчы, калі яе адсутнасць, сам не ведаю чаго, асабліва мяне нудзіла, я паплёўся наверх, у яе пакой. Доктар, праўда, забараніў мне лазіць па лесвіцах, але чаму, падумалася мне, урэшце не быць і да сябе

бязлітасным. Як толькі я — крыху задыхаўшыся — прачыніў яе дзверы, мне адразу палягчэла. Хвалі істэрычнага настрою ўлегліся, вярнуўся спакой. У пакоі так пахла духамі Катрын, што на імгненне я проста ўбачыў, як яна сядзіць у сваім паласатым чырвона-чорным халаціку каля рабочага століка з кнігаю ў руках. Было прыемна глядзець на ўсё гэта. Я сеў у крэсла, глядзеў і нюхаў: адно гэта і старому не забаронена, думалася мне. Толькі сляды. Паблісквалі сярэбраныя хатнія туфелькі каля ложка, напамінаючы пра яе хуткую хаду. На ручцы крэсла кінута абы-як плацце, як сведчанне яе неакуратнасці. Ілюстраваныя газеты на падлозе, таксама каля ложка. Нявыключаная лямпачка над трумо. На начным століку шклянка, з бліскучымі бурбалкамі недапітай мінеральнай вады, са слядамі губной памады па краях. І без яе ўсё сведчыла, што яна тут. Хоць бы той жа кепска закручаны кран, які хлюпаў у ваннай. Калі праз добрае паўгадзіны, закончыўшы свой інвентарны вопіс, я спусціўся ўніз і лёг у пасцель, то пачуццё задаволенасці, у тым ліку і фізічнай, было такое поўнае, з якім, бывала,— даўным-даўно — ноччу выходзіў ціхенька са спальні маёй жонкі.

Аднак бліжэй да фактаў: хоць нявестка мая з той пары рэгулярна хадзіла ў Інстытут Францыі на чытанні, часта сустракалася з новай сяброўкай, францужанкай Анамарыяй, і з яе кампаніяй, хоць яна наведвала яшчэ і лекцыі па венгерскай літаратуры ва універсітэце, а вечарамі часам бывала з Тамашам у тэатры, я магу з чыстай душой паўтарыць, што час майго выздараўлення быў, бадай, самы шчаслівы ў маёй старасці, калі не ва ўсім жыцці.

Я жыў з прыглушанымі жаданнямі, як і належыць майму ўзросту і набытай з гадамі стоенасці, а таму кожны раз атрымліваў больш, чым нават жадаў. Хоць дом увесь час і пуставаў, перад абедам ён

напаўняўся смехам Катрын, яе лёгкімі задаволенымі ўздыхамі над талеркай. А мы ж іншы раз ямчэ і вячэралі разам! Пасля хваробы ў мяне пагоршыўся зрок, і шмат чытаць я не мог, дні мае праходзілі, можна сказаць, у стане самнамбулізму, з кароткімі абуджэннямі двойчы на дзень. Але я магу сказаць, што праходзілі мае дні і ў шчаслівым чаканні поўдня, а потым вечара.

Колькі цягнулася гэтае райскае жыццё, цяпер, калі я пішу гэтыя радкі, мне цяжка сказаць. Напэўна, даўжэй, чым здольная ўтрымаць у сабе звычайная чалавечая памяць. Тры месяцы?.. шэсць месяцаў?.. хіба гэта, скажам, мала для шчасця? Ужо надышла вясна, помніцца, калі да мяне пастукаўся мой сын Тамаш.

— Вы добра сябе адчуваеце, татка?

— Выдатна.

— Можа, хацелі ўжо спаць легчы?

— Хацець бы хацеў, сынок, ды заснуць не заснуў бы.

— У мяне да вас просьба.

— Ты палохаеш мяне, сынок. Вялікі, відаць, у цябе клопат, калі ты асмельваешся...

— З цяжкім сэрцам...

— Слухаю, кажы хутчэй.

Я зусім не згараў ад нецярпення, але ўжо здагадваўся пра нядобрае, не ведаючы, вядома, адкуль прыйдзе і куды скіраваны ўдар. Трывожыла і тое, што Тамаш прыйшоў адзін, без дзяўчынкі. Ці не пасварыліся, спытаўся я сам у сябе. Але гэта тычылася б толькі іх саміх. Адкуль жа тады гэты цяжар пад сэрцам, гэтае благое, як шок, які ўсяго паралізуе, прадчуванне? Прадчуванне спраўдзілася, і калі я пачуў Тамашава паведамленне, то ледзь здолеў стаіць раптоўную млоснасць. Каб з гэтым хутчэй скончыць, скажу адразу: яны хацелі ад мяне з'ехаць.

— Мы хацелі пераехаць ад вас, дарагі татка,— сказаў Тамаш.

Каб схаваць сваё ўзрушэнне, я павярнуўся да Тамаша спіной і падышоў да акна.

— Чаму?

— Хачу стаяць на сваіх нагах, татка.

— Ты на іх стаіш.

— Толькі на адной, татка. А мне хочацца пераканацца, ці магу я жыць, разлічваючы толькі на сябе самога.

— Іншых прычын няма?

— Сказаўшы, што хачу стаяць на ўласных нагах, татка, я злучыў у адно мноства розных меркаванняў, маральных і практычных. Калі дазволіце, я іх пералічу.

— Пералічвай! —выгукнуў я.

Я адчуў сябе блага, таму вярнуўся да ложка і сеў. Ведаючы грунтоўнасць майго сына Тамаша ў думках і словах, я ўбачыў, што калі буду ўвесь час стаяць на нагах, то яны не вытрымаюць. Зрэшты, як і сэрца, з ім трэба быць асцеражней.

— Пералічвай! — усклікнуў я.— Сядзь!

— Я не хачу да канца свайго жыцця існаваць за ваш кошт, на вашы грошы...

— Да канца жыцця? Здорава выходзіць! Ну, далей!

— Даруйце мне! Я ведаю, што вы не лічыцеся...

— Калі ведаеш, пяройдзем да наступнага звяна. Згода?

— Не так гэта ўсё мне і проста, татка. Чалавеку бывае неабходна даказаць сабе самому сваю сілу і жыццяздольнасць, калі ён не хоча здаволіцца тым, што «да канца жыцця» — даруйце! — застанецца сынам вядомага пісьменніка.

— Вы нават і не ўяўляеце, пане мой, як хутка забудуцца пра мяне пасля смерці. Ну, давай далей!

Я мог бы нават і не слухаць яго, я ўжо ведаў, што мяне разбілі, звалілі. Так, ведаў ужо з той самай хвіліны, як сын увайшоў у пакой. І дарэмна патыхала на мяне з акна пяшчотным вячэрнім ветрыкам, дарэмна мае любыя дрэвы за акном уздоўж Пашарэці...

— Мне непрыемна, татка,— сказаў Тамаш,— што вы так мала цэніце...

— Цаню, сын, цаню. Але пяройдзем, з твайго дазволу, да прычын практычных. Мы, другарадныя пісьменнікі, не любім лунаць вышэй аблокаў.

Тамаш толькі цяпер сеў; як відаць, для яго, чалавека маральнага, пачыналася самае цяжкае.

— Пакой наверсе вам малы? — спытаўся я, каб неяк зрушыць з месца.

Тамаш — сама сціпласць — праглынуў і гэта.

— Малы, татка. Пасля службы я хацеў бы працаваць яшчэ і дома, а ўдваіх у адным пакоі мы, хочаш не хочаш, перашкаджаем адно аднаму.

— Ну вось,— вырвалася ў мяне з гарыччу,— перашкаджаеце адно аднаму? Хто б мог падумаць!

Тамаш зірнуў на мяне запытальна і нічога не адказаў.

— Перабірайцеся на першы паверх! — сказаў я.— Сталовую і пярэдні пакой вельмі проста можна перарабіць на кабінет і спальню... А можна ж яшчэ і прасцей зрабіць, мне перабрацца наверх.

— Вы смеяцеся з мяне,— сказаў Тамаш. Па ім было відаць, што я пакрыўдзіў яго. І праўда пакрыўдзіў, прызнаўся я, хоць і не выказаўся ўголас. Чалавек, расхваляваўшыся, не можа не быць крыху несправядлівым.

— З вашага дазволу, татка, я прадоўжу,— сказаў Тамаш.— Нам яшчэ таму цеснавата ў адным пакоі, што Каці чакае дзіця.

Я зноў устаў, падышоў да акна. Было ціха і на двары і ў доме. Тамаш замоўк.

— Цяжарная?
— Трэці месяц.
— Дакладна?
— Дакладна, тата.
— У доктара былі?
— Былі.

Дзяўчынцы канец. Згары яно ўсё гарам! Я зноў сеў на ложак. Пакой паплыў са мною кругам, але потым спыніўся. Я спадзяваўся, што Тамаш не заўважае майго стану. Ён сядзеў перада мной, быццам сам зацяжарыў. Абодва мы не вымавілі ні слова. Парушыў маўчанне я; урэшце з нас дваіх я быў старэйшы, больш вопытны, бессаромнейшы.

— Віншую,— сказаў я.— Спадзяюся, будзе хлопчык, але не пойдзе ў дзеда з яго паганай спадчыннасцю. Навошта вы так рана пачалі? Хочаце паспрыяць дэмаграфічнаму росту нацыі?

— Магчыма,— сказаў Тамаш, як здалося мне, ужо крыху злосна.— Мы, татачка, абое хочам мець многа дзяцей.

— Placet [1],— сказаў я.— Адзінае дзіця і праўда нядобра... толькі не для вас, пане мой! Трэці месяц кажаш? Яшчэ ж можна пазбавіцца.

Стук у дзверы: Катрын.

Здзіўлена: — Ты тут, Тамаш?.. Весела: — І пра што ж вы тут удвух гутарыце?

— Паненка,— сказаў я,— альбо зайдзіце ў пакой, альбо застаньцеся за дзвярыма. Вы павінны ведаць, што я не цярплю гаварыць праз адчыненыя дзверы.

Але яна ўсё-такі засталася ў дзвярах. Рыхтуецца ўцячы?

— Ці не сказаў ты? — раптам расхваляваўшыся, спыталася яна ў Тамаша.

— Сказаў.

---

[1] Быць таму *(лац.)*.

— Усё?

— Усё,— адказаў Тамаш.

Дзяўчынка прычыніла за сабой дзверы. Твар яе палымнеў, шыя таксама. Яна ўсё стаяла ля дзвярэй.

— Усё? — перапытала яна. І рушыла да мяне: ногі неслі яе наперад, душа ж рвалася назад.

— Усё правільна, дзеці мае,— сказаў я.— Усё правільна. Старасць маладосці не пара. А ўжо як да іх трэцяе пакаленне далучыцца...

Раптам дзяўчынка кінулася, што ёсць сілы, да мяне і ля самага ложка прысела на кукішкі. У яе вачах стаялі слёзы. Яна схапіла маю бязвольна апушчаную руку і пацалавала. Я, вядома, адхапіў руку, але яна працягвала сядзець на кукішках перад ложкам.

— Мілы, дарагі ба-пэр,— сказала яна зусім ціха,— нічога, нічога не бойцеся! Я кожны дзень буду прыходзіць да вас, кожны дзень! Вы толькі падумаеце пра мяне, а я ўжо тут, нават клікаць не трэба, я здагадаюся, вы ж гэта ведаеце. Кожны дзень буду тут, а ў нядзелю і Тамаша прыхаплю. Вось убачыце...

Па яе збялелых шчоках каціліся дзіцячыя, буйныя слёзы, нават усхліпаў стрымаць яна не ўмела.

— Не плачце, паненка,— сказаў я,— і, галоўнае, мяне не суцяшайце. Я вельмі шкадую, што вы пераязджаеце, але з-за гэтага не адчайваюся. Карацей кажучы, вы цяжарная? Вы ўпэўнены ў гэтым?

— Упэўнена.

— На якім жа месяцы?

— На трэцім.

— У доктара былі?

— Былі, мілы ба-пэр! Але я буду прыходзіць кожны-кожны дзень, мілы, харошы ба-пэр.

— І калі будзе дзіця? Ну, няважна! Чаму вы так паспяшаліся, паненка? А ці вядома вам, што цяпер яшчэ не позна было б выгнаць плод?

— Не! — закрычала дзяўчынка.— Не!

Гэта прагучала з такім адчаем, з такім гневам, нібы я на ланцугу цягнуў яе да аперацыйнага стала.

— Чаму вы так паспяшаліся, паненка? — спытаўся я яшчэ раз.

— Тамаш хоча многа дзяцей,— сказала Катрын і зарыдала.— І я таксама. А з дзецьмі ў гэтым маленькім пакойчыку мы не памесцімся.

— Вядома, не,— сказаў я.— Не кажучы ўжо пра тое, што я цярпець не магу дзіцячай мітусні. І Тамаша ж я адпраўляў у Швейцарыю не на тое, каб ён там пазнаёміўся з вамі, паненка, а таму, што ён перашкаджаў маёй працы. Вам, пэўна, вядома, што праца мне даражэй за ўсё. І нішто іншае мяне не цікавіць.

— Я буду прыходзіць кожны дзень, мілы бапэр,— сказала Катрын.

— Мы раней жылі з Жофі ўдваіх,— сказаў я,— пражывём і цяпер. Але як вы, аднак, збіраецеся раздабыць кватэру? Цяпер жа іх не прапаноўваюць на кожным рагу, як у тыя часы, калі я, на сваю бяду, ажаніўся.

— Кватэра ўжо ёсць, дарагі тата,— сказаў Тамаш.

— Неверагодна!

Сэрца маё зноў сціснулася. На гэта я не разлічваў.

— Неверагодна,— паўтарыў я.— Спадзяюся, дзесьці тут недалёка.

— У Кішпешце. Зусім побач з маёй фабрыкай,— сказаў Тамаш.

— Разумею,— сказаў я.— І паненка збіраецца штодзень наведваць мяне з Кішпешта?

— Адна кватэра ў кааператыўным доме аказалася вольнай,— сказаў Тамаш,— і калі б вы, тата, маглі крыху памагчы...

— Грашыма? Усімі, колькі іх у мяне ёсць, сынок.

Я яшчэ паварушыў крыху мазгамі, якія ад хвалявання цямілі куды больш марудна, чым звычайна.

— Але ці не лепш было б...

Я не дагаварыў. З першай хвіліны, як загаварыў Тамаш, я ведаў, што я пераможаны.

— Дробязь,— сказаў я.— Проста я быў падумаў, што калі б не спешка, можна было б знайсці кватэру тут, недалёка ад мяне, каб дзіця расло на здаровым пашарэцкім паветры. А Тамашу я купіў бы аўтамашыну... Ды не будзем пра гэта, сынок! Ты кажаш, кватэра ў Кішпешце гатовая?.. Побач з фабрыкай?

— Можна пераязджаць хоць заўтра,— сказаў Тамаш.

— Дзеці мае,— сказаў я,— праз усё маё ціхае, не вельмі цікавае жыццё, якое толькі ў маладосці ведала сякія-такія сціплыя ўзлёты, я клапаціўся пра адно: каб моцна не турбуючыся, не лічачы, траціць усе грошы, сілу, здольнасці, колькі б іх у мяне ні было. Пераймаючы прыроду, я выхаваў у сабе бесклапотнасць, перакананы, відаць, у сваёй бессмяротнасці. Калі хто-небудзь хацеў абдурыць мяне, пазбавіўшы грошай ці прадаўшы мяне, я з яго адно пасмейваўся. Толькі ў апошнія гады я лавіў сябе зрэдку, і заўсёды пагарджаючы сабой, на некаторай скупасці. Калі адзін-два разы я патрабаваў у Жофі справаздачы пра гаспадарчыя выдаткі, то пасля даводзілася рабіць сабе добрую парыльню, так было моташна. Выказаўшы ўсё гэта замест пралога, я хацеў бы цяпер, калі мы расстаёмся з вамі, забяспечыць вас на дарогу серыяй добрых парад, ведаючы, вядома, што вы імі не пакарыстаецеся. Першая парада: не ганіцеся за эканоміяй, дзеці мае! Скнарнасць ёсць другая кара боская пасля першай — выгнання нас з раю. Не прыпадабняйцеся да мурашак, выдаткоўвайце без страху, радасна, шчодра! Пакуль грошы ёсць у мяне, яны

ёсць і ў вас. Не адкладвайце на чорны дзень, эканомія раз'ядае маладую душу, як жучок дрэва. На спадчыну, аднак, дужа не разлічвайце, бо пасля маёй смерці скарбаў застанецца роўна гэтулькі, колькі плёну ад працы маёй — нікольки. Ну, магчыма, выдадуць яшчэ раз дзеля прыліку адну-дзве кніжкі, але і тут радавацца мала прычын, спадчыннікам жа належыць толькі чацвёртая частка ганарару.

Другая парада: не трапляйце на кручок дзесяці запаведзяў, сын мой і мая нявестка! З іх, дзесяці, выберыце на свой густ тыя, якія вам хочацца пераняць. Не паддавайцеся грамадскай крывадушнасці, перавыхаваць чалавецтва вы не можаце, сябе ж загубіце. Будзем прыстойнымі толькі ў той меры, якую вытрымліваюць нашы косці. Калі хто з вас, падбухтораны Рычардам III, захоча стаць нягоднікам — хоць, як я бачу, у вас, паненка, і ў вас, пане мой, схільнасці да гэтага мала,— але калі ўсё-такі спакуса пачне казытаць вашы сэрцы, ці розум, ці ваш пол, не спяшайцеся адмаўляцца ад ажыццяўлення вашых летуценняў. Я гавару не пра тое, што ў жыцці можна дамагчыся вялікіх поспехаў толькі хітрасцю, гвалтам, ашуканствам, праліццём крыві, гэта ж зразумела і так, але ж ёсць мэта яшчэ больш вартая, чым поспех, важна пастарацца жыць мірна з нашымі слабасцямі. Хоць і поспехам, вядома ж, пагарджаць не трэба. Нельга забывацца і на тое, што чалавечая фанабэрыя ненасытная і, як ненармальная маці, яна жарэ ўласныя, у муках народжаныя, дасягненні. Такім чынам, застаецца адна Прыгода, але калі, чаго добрага, яна прывабіць вас... ды дзе там, цяпер вартую Прыгоду знойдзеш хіба што ў злачынстве ці ў сексуальным жыцці, а я вельмі сумняваюся, каб вы былі здольныя ў любой з гэтых галін падняцца да вяршынь подласці. Я, напрыклад, аказаўся на гэта слабы.

Аднак старайцеся, паненка і панок, утрымаць раўнавагу паміж скнарнасцю свету і невымернасцю нашай прагнасці. Для дасягнення гэтай мэты рэкамендуецца сярод усяго іншага быць пачцівым да ўлады. Не будзем даследаваць ні крыніцу ўлады, ні мэты, а тым больш яе прыроду, бо чалавек ад гэтага ўсяго толькі нервуецца, злуецца, даходзіць да шаленства, а ў лепшым выпадку пачынае тужыць. Ні ў якім разе не асуджайце яе, гэта можа кепска кончыцца! Але і ў сабе асабліва капацца не трэба: такім толькі чынам і можа быць знойдзена гэта дурная раўнавага, патрэбная дзеля захавання чалавечага грамадства.

Я зноў сеў на ложак, я вельмі змарыўся.

— Усё астатняе потым, у Кішпешце! — сказаў я.

Дні, што засталіся да іх ад'езду — два ці тры тыдні,— я запоўніў пражэктамі. Часу на гэта ў мяне было ўдосталь, нявестка з раніцы да вечара бегала па магазінах. Купляла ў камісійным магазіне мэблю, кухню, набывала ўсё-ўсякае ва універмагах, на барахолцы на Эчэры, вечарам з'яўлялася страшэнна змораная, але шчаслівая. Вячэралі мы ўтраіх; пасля вячэры, прывучаючы сябе да адзіноты, я ішоў у свой пакой.

Я вырашыў, што снедаць пасля іх ад'езду буду разам з Жофі. Радасць, вядома, невялікая, але я прывыкну. Жофі таксама спачатку будзе натурыцца, але ўрэшце згодзіцца. Будзем, двое старых, жаваць на пару. Я больш не збіраюся асуджаць сябе на адзіночнае зняволенне. З нас дваіх, спадзяюся, я памру першы. Я і больш струхлелы, ды і, праўду кажучы, старэйшы, але, з другога боку, Жофі, нябога, усё жыццё цягнула на сваёй гарбатай спіне ношку куды цяжэйшую, чым я. Проста не перастаю здзіўляцца, з якім спакоем церпіць яна знявагі, якія наносіць старасць; нібы няма нічога на свеце больш натуральнага, чым тое, што ў старасці чалавек занепадае

і памірае. Яна ж усё церпіць, ды яшчэ да гэтага і вясёлая.

Дык вось, снедаць мы будзем удваіх, потым я пачытаю ёй газету. Абедаць?.. вячэраць?.. таксама разам.

З дому выходзіць буду рэдка, а то раптам у Катрын надарыцца нагода пабываць у нашым баку і яна забяжыць, а мяне дома няма. Пахаджу ўжо лепш па вядомым маршруце — вуліца Карая Лотца, алея Эржэбет Сіладзі, вуліца Хазмана, Пашарэці — дзе мяне няцяжка будзе дагнаць. А ўвогуле хутка восень, дажджы, і няма чаго будзе выходзіць. Папрашу лепш выпаліць у маім пакоі, бо пасля хваробы я стаў больш мерзнуць.

Сталовую і пярэдні пакой загадаю замкнуць, есці будзем у маім рабочым кабінеце.

Можа, куплю шчанюка пулі [1]. Сабака жыве гадоў дзесяць-дванаццаць, ён і праўдзе мяне да магілы. Сабака, кажуць, больш адданы, чым чалавек.

У мае планы — я ж прадбачлівы — уваходзіла таксама навучыць Жофі гуляць у шахматы. Я і сам гулец кепскі, хай жа сабака ля маіх ног стане цярплівым сведкам бітвы двух геніяў. А яшчэ рашэннем шахматных задач займуся вольным часам.

А між тым Тамашаў пераезд — як ужо згадваў — праз два-тры тыдні пасля апісанай мной размовы прайшоў гладка, без лішніх чуллівых сцэн. У дзеўчаняці, калі не памыляюся, сталі вільготныя вочы, але мары пра шчаслівую будучыню хутка іх асушылі. Скарб іх змясціўся ў адным таксі; накупляныя за апошнія дні рэчы чакалі ў кішпешцкай кватэры. Я правёў іх да брамкі, нават памахаў услед рукою.

Калі я вярнуўся, кватэра здалася мне пустою. Я не стаў узбірацца наверх, хоць цяпер хадзіць па

---

[1] Венгерская парода пастуховых сабак.

лесвіцы мне не было цяжка. Я бясспрэчна падужэў, паздаравеў. Праўда, уночы пасля exodus [1] я не заплюшчыў вачэй, хіба толькі пад раніцу на нейкую гадзіну, і ў сем ужо быў на нагах, а ўвогуле я быў спакойны. Свяціла сонца, і гэта мне таксама дапамагала. Спадзеючыся, што не сустрэну Жофі, я выйшаў у сад і добрай паўгадзіны хадзіў вакол дома. У пажоўклай лістоце маіх любых арэхавых дрэваў вялі размову пяць-шэсць чорных драздоў, я люблю іх посвіст больш, чым уедлівае саладжавае булькание канарэек.

Вось і пакінулі мяне назусім маладыя, думаў я, ходзячы па садзе. А на што мне, струхлеламу старому, было спадзявацца? Блаславі цябе бог, маё апошняе каханне!

Вярнуўшыся дахаты, крыху стомлены, я сеў за свой пісьмовы стол. Калі я, упершыню пасля хваробы, узяў у рукі пяро, паклаў на калені сшытак, мяне ахапіла тое ціхае хваляванне, якое ўжо амаль шэсцьдзесят гадоў я перажываў кожны раз, як толькі садзіўся за работу. Гэта мяне крышку супакоіла.

---

1 Адыход *(лац.)*.

# ПАСЛЯСЛОЎЕ

Цібар Дзеры (1894—1977) — адзін з самых вядомых за межамі Венгрыі прадстаўнікоў яе сацыялістычнай літаратуры. Да яго венгерская літаратура была шырокавядомая ў свеце пераважна сваёй паэзіяй і драматургіяй. Літаратурная грамадскасць Венгрыі лічыць менавіта Цібара Дзеры самым выдатным прадстаўніком нацыянальнай прозы.

Адштурхнуўшыся ад нацыянальнай традыцыі Мора Іокаі і Жыгманда Морыца, «сінтэзуючы — кажучы словамі Ласла Ілеша — традыцыю з дасягненнямі новага вопыту», шмат узяўшы ад Томаса Мана і Марселя Пруста, Цібар Дзеры прынёс у венгерскую прозу адначасна з сацыяльнай маштабнасцю і гістарычнасцю мастакоўскага мыслення псіхалагічную культуру і філасафічнасць.

Савецкаму чытачу Цібар Дзеры вядомы быў пераважна сваім раманам «Адказ», які ў 1974 годзе выйшаў на рускай мове. Але найбольшую славу на радзіме і за яе межамі прынеслі яму раман «Няскончаная фраза» і аповесць «Мілы бапэр!..». Менавіта ў гэтых творах адбыўся арганічны сплаў глыбокага лірызму і тонкай іроніі, а майстэрства сюжэтабудовы падсвечана «трагічнай альбо, наадварот, іранічнай гімнастыкай розуму» (Імрэ Добазі).

Цібар Дзеры пражыў вельмі няпростае і нялёгкае, але надзвычай цікавае і змястоўнае жыццё.

Нарадзіўся ў забяспечанай буржуазнай сям'і, але ў дзяцінстве шмат папакутаваў ад туберкулёзу касцей. Вылечыўшыся, ён у раннім юнацтве з галавой кідаецца ў вір жыцця. Пісаць пачынае рана і ўжо ў 1917 годзе ў часопісе «Нюгат» («Захад») друкуе першыя свае творы. І, як піша Імрэ Добазі, «яго адразу прыкмецілі, тады яшчэ, праўда, не літаратурная крытыка, а пракуратура». За апавяданне «Лія» маладога аўтара аддаюць пад суд.

У 1918 годзе Цібар Дзеры ўступае ў Венгерскую камуністычную партыю, а ў гады Венгерскай сацыялістычнай рэспублікі становіцца членам Дырэкторыі пісьменнікаў.

У час контррэвалюцыйнага тэрору эмігрыруе. Дамоў вяртаецца толькі ў 1926 годзе, але ненадоўга. Хутка зноў вымушаны пакінуць радзіму. Пачынаюцца блуканні па Еўропе — пабываў у Нарвегіі, Румыніі, Францыі, Югаславіі. А ў 1933 годзе напярэдадні фашысцкага путчу пераязджае ў Германію. У 1934 годзе ўдзельнічае ў паўстанні венскіх рабочых, пасля чаго вымушаны ўцячы аж на іспанскі востраў Маёрка ў Міжземным моры.

І дзе б ні быў — піша, піша. Піша без ніякай надзеі надрукавацца на радзіме. Каб неяк пражыць, перакладае розныя тагачасныя «бестселеры». За чатыры гады стварае свой самы славуты і найбольш дасканалы твор — раман «Нясконачаная фраза», які пачаў пісаць у Вене ў 1933 годзе.

Толькі 1945 год вяртае Цібару Дзеры радзіму і магчымасць друкавацца. Выдае раман «Нясконачаная фраза». Піша навелы, драмы і найбольшы свой твор, раман «Адказ» (1950—1952), у якім шырока і маштабна паказвае жыццё Венгрыі 20-х — пачатку 30-х гадоў, фашызацыю краіны і шляхі да свядомай барацьбы найлепшых прадстаўнікоў рабочага класа.

На вялікі жаль, раман не быў зразуметы тагачаснай схематызатарскай, вульгарызатарскай крытыкай, якая паставілася да аўтара рамана вельмі несправядліва, абвінаваціўшы яго ў многіх уяўных грахах. У адказ на такую крытыку і сам аўтар, на жаль, дазволіў сабе некаторыя выказванні, якія скарыстала ў сваіх мэтах контррэвалюцыя 1956 года.

Тое, што пісьменнік, хоць і на кароткі час, аднак «уступіў у канфлікт з тым самым ладам, за які ўсё жыццё змагаўся і як работнік партыі і як пісьменнік» (Ласла Ілеш), стала яго найвялікшай трагедыяй.

Але ў Цібара Дзеры хапіла сілы і мудрасці вярнуцца ў строй будаўнікоў сацыялістычнай Венгрыі. Не апраўдаў

ён надзей нашых класавых працiўнікаў на Захадзе. З 60-х гадоў у яго пачынаецца асабліва плённы творчы перыяд. Ен піша аповесці «Пан А. Г. у горадзе Н.», «Мілы ба-пэр!..», мемуары «Прысуду няма», рэгулярна публікуе «бягучыя» замалёўкі «Дарункі дня», якія з вялікай цікавасцю чытаюцца ўсёй краінай.

У 1974 годзе, у дзень васьмідзесяцігоддзя, Цібару Дзеры прысуджаецца ганаровая дзяржаўная прэмія Лаёша Кошута.

Аповесць «Мілы ба-пэр!..» Цібар Дзеры напісаў напярэдадні свайго васьмідзесяцігоддзя. Фабулу аповесці, вядома, нельга зводзіць да рэальнай біяграфіі пісьменніка, але аповесць кранае найперш менавіта бясстрашнай шчырасцю яе аўтара перад самім сабой і перад чытачом. З гэтае «прыватнае» гісторыі кароткага і нешчаслівага, але вельмі ж моцнага і чыстага кахання зусім старога чалавека да маладзенькай нявесткі паўстае трагедыя жыцця неардынарнага чалавека, які за сваёй з'едлівай самаіроніяй хавае душу тонкую і ўражлівую. З некалькіх лаканічных, але з выключнай мастацкай сілай выпісаных эпізодаў перад намі, як жывыя, паўстаюць прадстаўнікі розных слаёў сучаснага вялікага горада, асабліва пэўнай часткі яго творчай інтэлігенцыі. Але гэтая маленькая аповесць уздымае і вялікія агульначалавечыя праблемы — узаемаадносіны бацькоў і дзяцей, маладосць і старасць, жыццё і смерць і да т. п. Чытача прывабіць майстэрства псіхалагічнага партрэта і зграбнасць сюжэта, нягледзячы на ўсе яго часавыя і прасторавыя «скачкі». З не меншай цікавасцю прачытае ён і лірыка-філасофскія развагі аўтара, у якіх за іроніяй, а часам і сарказмам мы адчуваем не толькі боль за чалавека і непрыняцце ўсяго таго, што калечыць чалавечую душу, а і стоеную патэтыку, задушэўны лірызм.

Аповесць «Мілы ба-пэр!..» сведчыць, што Цібар Дзеры — сапраўдны майстар прозы, слова якога адгукаецца ў сэрцах чытачоў розных краін свету.

*Генадзь Шупенька*

Дзеры Ц.
Д43 Мілы ба-пэр!..: Аповесць/[Пер. і пасляcл. Г. Шупенькі].—Мн.: Маст. літ., 1983.—135 с., іл.
У пер.: 85 к.

У творах вядомага венгерскага пісьменніка Цібара Дзеры з вялікай псіхалагічнай праўдай паказана ўнутранае жыццё сучаснага чалавека. Герой аповесці «Мілы ба-пэр!..», стары пісьменнік, які ставіцца да сябе і навакольнага свету вельмі скептычна, у сваім чыстым і надзвычай моцным каханні да жонкі адзінага сына нечакана раскрывае прывабныя якасці свае душы і найвышэйшую мудрасць — разумець жыццё.

Д $\frac{4703000000-105}{М 302(05)-83}$ 164—83

ББК 84.4Вн
И(Венг)

ДЕРИ ТИБОР
Милый бо-пэр!..
Повесть

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Л. І. Каўрус. Мастак Г. Г. Харлан. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар К. А. Капцэвіч.

ІБ № 1735
Здадзена ў набор 10.01.83. Падп. да друку 15.06.83. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,48. Ум. фарб.-адб. 5,48. Ул.-выд. арк. 6,02. Тыраж 9000 экз. Зак. 3268. Цана 85 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.